Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ЧЫРВОНЫ СЬЦЯГ



ШТОМЕСЯЧНАЯ СТУДЭНЦКАЯ ЧАСОПІСЬ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ:
Крыніцкага, Кацэнбогена, Кахановіча, Ляўкова і Шапавалава

Верасень—Кастрычнік 1925 г.

№ 5—6.

Орган Цэнтральнага бюро Пролетарскага студэнцтва Беларусі і Цэнтральнага Кіраўніцтва зямляцтваў г. Масквы

МЕНСК—1925.

## Група супрацоўнікаў часопісі „Чырвоны Сьцяг“.



(Зьлева на права)—У нізу: Р. Сапун, Ю. Майзель, А Баркан.
Сядзяць: Сандармірскі, Зэліксон, Валынскі, Ляўкоў, Шапавалаў, проф. Вальфсон, проф. Кроль.
Стаяць: Марук, Бараноўскі, Мяцельскі, Сьняжко, Галавач, Скардзіс, Дарашэвіч.

Мік. Шапавалаў.

# Задачы вышэйшае адукацыі ў БССР.

## Да новага навуковага году.

Задачы вышэйшае адукацыі ў БССР у значнай меры азначаюцца яе гаспадарчымі і культурнымі запытаньнямі, агульнай політыкай краю, яе міжнародным і ўнутраным становішчам. У БССР і СССР яна зьяўляецца аднэй з галін адзінае плянава-організаванае народнае гаспадаркі, аднэй з частак агульнага дзяржаўнага мэханізму, які накіроўвае сваю энэргію на здавальненьне патрэб краю.

У адпаведнасьці з гэтымі патрэбамі будуюцца, жывуць і разьвіваюцца нашы Вышэйшыя Навуковыя Ўстановы, якія даюць дзяржаве спэцыялістых у розных галінах яе гаспадаркі.

Гаспадарчыя і культурныя патрэбы БССР у параўнаньні з іншымі Савецкімі Рэспублікамі і абкружаючымі яе капіталістычнымі дзяржавамі некалькі асабістыя.

Нізкі культурны ўзровень, вялізарны процант няпісьменнага насельніцтва—яўныя сьляды папярэдняга нам прыгнечаньня і царскага самавольства, поруч з адстаўшай тэхнікай, первястковасьцю формаў сельскае гаспадаркі, не разьвітай прамысловасьцю,—вось асаблівасьці, якія характарызуюць БССР. Калі да гэтага дадаць неспагаднасьць для ее разьвіцьця прыродных умоў: адсутнасьць выхаду да мора, адсутнасьць значных суднаходных рэк, шмат балот, нявыгаднасьць шляхаў зносін і малую ўрадлівасьць глебы, то ўсе даныя, якія азначаюць запытаньні БССР і запінаюць яе разьвіцьцё, выступяць перад намі ў больш выразнай форме.

Гэтакія ўмовы, якія налажылі адбітак на характар нашае вышэйшае адукацыі. І ня дзіўна, што значна пераважваюць у нас сельска-гаспадарчыя, пэдагогічныя, мэдычныя вышэйшыя навуковыя ўстановы, як самыя неабходныя дзеля патрэб БССР.

Народжаныя Кастрычнікавай Рэволюцыяй яны маюць, параўнаўча, небагатае мінулае і афармляюцца ў нашу форму.

Наша вышэйшая адукацыя толькі ў наступаючым навуковым годзе становіцца на моцны шлях свайго ўмацаваньня і разьвіцьця.

У якой політычнай абстаноўцы адбываецца гэты процэс будаваньня вышэйшае адукацыі, якія задачы ў сувязі з гэтым стаяць перад ВНУ, чым яны дыктуюцца,—вось пытаньні, на якія павінен пасьледваць адказ.

### Політычная абстаноўка ідэолёгічнай барацьбы.

Кастрычнікавая Рэволюцыя патрасла стары грамадзкі стан і палажыла аснову новай Савецкай Комуністычнай эры, ня толькі ў краёх, дзе яна перамагла, але і ў краёх, якія не зьмянілі свае грамадзкае будовы, г. зн., якія дасюль засталіся капіталістычнымі. Мы ня можам яе разглядаць як рэволюцыйнае патрасеньне, якое адбылося з мэтай пе-

рабудовы на новых комуністычных пачатках толькі аднаго краю— Расіі. Па сваёй сутнасьці адбыўшаяся ў нас рэволюцыя павінна перабудаваць усю сучасную капіталістычную грамаду.

У гэтым яе вялікі гістарычны сэнс, і ў гэтым напрамку яна зьяўляецца толькі таўчком, парываньнем, пачаткам яшчэ далёка ня скончыўшаеся сусьветнае рэволюцыі.

Знаходзячыся ў капітылістычным абкружэньні, СССР зьяўляецца насіцелем вялікае ідэі—вызваленьня чалавецтва ад існаючага ўціску. Дзеля гэтага зусім зразумела, што стары капіталістычны сьвет з асаблівай варожасьцю вядзе траўлю супроць заложаных рэволюцыяй пачаткаў. Ён імкнецца зьнішчыць яе заваёвы. Ён учыняе замах на існаваньне новае ўнесенае ў сьвет сыстэмы грамадзкае будовы. І чым больш умацняюцца гэтыя заложаныя рэволюцыяй пачаткі, чым больш нарастаюць супярэчнасьці між дзьвюма дзяржаўнымі сыстэмамі будовы савецкай і капіталістычнай, тым барацьба між імі робіцца больш заядлай і рашучай.

Гэты процэс адбываецца як бы па фізычнаму (не прылажымаму да грамадзкіх зьяваў) закону Ньютона: „дзеяньне раўно супроцьдзеяньню".

І як раз мы заўважваем асабістую зьяву стабілізацыі капіталізму поруч са стабілізацыяй савецкае будовы. Гэта—гнацьцё на прыз існаваньня тае ці іншае дзяржаўнае формы. Чыя возьме. Хто пераможа.

Пачатая рэволюцыяй і грамадзянскай вайною гэтая барацьба ніколькі не памяншаецца, але, згаджаючыся з абстаноўкай, нават умацняецца, зьменьваючы сваю форму, прыёмы і мэтоды, вельмі ўскладняючы пражываемы пэрыод.

Узрастаючыя соцыяльныя антогонізмы прасунуліся ва ўсе сітавіны грамадзкага жыцьця. Ніколі так не пакутвалі прынцыпы об'ектыўнасьці, як у пражываемы намі момант.

Іх як бы й ня было. Усё разглядаецца праз прызму клясавай суб'ектыўнасьці, клясавых цікавасьцяй. Гэта яскрава праяўляецца і ў навуцы, найбольш слаба зачэпленай рэволюцыяй.

Тады, калі рэволюцыя магутным парываньнем перабудоўвала на новы лад грамадзкае жыцьцё, за гэтым процэсам формуючагася „існаваньня" не магло так хутка пасьпяваць азначанае ім (існаваньнем) сузнаньне. У ім яшчэ даволі доўга і нават цяпер пераважваюць элемэнты мышленьня, уласьцівыя старому грамадзкаму капіталістычнаму стану. Можна сказаць, што ў гэтым напрамку культурная, ідэолёгічная рэволюцыя ў нас яшчэ поўнасьцю ня скончылася.

Дасюль поруч з барацьбой экономічнай мы заўважваем барацьбу ідэолёгічную. Гэта барацьба пролетарскай і буржуазнай грамадзкасьці ў нашых політычных умовах капіталістычнага абкружэньня нясе новыя небясьпекі для грамадзкага жыцьця і пабудовы Савецкіх Рэспублік. У процэсе будаўніцтва вышэйшае адукацыі яна была асабліва заметна. Толькі агульнае экономічнае ўмацаваньне СССР і БССР з кожным годам прыносіць нам на ідэолёгічным фронце новыя перамогі. Але яны ня лёгка дастаюцца рабочай клясе. Старая будова не давала яму магчымасьці заўладаць ідэолёгічнымі вышынямі. Вышэйшая адукацыя служыла мэтам клясавых цікавасьцяй і прадаўжае ім служыць дасюль. Розьніца ў тым, што раней яна належала кучцы кіруючае клясы, а цяпер рабоча-сялянскім масам, якія кіруюць краем.

## Бальшавізацыя ВНУ.

Вышэйшая адукацыя ў СССР павінна адказваць запытаньням абкружаючага яе грамадзкага жыцьця. Адпаведна свайму клясаваму характару, яна павінна напоўніцца зьместам, які абагачае савецкае будаўніцтва. Яна ня толькі павінна праводзіць у масы, разьдзяляць і ўмацоўваць прынцыпы, на якіх трымаецца грамадзкае будаўніцтва Савецкіх Рэспублік, але й весьці барацьбу за прызнаньне іх сучаснай навукай.

Рабочай клясе зусім не абыяк: ці будзе вышэйшая адукацыя памагаць яе практычнай рэволюцыйнай барацьбе, альбо прабываць у надхмарных вышынях, ці будзе яна разьдзяляць з ім гэту барацьбу, альбо паўставаць супроць яе. Як кляса-гэгэмон, закліканая вызваліць чалавецтва ад прыгнечаньня экономічнага, яна вядзе непасрэдную рашучую барацьбу з прыгнечаньнем ідэолёгічным. У будаўніцтве вышэйшае адукацыі яна кіруецца клясавымі цікавасьцямі, якія выцякаюць з яе практычнай рэволюцыйнай барацьбы.

А калі гэта так, то насіцелі вышэйшае адукацыі ў СССР і БССР—нашы ВНУ павінны стаць асяродкамі марксыцкай рэволюцыйнай думкі і ідэй Ленінізму.

У БССР гэту задачу можна паставіць ва ўсёй яе поўнасьці. Ад яе спагаднага вырашэньня залежаць посьпехі ня толькі нашага гаспадарчага будаўніцтва, але й пабеда над капіталістычным сьветам.

Задачы ВНУ зусім ня зыходзяць да падрыхтоўкі спэцыялістых у розных галінах савецкага будаўніцтва. Гэта адзін бок агульнай задачы: падрыхтоўка „спэцыялістых“ рэволюцыйнай барацьбы за комунізм. Дзеля гэтага поруч са спэцыяльнай падрыхтоўкай, атрымліваемай у ВНУ рабоча-сялянскімі масамі, трэба прывіць ім навуковы марксыцкі, рэволюцыйны мэтод падыходу да складаных зьяваў грамадзкага жыцьця, каб, уладаючы ім яны маглі ня толькі пасьпяхова весьці рэволюцыйную барацьбу, але й правільна разьбірацца ў складанай політычнай абстаноўцы перажываемага моманту.

Дапасаваць тэорытычныя веды да практычных запытаньняў грамадзкага жыцьця—гэтакая формуліроўка задач вышэйшае адукацыі, выказаная Леніным. Ажыцьцявіць яе азначае ажыцьцявіць бальшавізацыю ВНУ, бо сутнасьць бальшавізацыі ВНУ і зыходзіць да таго, каб навучыцца прыкладаць навуковыя тэорытычныя веды да практыкі жыцьця.

Дзеля зьдзяйсьненьня гэтае вялікае задачы раней усяго неабходна прывесьці ў строгую сыстэму атрымліваемую ў ВНУ адукацыю, каб яна ня была завалена незгаджаючаюся з жыцьцём адцягнутасьцю, але зусім адказвала запытаньням сучаснасьці.

Рэформаваць ВНУ, унесьці ў выкладаньне шэраг новых жыцьцёвых дысцыплін, у канцы зьмяніць мэтоды самога выкладаньня,—гэткія неабходныя задачы вышэйшае адукацыі БССР.

Разам з гэтым неабходна весьці сыстэматычную працу па падрыхтоўцы да выкананьня гэтай задачы профэсарска-настаўніцкага складу ВНУ, без якога не магчымы ніякія пачаткі ў будаўніцтве справы вышэйшае адукацыі.

## Беларусізацыя і ВНУ.

Задачы будаўніцтва вышэйшае адукацыі ў Беларускай Рэспубліцы ўскладняюцца яе нацыянальным па форме і пролетарскім па зьместу характарам.

Зусім правільна сказаў у адным з сваіх артыкулаў тав. Крыніцкі, што „чыстай“ культуры няма і быць ня можа. „Нацыянальная па форме і пролетарская па зьместу“—гэтакай павінна быць наша культура, альбо ў прыкладваньні да нашага пытаньня: у зьмест вышэйшае адукацыі ў нас павінны ўносіцца элемэнты пролетарскія, апранутыя ў нацыянальную форму. Гэты прынцып нацыянальнай політыкі ў сучасны момант ня ўсімі ясна разумеецца. А між тым вышэйшыя навуковыя ўстановы павінны зьўляцца яго правадніком і пашыральнікам.

Аднэй з важных задач нацыянальнай політыкі БССР зьяўляецца беларусізацыя рэспублікі, беларусізацыя не ў хадзячым прадстаўленьні яе іншымі ў сэнсе пераводу дзелаводзтва ўстаноў на беларускую мову і абучэньня ёй сваіх супрацоўнікаў. Не. Сэнс беларусізацыі больш глыбокі, чым гэта здаецца. Сэнс яе: укараненьне ў рабоча-сялянскую масу ня толькі ведаў мовы, быту, зямлі, культуры, гісторыі, але таксама і барацьбы беларускага народу за сваё нацыянальнае і соцыяльнае вызваленьне ад капіталістычнага ўціску.

У зьдзяйсьненьні гэтае задачы ВНУ Беларусі павінны заняць адно з найбольш сур'ёзных і адпаведных месц. Трэба, каб вышэйшая адукацыя найбольш прыстасавала свае пляны да выкананьня гэтай вялікай задачы. Пачатак у гэтым напрамку нашымі ВНУ зроблены, неабходна паглыбіць гэту працу.

Трэба памятаць, што беларусізацыя справа ня столькі політычнай важнасьці, сколькі неабходнасьці, што ад посьпеху яе залежаць адраджэньне нашае гаспадаркі, узмацненьне сувязі гораду з вёскай і далейшы прогрэс.

Задачы ВНУ Беларусі—быць правадніком гэтых прынцыпаў нацыянальнай політыкі ў жыцьцё.

Надыходзячы навуковы год павінен умацаваць позыцыі вышэйшае адукацыі ў Беларусі, узмацніць у сьценах ВНУ пролетарскі ўплыў, правесьці дыктуемыя сучаснасьцю патрабаваньні аб рэформе ВНУ, закласьці цьвёрды фундамант асяродку навукова-рэволюцыйнай, марксыцкай (ленінскай) думкі і тады—за нашымі ВНУ вялікая будучына.

---

Мажэйка.

# Да перавыбараў студэнцкіх організацый.

Надыходзіць час перавыбараў студэнцкіх організацый. Гэта адзін з самых сур'ёзных момантаў у жыцьці студэнтаў не таму толькі, што трэба выбіраць свае організацыі, а і дзеля таго, што гэта—пэрыод новага будаўніцтва студэнцкага жыцьця, а таксама ўсёй навуковай установы ў цэлым. Ад правільнай і ўмелай пастаноўкі справы ў пачатку навуковага году залежыць увесь далейшы год. У нас як паасобныя таварышы, так часта і цэлыя студорганізацыі мала аддаюць увагі падбору кандыдатаў у кіруючыя органы пролетстудэнцтва, часта высоўваюць т. т., якія далёка не апраўдваюць сябе на справе.

А ад гэтага пакутуе ўся праца на цэлы навуковы пэрыод.

Неабходна да гэтага пытаньня аднесьціся з вялікай сур'ёзнасьцю і ўвагай.

Раней, чым высоўваць тую ці іншую кандыдатуру, трэба падлічыць усе даныя за і супроць яе. Таксама трэба лічыцца з занятасьцю таварыша, яго нагрузкай, працаздольнасьцю, ініцыятывай, і яго вядомасьцю сярод студэнцкіх мас. Ня варта таксама ў адносінах да актыўнай часткі студэнцтва апускаць з віду тую абставіну, што лепшыя і здольныя з іх адстаюць акадэмічна дзеля таго толькі, што яны былі зусім адарваны ад акадэмічнай працы. І з другога боку—больш актыўныя і здольныя таварышы з студэнцкага актыву выходзяць са сьцен навуковае ўстановы зусім ня- годнымі для далейшай працы, альбо з значна падарваным і расхістаным організмам. Нашым організацыям неабходна зьвярнуць самую сур'езную ўвагу на захову студэнцкага актыву.

Поруч з гэтым перад нашым студэнцтвам стаіць цяжкая, неадкладная і важная задача—высасваць з старое буржуазнае навукі ўсё каштоўнае, жыцьцёвае і, перапрацоўваючы яго ў духу пролетарскай грамадзкасьці, укарэньваць яго ў рабочыя і сялянскія масы. Неабходна ўзбагаціцца досьледам старога, каб потым будаваць новае, бо ня ведаючы мінулага, мы ня зможам разабрацца ў цяперашнім, а тым больш—будаваць будучае.

Другой неадкладнай задачай студорганізацый—гэта высоўваньне выявіўшых сябе студэнтаў на навуковую працу. Дасюль у гэтым напрамку мы таўкомся на месцы і ня можам пасунуцца наперад. Тут мы апускаем з віду самае галоўнае—што нашы навуковыя ўстановы, не кажучы ўжо аб вышэйшых, але нават, сярэднія і ніжэйшыя, пакутуюць ад недахопу кіруючага навуковага складу. Калі па тэхнічным спэцыяльнасьцям і агульнаадукацыйным прадметам мы яшчэ сяк-так спраўляемся, то з грамадзкімі прадметамі, якія патрабуюць разгляду з марксыцкага пункту гледжаньня, адчуваецца асабліва вялікі недахоп. Вось на гэты бок нашым організацыям трэба прыналегчы. Трэба заўсёды памятаць, што кіраваць навукай вельмі цяжкая задача, і калі кіраўніцтва навуковай машынай будзе ня ў руках працоўнае клясы, а ў руках ідэолёгічна нам

чужых людзей, то ў колы нашай дзяржаўнай машыны будуць устаўляцца палкі, і пасоўвацца па шляху школьнага будаўніцтва мы будзем чарапашым крокам.

Трэцяй важнай задачай студэнцкіх організазацый, галоўным чынам, партыйных,—зьвярнуць найбольш увагі на ідэолёгічную апрацоўку вучняў.

Усе гэтыя неадкладнай важнасьці пытаньні наша студэнцтва зможа выканаць толькі тады, калі яно ўсьвядоміць іх неадкладнасьць і калі наш кіруючы парт і профактыў вызваліцца ад дробнай штодзеннай тэхнічнай працы і возьме на сябе кіруючую ролю ў агульнай працы.

Нам трэба паглыбіць свае веды, зьвярнуць увагу на апрацоўку зноў паступаючага пролетарскага студэнцтва, каб зрабіць з іх карысных Савецкай дзяржаве працаўнікоў.

Гэтыя задачы павінен памятаць кожны студэнт, пад лёзунгам іх трэба праводзіць перавыбары.

---

А. Жылін.

# Культработа профсаюзаў і студэнцтва.

Кожны год, рыхтуючыся да зімовага пэрыоду культпрацы саюзаў, мы адзначаем рост, павышэньне культурных запытаньняў рабочае масы. Кожны год мы спатыкаемся з тым фактам, што нам прыходзіцца пераглядаць сыстэму, форму і мэтоды нашай ранейшай працы, на яе падліку будаваць новыя пляны згодна запатрабаваньням, якія культурна і палітычна растучы рабочы прад'яўляе свайму саюзу, клюбу, культорганізацыі.

Але адна справа—утвараць пляны і програмы, і другая—праводзіць іх у жыцьцё. Асноўнай перашкодай, апрача недахопу культсродкаў, зьяўляецца адсутнасьць у нас хватаючага ліку культпрацаўнікоў з рабочага асяродзьдзя, з саюзных „нізоў“.

Перад пролетарскім студэнцтвам стаіць вялікая задача поруч з вялікай небясьпекай. Небясьпека гэта захоўваецца ў тым, каб, пайшоўшы ад працы на фабрыцы, на заводзе, на полі, пачаўшы вывучаць навуковыя дысцыпліны, не адарвацца ад абкружаючай яго сапраўднасьці, не адарвацца ад рабочага асяродзьдзя.

Калі тав. Крупская зварачаецца да новых маладых інтэлігэнтаў і кажа: „Не адрывайцеся ад працоўнае клясы, памятайце, што ваша справа несьці веды ў масы,—не радавацца таму, што вы ў камандным складзе, а імкнуцца зьніштожыць усеагульную несьвядомасьць“, то над гэтымі словамі павінны моцна задумацца пролетарскія студэнты і зрабіць з іх правільныя вывады ў сваіх дзеях.

Перад пролетстудэнцтвам стаіць задача—поруч з навуковай, з лябораторнай працай у габінэтах трымаць моцную сувязь з абкружаючым іх жыцьцём, з асяродзьдзем, з якога яны вышлі. І другая задача—стаўшы больш культурнымі, дзяліцца атрыманым з тымі, хто, заняты за станком і плугам, толькі невялічкую частку свайго часу зможа аддаць сваёй самаадукацыі.

У чым гэта можа і павінна выявіцца?

Мы кажам аб актыўным удзеле студэнцтва ў культпрасьветнай працы Саюзаў.

Мы сустракалі прыклады дабраахвотнага, актыўнага ўдзелу студэнтаў у бібліотэчнай справе клюбаў і ў якасьці бібліотэкараў, і ў якасьці сяброў бібліотэчных гурткоў. Дзесяткі студэнтаў у мінулым годзе прайшлі на гуртковую працу ў якасьці кіраўнікоў профэсыянальнымі, палітычнымі і іншымі гурткамі.

Ці былі недахопы? Так, былі; асабліва прыходзіцца адзначыць шэраг фактаў, калі студэнт-кіраўнік профгуртка, які вельмі добра, быць можа, ведаў гісторыю і тэорыю профруху, ня мог адказаць на простае, практычнае, узятае з жыцьця прадпрыёмства пытаньне. Былі і другія недахопы, аснованыя на недаацэнцы запытаньняў сяброў клюбу, недахопы, якія зьяўляюцца сымптомам небясьпечнае хваробы—адарванасьці.

І ў бягучым годзе гэта павінна быць падлічана. Але не павінна быць і тут перагібу ў другі бок: адрыву ад вучобы, ад навуковых заняткаў.

Але калі кожны студэнт дасьць у нядзелю ад 2 да 6 гадзін на союзную культпрацу, то нам здаецца, што гэта акрамя агульнай карысьці і яму, і агульнай справе нічога ня дасьць.

І VI зьезд профсаюзаў СССР па пытаньню аб культпрацы саюзаў даў усім профорганізацыям дырэктыву:

„Організаванае ў профсэкцыі студэнцтва ВНУ неабходна зьвязаць з рабочымі клюбамі, скарыстоўваючы па магчымасьці пролетарскае студэнцтва ва ўсёй сыстэме клюбнае працы, асабліва ў лікняпісьменнасьці і вытворчай асьвеце, аднак, ня ў шкоднасьць іх акадэмічнай працы“.

Студэнты-ж, якія прышлі ў горад за вучобай з вёсак, студэнты-сяляне, адарваныя на навуковы пэрыод ад працы на палёх, цесна датыкаючыся жыцьця гарадзкога пролетарыяту, павінны вывучыць яго жыцьцё, зыйціся блізка тварам да твару, каб у сябе, у вёсцы, яны зьявіліся для партыі, профсаюзаў і савецкае ўлады апорнымі пунктамі ў справе сувязі гораду з вёскай.

**І. М.**

# Дзяржаўны бюджэт на 1925-26 год.

Дзяржаўны Бюджэт Беларусі на 1925-26 год наперад зацьверджан ЦВК БССР ў суме 41.371.710 р. па звычайным і 24.297.231 па надзвычайным даходам і расходам. Бюджэт 1924-25 году быў зьведзен у суме 13.586.247 руб. па звычайным і 1.955.000 р. па надзвычайным даходам і расходам.

Гэтыя даныя, бязумоўна, кажуць аб тым, што прыняты на 1925-26 год бюджэт значна большы за бюджэт 1924-25 году. Аднак, у зьвязку з неаднолькавай будовай бюджэту бягучага і надыходзячага году, адны толькі вынікавыя лічбы не даюць пэўнага прадстаўленьня аб росьце дзяржбюджэту. Неабходна дзеля гэтага хоць бы коратка спыніцца на складзе бюджэту.

Звычайныя расходы дзяржбюджэту зацьверджаны ў суме 41 1/3 міл. руб. (у далейшым усе даныя будуць давацца ў круглых лічбах). У гэтай суме расходы на аб'яднаныя ўстановы (Нар. Кам. Грашовых Спраў, ВСНГ, НК Унутран. Гандлю, НК Працы, НКРСІ, ЦС Кір.) займаюць усяго каля 3 міл. р., паказваючы ў параўнаньні з 1924-25 годам рост на 38 проц. Неаб'яднаныя ўстановы (НКА, НКАЗ, НКСЗ, НКЗ, НКУС) ЦВК, СНК і Дзяржплян складаюць 18 2/3 міл. руб., што ў параўнаньні з праходзячым годам дае павялічэньне звыш 140 проц.

Паколькі неаб'яднаныя ўстановы маюць чыста мясцовае значэньне, патолькі прыведзеныя лічбы ясна паказваюць, што прырост бюджэту накіраван, галоўным чынам, у бок здавальненьня мясцовых гаспадарчых і соцыяльна-культурных патрэб. Напрыклад: каштарыс НК Асьветы зложан на суму звыш 7 міл. руб. Гэта дае рост у параўнаньні з праходзячым годам на 148 проц. Гэтакі значны рост расходаў на Нарасьвету зьвязан з правядзеньнем у жыцьцё пачаткаў нацыянальнае політыкі, што патрабуе ўмацаваньня і разьвіцьця нацыянальных культурна-прасьветных устаноў. У галіне народнае асьветы значнае павялічэньне бюджэту падае на Інстытут Беларускае Культуры, Вышэйшыя Навуковыя Установы, Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, на павялічэньне зарплаты навуковых працаўнікоў, настаўніцкага складу і інш.

Каштарыс Нар. Кам. Земляробства зацьверджан у суме 6 1/3 міл. руб. Гэта дае павялічэньне супроць каштарысу 1924-25 году на 162%. Такое значнае пашырэньне каштарысу НКЗ тлумачыцца павялічэньнем расходаў опэрацыйнага характару як па сельскай, так і па лясной гаспадарцы. Рост опэрацыйных расходаў па НКЗ відзен з наступнай таблічкі:

| | 1924-25 г. Рублі | 1925-26 г. Рублі | % павялічэньня |
|---|---|---|---|
| Землябудаўніцтва | 220.000 | 402.758 | 83,07 |
| Перасяленьне і колёнізацыя | — | 175.836 | — |
| Мэліорацыя | 383.581 | 878 664 | 129,07 |

| | 1924-25 г. Рублі | 1925-26 г. Рублі | % павялічэньня |
|---|---|---|---|
| Торпадабываньне | 300 | 70.339 | — |
| Лесаўпарадкаваньне | 192.432 | 332.302 | 72,68 |
| Лясныя і лесакультурныя працы | 1.352 | 44.090 | 3161,09 |
| Семязагатоўчыя працы | 9.350 | 39.020 | 317,32 |
| Барацьба зляснымі пажарамі | — | 54.191 | — |
| Лесамэліорацыйныя працы | — | 18 284 | — |
| Эксплёатацыя лясоў | 12.895 | 44.000 | 241,21 |
| Усяго | 819.910 | 2.060.024 | 151,24 |

Гэтакае значнае павялічэньне расходаў па землябудаўніцтву, лесаўпарадкаваньню і мэліорацыі настойна дыктуецца натуральнымі ўмовамі БССР з яе безьзямельлем і малазямельлем, цераспалосіцай, забалочанасьцю вялізарных абшараў і не ўпарадкаваньнем ляснога гаспадаркі, якая складае асноўнае багацтва краю.

Значнае павялічэньне па каштарысу НКЗ даюць таксама расходы па зарплаце, што тлумачыцца, галоўным чынам, павялічэньнем ставак зарплаты лясным працаўнікам. Так, зарплата лясьнічага павялічваецца з 50 р. да 80 р.; памоцніка яго з 40 да 60; аб'езчыка з 17 да 35 і лясьніка з 9 да 20 руб.

На патрэбы аховы народнага здароўя маецца адпусьціць у наступным годзе $1^{2}/_{3}$ міл. руб супроць 670.000 праходзячага году. Павялічэньне асыгнаваньняў накіроўваецца на пашырэньне ўстаноў па дачы псыхадапамогі, на барацьбу з соцыяльнымі хваробамі, на курортную дапамогу; павялічваюцца таксама гаспадарча-опэрацыйныя расходы лячэбных устаноў: значна павышаюцца нормы харчаваньня хворых, адпускаюцца сродкі на здабыцьцё бялізны, на больнічнае абсталяваньне і г. д. Калі аб'яднаць расходы па ахове здароўя, якія робяцца па дзяржбюджэту, з гэткімі-ж па мясцовым бюджэтам, то атрымаем на адну душу насельніцтва страты 1 руб. 13 кап. супроць 66 кап. праходзячага году.

Што датычыцца адміністрацыйных Наркаматаў, то ўдзельная вага іх у агульнай суме бюджэту падае; гэта лёгка можна бачыць з наступнае табліцы:

| | 1924-25 г. у % % | 1925-26 г. у % % |
|---|---|---|
| Адміністрац. Наркаматы | 32,9 | 22,8 |
| НК Асьветы | 32,0 | 36,1 |
| НК Аховы Здароўя | 7,5 | 8,3 |
| НК Земляробства | 26,6 | 31,6 |
| НК Соц. Забясьпечаньня | 1,0 | 1,2 |
| Усяго | 100,0 | 100,0 |

Такім чынам, займаючы ў бюджэце праходзячага году 32,9%, адміністрацыйныя ўстановы ў надыходзячым годзе паніжаюцца да 22,8%. Удзельная вага НКА, НКЗ і НКАЗ рэзка ўзвышаецца. Гэта сьведчыць аб прадоўжваючымся аздараўленьні нашага дзяржбюджэту і аб выкананьні адпаведных дырэктыў VI Усебеларускага Зьезду Саветаў.

Апрача наркаматаў, па звычайнаму расходу дзяржбюджэту 1925-26 году праходзіць звыш $1^1/_2$ міл. руб. фондаў: запасны, СНК і субвэнцыйны (субвэнцыя—дапамога з дзяржаўных сродкаў мясцоваму бюджэту). У канцы, у будучым годзе, у адзнаку ад мінулых гадоў, у дзяржбюджэт Беларусі ўключаны адлічваньні ад агульна-дзяржаўных падаткаў і даходаў, якія ідуць выключна ў мясцовы бюджэт; разьмер гэтых адлічваньняў—$7^1/_3$ міл. рублёў.

Гэтакія звычайныя расходы БССР, прынятыя на 1925-26 год. Мы бачым, што яны супроць папярэдняга году даюць значнае павялічэньне. Аднак звычайныя патрэбы нашае адстаўшае гаспадаркі ня могуць быць поўнасьцю пакрыты звычайнымі крэдытамі. Дзеля гэтага зьяўляецца патрэба ў крэдытах надзвычайных.

Гэтакія мерапрыёмствы ў галіне сельскай гаспадаркі, як перасяленьне і землябудаўніцтва, патрабуюць ад земляпабудоўваемага і перасяляемага насельніцтва значных сродкаў, якіх беларускае сялянства ў значнай большасьці ня мае. Пытаньне аб дзяржаўнай дапамозе гэтай частцы насельніцтва ў выглядзе незваротных, альбо доўгатэрміновых выдаткаў мае першараднае значэньне. Цэлы шэраг мерапрыёмстваў у розных галінах сельскае гаспадаркі, накіраваных да яе ўзмацненьня і палепшаньня спосабаў апрацоўкі зямлі, таксама патрабуе значных аднačасовых расходаў. На фінансаваньне ўсіх гэтых мерапрыёмстваў па бюджэту надыходзячага году намечана $8^1/_2$ міл. руб., з якіх 5 міл. руб. на ўзмацненьне ўстаноў сельска-гаспадарчага крэдыту.

Адроджваючаяся прамысловасьць рэспублікі, маючая здавальняючы сыравінны грунт у сельскай і лясной гаспадарцы, ня можа разгарнуць вырабу да поўнае нагрузкі з-за недахопу зваротнага капіталу. Для ўзмацненьня гэтых сродкаў прамысловасьці па надзвычайным расходам адпушчаецца на надыходзячы год $2^1/_3$ міл. руб. і, апрача таго, на ўзмацненьне і адраджэньне саматужнай прамысловасьці—300 тысяч руб.

Значныя сродкі (каля 2-х міл руб.) адпушчаюцца таксама на ўмацаваньне зьвяна, якое зьвязвае сельскую гаспадарку і прамысловасьць—на коопэрацыйны і дзяржаўны розьнічны гандаль.

Нашлі адбітак у бюджэце і такія хворыя для Беларусі пытаньні, як беспрацоўе і кватэрнае будаўніцтва. На організацыю грамадзкіх прац па надзвычайным расходам дзяржбюджэту прадназначана 5 міл. руб. На організацыю крэдыту кватэрнага будаўніцтва—3 міл. руб.

Апрача паказаных расходаў, бюджэтам прадугледжваецца на электрыфікацыю—2 міл. рублёў, на радыёбудаўніцтва—74 тысячы рублёў, пабудову ўрадавых будынкаў—800.000 руб., а ўсяго па надзвычайным расходам—$24^1/_3$ міл. рублёў.

Гэтакія ў агульных рысах расходы дзяржаўнага бюджэту Беларусі на надыходзячы 1925-26 год.

# ЛЕНІНІЗМ.

С. З. Кацэнбоген.

## Ленін і Кастрычнікавая рэволюцыя.

„Ленінізм ёсьць тэорыя і практыка пролетарскай рэволюцыі наогул, тэорыя і практыка дыктатуры пролетарыяту ў частковасьці“.

**Сталін.**

Задача навуковага социялізму—рэволюцыйнага марксызму ў апошнім падрахунку складаецца з тэорытычнага асьвятленьня сутнасьці дыктатуры пролетарыяту і вызначэньня грунту і ўмоў перамогі пролетарскай рэволюцыі.

Шматтомныя тэорытычныя працы Маркса, Энгельса і Леніна зьяўляюцца ў руках рабочай клясы магутным прыладзьдзем у барацьбе за палітычную ўладу, за перамогу комунізму.

Быўшыя марксыстыя—правадыры ІІ-га Інтэрнацыяналу—Каўцкі, Кунаў, расійскія меншавікі імкнуцца з усіх сіл сказіць рэволюцыйны марксызм, зрабіць яго падпорай рэформізму, адмовы ад зацятай клясавай барацьбы.

Для іх, як і для бацькі рэвізыоністых Э. Бэрнштэйна,—„рух—усё, канчатковая мэта—нішто“.

Барацьба за комунізм адсоўваецца ў бязьмежную далячыню, уступаючы месца дробнаму, бязглуздаму цураваньню дзірак капіталістычнага ладу.

На працягу звыш 30 гадоў У. І. Ленін вёў упартую і бязьлітасную барацьбу з самай малой спробай сказіць навуку Маркса і Энгельса. Гэтую барацьбу ён вёў з самымі здаўнымі правадырамі народніцтва—Міхайлоўскім, Лаўравым і інш. Гэтую барацьбу ён вёў і з правадыром законных марксыстых—П. Струвэ. Гэтую барацьбу ён вёў у гады рэакцыі (1907—1912) з філёзофамі скажанага марксызму. Са ўсёй моцай свайго гэнія Ленін змагаўся і з быўшымі марксыстамі—міжнароднай соцыял-дэмократыяй ІІ-га Інтэрнацыяналу.

Вядомы нямецкі буржуазны экономісты В. Зомбарт, не адчуваючы асабліва гарачага каханьня да комуністычнае партыі, падкрэсьлівае, што бальшавікі першыя пачалі дзейную пропаганду ідэй комунізму. Соцыялізму, упэўнівае Зомбарт, пагражала небясьпека перавярнуцца ў „над-капіталізм“ („Uber-Kapitalismus“). Толькі дзякуючы бальшавікам соцыялізм стаў зноў супроцькапіталізмам[1]).

Ленін—найвыдатнейшы творца пролетарскай рэволюцыі. Для яго, як і для Маркса, пролетарская рэволюцыя—узброенае паўстаньне—навука.

---

[1]) W. Sombart „Sozialismus und Soziale Bewegung“. Jena. 1920. S. 191.

У пэрыод рэволюцыі 1905 году, калі Ленін высунуў лёзунг рэволюцыйна-дэмократычнай дыктатуры і ў 1917 г., ён, аднак, упарта заклікаў вывучваць шматвяковую рэволюцыйную практыку, прадбачыць усе магчымыя зігзагі рэволюцыі, узаемаадносіны клясаў і інш.

Напярэдадні Кастрычнікавай рэволюцыі Ленін старанна вывучаў экономічнае становішча краіны, падлічваў сілы супраціўніка, асьцярожна абмяркоўваў усе магчымасьці для посьпеху і толькі пасьля ўсяе гэтае нязьмернае працы станоўча заявіў:

„Марудзіць—злачынства. Чакаць зьезду Саветаў—дзіцячая гульня і формальнасьць, здрада рэволюцыі. Калі нельга ўзяць уладу без паўстаньня—трэба ісьці на паўстаньне зараз-жа. Лёзунг—улада саветам, зямля—сялянам, мір—народам, хлеб—галодным. Перамога забясьпечана і 90% за тое, што бяскроўна. Чакаць—злачынства перад рэволюцыяй“.

На вывучэньні багатае практыкі 1905 году і Парыскай Комуны 1871 году Ленін пабудаваў сваю гэніяльную тэорыю пролетарскай рэволюцыі. У 1905 г. пасьля таго, як была задушана рэволюцыя, Пляханаў кінуў кароткае выслоўе: „Ня трэба было брацца за аружжа“.

У. І. Ленін, як сапраўдны правадыр, зрабіў ня так, як Пляханаў. За мест абвінавачваньня рэволюцыйных рабочых, ён грунтоўна пазнаёміўся з практыкай Маскоўскага паўстаньня.

„Сьнежань навочна падцьвердзіў яшчэ адну глыбокую і забытую опортуністымі думку Маркса, які пісаў, што паўстаньне ёсьць мастацтва і што галоўнае правіла гэтага мастацтва—распачліва сьмелы, незваротна рашучы наступ. Мы замала ўсьвядомілі гэтую ісьціну. Мы замала вучыліся самі і вучылі масы гэтаму мастацтву, гэтаму правілу наступу як мага хутчэй. Мы цяпер павінны з усёй энэргіяй нагнаць прапушчанае намі. У адносінах да палітычных лёзунгаў мала яшчэ групаваньняў, неабходна патрэбны яшчэ групаваньні ў адносінах да ўзброенага паўстаньня“. У. І. Ленін, як і Энгельс, зварачае асаблівую ўвагу на падрабязкі рэволюцыйнай вайскова-тэхнічнай справы. Ён кліча пры бойках шырока карыстацца ручнымі гранатамі, „навучыць рабочыя аддзелы рабіць масамі бомбы, памагчы ім і нашым баявым дружынам зрабіць запас выбуховай матэрыі, запалаў і аўтоматычных стрэльбаў“[1]).

Да таго-ж пытаньня аб патрэбнасьці ўсебаковай падрыхтоўкі да рэволюцыі Ленін зварачаецца ў дні „Дэмократычнай Нарады“, у верасьні 1917 году, з лістом да ЦК партыі[2]), дзе кажа:

„Да ліку найбольш злосных і бадай што найбольш распаўсюджаных скажаньняў марксызму пануючымі „соцыялістычнымі“ партыямі належыць опортуністычная мана, быццам падрыхтоўка да паўстаньня, наогул адносіны да паўстаньня, як да мастацтва, ёсьць нішто іншае, як „блянкізм“.

„Паўстаньне, —кажа далей Ленін,— каб мець посьпех, павінна апірацца не на змову, не на партыю, а на паступовую клясу. Гэта—папершае. Паўстаньне павінна апірацца на такі паваротны момант у гісторыі нарастаючай рэволюцыі, калі дзейнасьць паступовых шэрагаў народу найбольшая, калі ўсё мацнее хістаньне ў шэрагах ворагаў і ў шэрагах слабых, палавінчатых, нерашучых прыяцеляў рэволюцыі. Вось гэтакімі ўмовамі пастаноўкі пытаньня аб паўстаньні і розьніцца марк-

[1]) У. І. Ленін. „Собрание сочинений, т. VII, ч. 2“, стар. 47 і інш.
[2]) У. І. Ленін. „ „ т. XIV, ч. 2“, стр. 135.

сызм ад блянкізму. Але калі ёсьць на відавоччы гэтакія ўмовы, то адмаўляцца ад адносін да паўстаньня, як да мастацтва, значыць здрадзіць марксызму і здрадзіць рэволюцыі".

Бязумоўна, што перамога Кастрычнікавай рэволюцыі ў значнай меры абумоўлена асьцярожным, уважным і разам з тым рашучым і сьмелым кіраўніцтвам Леніна.

У асобе Леніна рабочая кляса Расіі знайшла гэніяльнага кіраўніка, які да драбніцы вывучыў стратэгію пролетарскай рэволюцыі.

Яшчэ ў сакавіку і красавіку 1917 году французскі пасол граф Палеолог з засмучэньнем запісаў у свой дзеньнік гэткія паказальныя словы: „Прыезд Леніна прадстаўляецца мне самай небясьпечнай спробай, якой толькі магла падлягаць рэволюцыя. Калі Мілюкоў на гэтых днёх упэўніваў мяне, што Ленін сваім паражэнчаствам абняславіў сябе прад вачыма Савету, ён лішні раз стаў ахвяраю свайго оптымізму; наадварот, аўторытэт Леніна ў апошнія дні вельмі вырас. У чым няма сумненьня, так гэта ў тым, што яму ўдалося аб'яднаць наўкол сябе і пад сваім кіраўніцтвам найбольш сьмелых рэволюцыянэраў і дзякуючы гэтаму ён перавярнуўся цяпер у жудаснага правадыра"[1]).

Зразумела, што Ленін Кастрычнікавае рэволюцыі не стварыў; такая рэволюцыя—натуральна-канчатковая падзея, якое „стварыць" ніхто ня можа. Але ён раней, лепш і глыбей, чым іншыя, вывучыў адносіны соцыяльных сіл у краіне і выявіў тую рэволюцыйную рашучасьць, на якую мог быць здольным толькі ён адзін.

Гэтая думка мастацка акрэсьлена М. Н. Пакроўскім:

„...Ня Ленін, паўтараю, у сваёй галаве прывёз з заграніцы гэтую соцыялістычную рэволюцыю, а гэніяльная галава Леніна толькі лепш і хутчэй, чым іншыя, абхапіла становішча, зразумела, што пры такіх умовах, апрача пераходу ўсяго гаспадарчага процэсу ў рукі пролетарыяту, г. зн. соцыялістычнай рэволюцыі, як мы яе разумеем, нічога іншага быць ня можа і нічога іншага прыдумаць нельга, што об'ектыўнымі ўмовамі моманту дыктуецца як раз гэта самая соцыялістычная рэволюцыя"[2]).

Ленін напярэдадні Кастрычнікавае рэволюцыі пытае: „Чаму іменна ўладу павінны ўзяць бальшавікі?"

„Дзеля таго,—кажа,—што „крызіс пасьпеў"—часовае правіцельства абанкруцілася, сялянства нездаволена, войска чакае замірэньня, дробная буржуазія ўсё больш і больш адыходзіць ад эсэраў і меншавікоў".

Вельмі добры знаўца дыялектычнага рэволюцыйнага марксызму, Ленін заклікаў да рэволюцыі тады, калі об'ектыўныя ўмовы станоўча гаварылі аб поўнай перамозе рабочай клясы і працоўнага сялянства.

Да моманту Кастрычнікавае рэволюцыі на яе баку былі: 1) бязумоўная большасьць пролетарыяту; 2) амаль-што палова арміі і 3) перакананьне ў посьпеху ў асяродкавых часьцінах краіны і на фронтах.

„Бальшавікі,—падкрэсьлівае Ленін,—перамаглі, перш за ўсё дзеля таго, што мелі за сабою вялізарную большасьць пролетарыяту, а ў ім самую сьвядомую, энэргічную, рэволюцыйную частку, запраўдны авангард гэтае паступовае клясы".

„Далей. Бальшавікі мелі за сабою ня толькі большасьць пролетарыяту, ня толькі загартаваны ў доўгай і ўпартай барацьбе з опорту-

---

[1]) Палеолог. „Царская Россия во время войны".

[2]) Пакроўскі „Очерки по истории революционного движения в России. XIX и XX в.' в." стар. 223.

нізмам рэволюцыйны авангард пролетарыяту, яны мелі, калі можна ўжыць вайсковы тэрмін, магутны „ўдарны кулак у сталіцах“.

„Армія ўжо да кастрычніка—лістапада 1917 г. была напалову бальшавіцкай. Ні аб якім супраціўленьні з боку арміі супроць Кастрычнікавай рэволюцыі пролетарыяту, супроць заваёвы палітычнай улады пролетарыятам не магло быць і гутаркі“.

У. І. Ленін ставіцца да ліку тых нямногіх шчасьлівых правадыроў, на долю якіх выпадае непасрэднае кіраваньне ажыцьцяўленьнем найбольш дарагіх ім ідэй.

Можна станоўча сказаць, што грунтоўныя ідэі Кастрычнікавай рэволюцыі разьвіваліся Леніным на ўсім працягу яго трыццацёхгадовай дзейнасьці.

Для Леніна характарна наогул тая выключная рыска яго характару, якую Троцкі так трапна назваў „мэтаймкненнасьцю“.

Да канчатковай мэты рэволюцыйнага марксызму—да комуністычнай рэволюцыі Ленін імкнуўся яшчэ тады, калі ён, будучы 24-гадовым юнаком, сьмела пашоў на рашучую бойку з кумірам народніцкай інтэлігэнцыі 90-х гадоў—з Міхайлоўскім, Крывенкай і Южаковым.

Ужо тады Ленін прарочаскім поглядам прадбачыў няўхільнасьць будучае перамогі пролетарскай рэволюцыі.

Ужо тады ён высунуў цэнтральную ідэю комуністычнай партыі і Кастрычнікавай рэволюцыі, ідэю верхаводзтва пролетарыяту і яго шчыльнага саюзу з працоўным сялянствам, ідэю, за якую ён бязупынна змагаўся на ўсім працягу свае выдатнае рэволюцыйнае дзейнасьці.

У 1894 годзе Ленін пісаў:

„Калі паступовыя прадстаўнікі яе (рабочае клясы—С. К.) усьвядомяць ідэю навуковага соцыялізму, ідэю аб гістарычнай ролі рускага рабочага, калі гэтыя ідэі атрымаюць шырокае распаўсюджаньне, і сярод рабочых створацца трывалыя організацыі, якія перавернуць цяперашнюю экономічную вайну ў сьвядомую клясавую барацьбу—тады расійскі рабочы, стаўшы ў галаве ўсіх дэмократычных элемэнтаў, скіне абсолютызм і павядзе расійскі пролетарыят (побач з пролетарыятам усіх краін) простай дарогай да адчыненай палітычнай барацьбы, да перамогі Комуністычнае рэволюцыі“[1]).

Як Маркс, так і Ленін на практыцы Парыскай Комуны вучыліся навуцы аб пролетарскай рэволюцыі.

Гэтая практыка давяла Леніну, што рабочая кляса здолее перамагчы выключна шляхам дыктатуры, шляхам бязьлітаснага разбурэньня буржуазнага дзяржаўнага апарату, шляхам шчыльнага саюзу з працоўным сялянствам і пад абавязковым кіраўніцтвам дысцыплінаванай адзінай і магутнай Компартыі.

Яшчэ ў 1905 годзе Ленін пісаў аб Парыскай Комуне: „У гісторыі пад гэтым імем (Комуны—С. К.) вядомы такі рабочы ўрад, які ня ўмеў і ня здолеў тады зразумець элемэнты дэмократычнага і соцыялістычнага перавароту, які пераблутаў задачы барацьбы за рэспубліку з задачамі барацьбы за соцыялізм, які ня змог вырашыць задачы энэргічнага вайсковага наступу на Вэрсаль, які абмылкова не захапіў францускага банку і г. д., адным словам, калі вы будзеце на сваёй прамове-адказе грунтавацца на Парыскай, альбо якой іншай Комуне, вам будзе гэткая адповедзь: гэта быў такі ўрад, якім наш не павінен быць“[2]).

[1]) Ленін. „Что такое друзья народа и как они воюют против социал-демократов“

[2]) Ленін. „Две тактики“.

Програма Кастрычнікавай рэволюцыі, яе задачы і мэтоды барацьбы былі выкладзены Ленінам у вядомых красавіковых тэзісах.

„Асаблівасьць сучаснага моманту,—піша Ленін,—у пераходзе ад першага этапу рэволюцыі, які даў уладу буржуазіі, дзякуючы ня зусім добрай сьвядомасьці пролетарыяту, да другога яе этапу, які павінен даць уладу ў рукі пролетарыяту і бяднейшага сялянства“.

Адсюль ідзе цэлы шэраг вывадаў: „Ніякага падтрыманьня часоваму ўраду. Зьвяржэньне капіталізму, як адзіны шлях да запраўдна-дэмократычнае згоды. Уся ўлада Саветам, як адзіна-магчымай форме рэволюцыйнай улады. Конфіскацыя ўсіх памешчычых земляў. Безадкладнае аб'яднаньне ўсіх банкаў краю ў агульна-нацыянальны банк пад контролем Саветаў“.

Што датычыцца партыйных задач, то Ленін патрабуе перагляду програмы, перамены назвы партыі, „стварэньня рэволюцыйнага Інтэрнацыяналу супроць соцыял-шовіністых і супроць „цэнтру“.

Гэткім чынам, гістарычнае значэньне Кастрычнікавай рэволюцыі ў тым, што тут першы раз у гісторыі ідэя дыктатуры пролетарыяту, як новага тыпу дзяржавы, знайшла сваё ўвасабленьне ў форме Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў.

У „Государстве и Революции“, у „Пролетарской революции и ренегат Каутский“ і ў шмат іншых сваіх творах Ленін даў гэніяльнае ўгрунтаваньне свае навукі—навукі рэволюцыйнага марксызму аб дзяржаве і рэволюцыі.

Буржуазныя вучоныя, накшталт проф. П. Наўгародцава, прымушаны былі прызнаць бязумоўную тэорытычную каштоўнасьць твораў Леніна[1]).

Дзяржава для Леніна, як і для Маркса і Энгельса, ёсьць продукт і праява непагаджальнасьці клясавых супярэчнасьцяй і прыладзьдзе для эксплёатацыі прыгнечанай клясы.

Дыктатура пролетарыяту—часовы пераходны тып дзяржавы па шляху ад капіталізму да комунізму.

Яна патрэбна для таго, каб:

а) зламаць супраціўленьне скінутых і пазбаўленых маёмасьці памешчыкаў і капіталістых, ліквідаваць усе і ўсялякія іх спробы да аднаўленьня ўлады капіталу;

б) організаваць будаўніцтва ў напрамку аб'яднаньня ўсіх працоўных наўкол пролетарыяту і павесьці гэтую працу ў кірунку, які падрыхтоўвае ліквідацыю і зьнішчэньне клясаў;

в) узброіць рэволюцыю, організаваць армію рэволюцыі для барацьбы з замежным ворагам, для барацьбы з імпэрыялізмам[2]).

На ўсялякія фальшывыя і здрадніцкія ўпэўніваньні меншавікоў аб тым, што пролетарыят здолее дабіцца ўлады шляхам галасаваньня, праз парлямантарызм, буржуазную дэмократыю, Ленін адказвае, мастацка паказваючы эксплёататарскую істоту розных форм сучаснай буржуазнай дзяржавы.

Запраўдная дэмократыя ёсьць улада большасьці народу—улада працоўных. Яна ня можа быць там, дзе пануе заможная дэмократыя, якая апіраецца на падкупны друк, войска і паліцыю.

Практыка Парыскай Комуны, яскрава аналізаваная Марксам, давяла, што для замацаваньня ўлады пролетарыяту патрэбна зламаць усю старую буржуазную дзяржаўную машыну і на руінах яе збудаваць новы тып дзяржавы—тып „дзяржавы комуны“.

---

[1]) І. Сталін. „О Ленине и Ленинизме“. [2]) Ibidem.

„Дыктатура пролетарыяту ёсьць неабмежаванае законам і апёртае на гвалт панаваньне пролетарыяту над буржуазіяй, панаваньне, якое карыстаецца спачуваньнем працоўных і эксплёатаваных мас“[1]).

Расійская рэволюцыя яшчэ ў 1905 годзе высунула сваю асаблівую форму пролетарскай дыктатуры—Саветы.

Гэтая новая форма пролетарскай дзяржавы зьяўляецца найбольш дэмократычнай, бо яна апіраецца на шырокія працоўныя масы і разам з тым яна зьяўляецца магутным і запраўдна верным прыладзьдзем барацьбы з рэшткай буржуазіі і контр-рэволюцыі як унутры краю, так і па замежамі яго.

„Толькі Савецкая організацыя дзяржавы можа разбурыць,—кажа Ленін,—адразу і канчаткова стары, г. зн. чыноўнічы і судовы апарат, які далей існаваў і які павінен быў існаваць пры капіталізьме нават у самых дэмократычных рэспубліках і фактычна служыў вялікай перашкодай для працоўных мас да ажыцьцяўленьня імі дэмократызму. Парыская Комуна зрабіла на гэтым шляху першы сусьветна-гістарычны крок, а Савецкая ўлада—другі“.

Савецкая дзяржава прымушана будаваць сярод капіталістычнага абкружэньня новую соцыялістычную грамадзкасьць, моцную і неперараможную, дзякуючы непарушнаму саюзу пролетарыяту і сялянства.

У 1918 годзе тав. Ленін пісаў: „У нас замест поўнай перавагі ў насельніцтве рабочых пролетараў і высокай організаванасьці іх, фактарам перамогі зьявілася тое, што бяднейшае сялянства падтрымала пролетарыят“.

У. І. Ленін заўсёды і бязупынна напамінаў, што задача авангарду рэволюцыі ня толькі ў тым, каб кіраваць сваёю партыяй, але яшчэ і ў тым, каб кіраваць шырокімі працоўнымі масамі, паступова і ўмела ўцягваючы іх у будаўніцтва новага жыцьця[2]).

Кастрычнікавая рэволюцыя ўпісала ў сусьветную гісторыю комунізму шмат пекных старонак, якія заклікаюць да барацьбы і перамогі.

Кастрычнікавая рэволюцыя асьвятляе пролетарам ўсіх краёў шлях да комунізму.

Кастрычнікавая рэволюцыя павінна перамагчы як Сусьветная Пролетарская Рэволюцыя.

Кастрычнікавая рэволюцыя—гэніяльнае ўвасабленьне Ленінскага духу—кліча нас да ўпартай працы па шляху да ажыцьцяўленьня наказаў Ільліча.

---

[1]) Ленін „Государство и Революция“.

[2]) Гл. аб гэтым мой артыкул „Пролетариат и крестьянство“, „Вперед“. 1922. № 1 стар. 23—40.

# НАВУКОВЫ АДДЗЕЛ.

**М. Розэнблюм і Е. Левін.**

## Алькоголізм, як фактор злачынства.

Сярод шэрагу соцыяльных хвароб, якімі абхвачана сучасная нам грамада, алькоголізм займае не апошняе месца.

Для нас, разглядаючых процэсы разьвіцьця грамадзкага жыцьця з пункту погляду марксыцкага, клясавага, ня можа быць ні малейшага сумненьня, што разьвіцьцё алькоголізму, таксама як і цэлага шэрагу іншых соцыяльных хвароб, хаваецца ў экономічным і соцыяльна-бытавым становішчы нашае сучаснае грамады.

І толькі так разглядаючы алькоголізм, мы зможам яскравей падкрэсьліць, які вялізарны соцыяльны бізун глыбокіх няшчасьцяў нясе ён нашай грамадзе. Гэта абставіна дае нам магчымасьць выступаць з адчыненым тварам супроць ідэолёгаў пануючых груп капіталізму, якія тлумачаць гэтакае шырокае распаўсюджаньне ў насельніцтва алькоголізму, як вынік яго някультурнасьці, нізкасьці і заганаў. Для іх экономічны, соцыяльна-клясавы грунт гэтакага вялізарнага няшчасьця ня існуе, яны зацямняюць тыя запраўдныя прычыны, дзякуючы якім п'е кіруючая кляса капіталізму і чаго шукае ў алькоголі прыгнечаная кляса пролетараў.

Ці можна глядзець на п'янства, як на загану, як на злачынства, якое выцякае з асабовае злое волі чалавека, як гэта робіць проф. Гэркнэр. І ня дзіўна, што гэта думка цяпер ужо не падтрымліваецца іншымі вучонымі, якія, зусім зразумела, думаюць, што п'янства гэта хвароба, гэта соцыяльнае зло, якое вырасла на грунце капіталістычнае будовы, бо гэтая будова налажыла сваю ўладную руку на чалавека, які ня ў сілах адыйсьці ад абкружаючых яго ўмоў.

Мы-ж ведаем, што капіталістычная грамада разьбівае людзей на два неаднолькавых лагеры, займаючых неаднолькавае становішча ў процэсе капіталістычнае вытворчасьці і разьмеркаваньня. І вось у адных—значнае меншасьці—якія жывуць ва ўмовах усялякіх лішкаў, алькоголізм зьяўляецца сродкам спасеньня ад прыгнятаючай нуды і дзяньгубства; у іншых-жа, а іх значная большасьць, ап'яненьне алькоголем—вынік страт і ліхіх гадзін.

І сапраўды: рабочы, які жыве ў жахлівых умовах, працуючы па дванаццаць гадзін у суткі, пазбаўлены зусім усякіх сродкаў культурных забаў, у алькоголе залівае сваё гора, патрэбу і нездаволенасьць. Толькі ў ім рабочы знаходзіць адзіны прыступны яму сродак, які ахарошвае яго бясправсьветнае жыцьцё.

А бывае і так, што часта, калі ў майстэрнях стаіць немагчымая гарачыня і сырасьць, якая падаўляе сілы нават самага энэргічнага

рабочага, алькоголь прыходзіць яму на дапамогу, уліваючы гэтак неабходную яму энэргію і гэтым даючы патрэбныя сілы для выкананьня да тэрміну патрабуемае ад яго працы.

Вось тыя асноўныя прычыны, якія выклікаюць узмацнёнае патрабленьне алькоголю, якія альбо блізкавока ня бачаць, альбо злачынна хаваюць ідэолёгі капіталізму.

Але ня так думалі ў старасьветныя і сярэднія стагодзьдзі, калі яшчэ ня ведалі руйнуючых якасьцяй алькоголю. Тады алькоголізм хвалілі, як рэдкую матэрыю, як крыніцу сілы і бадзёрасьці. *„Вада жыцьця“*—вось як тады называлі алькоголь.

Як для любімае асобы, яны ўтварылі шмат для яго ласкальных назваў. Старасьветчына нават склала аб пачатку алькоголю наступную лягэнду:

„Адзін арабскі алхімік бязупынна працаваў над адшуканьнем філёзофскага каменю. Ён увесь аддаўся сваёй думцы і аддаліўся ад усіх. Толькі жонка кожны дзень прыносіла яму ежу. Ён хутка зьядаў невялікую колькасьць, неабходную для падтрыманьня яго існаваньня, і зноў пачынаў працаваць. Астачу ежы, каб нікога не абцяжваць, вучоны выліваў у пасудзіну, якая стаяла ў кутку пакою. Праз некаторы час ён угледзеў, што астача ежы ў пасудзіне пачынае даваць асабісты, узбуджаючы і прыемны пах. Зьдзіўлены вучоны заняўся даследваньнем новае матэрыі, якая атрымалася ў пасудзіне, і яму ўдалося адшукаць жыжку, якую ён сьпярша палічыў за філёзофскі камень. Новы напітак рабіў дзіўны ўплыў на чалавека, служыў крыніцаю новых сіл, праганяў нуду і клопат, будзіў жаданьне жыць, стомленых рабіў бадзёрымі і сьвежымі, зварочваў маладасьць асобам, якія даўно ўжо згубілі яе. Поўны захапленьня, вучоны назваў адшуканы ім напітак „алькоголь“ што ў перакладзе з арабскага азначае: шляхэтны, далікатны.

„Вучоны стаў распаўсюджваць весткі аб новай цудадзейнай матэрыі сярод шырокіх масаў з надзеяй зрабіцца ўслаўленым дабрадзеем чалавецтва, даць яму радасьці жыцьця, зрабіць яго здаволеным і шчасьлівым“.

Гэтакая лягэнда аб пачатку алькоголю.

Што-ж такое алькоголізм.

Для таго, каб змагацца з хваробаю, трэба яе ведаць, неабходна ўмець яе азначыць. Проф. Модслі, з якім мы зусім згодны, азначае алькоголізм гэтак: „алькоголізм—гэта хвароба, штучна вырабляемае шаленства, штучна выгукваемая часовая душэўная хвароба“. Дактары Маньян і Лянсэро паказваюць, што пад уплывам алькоголю „чалавек робіцца іншым чалавекам і раней часу старэе“. „Алькоголізм растройвае развагу, паралізуе волю і забівае совесьць“—кажа Кэр. А проф. Дрыль кажа, што алькоголізм выгуквае недавернасьць, эгоізм і бязьлітаснасьць, брахлівасьць і фальшывасьць, нядбальства, бязуважнасьць, раздражлівасьць, грубасьць і жорсткасьць“.

Гэтакі алькоголізм. Гэтакія вынікі, народжваемыя ім. Ня радасьць нясе з сабою гэты напітак, як думалі старасьветныя дзяды, стомленым у барацьбе за жыцьцё людзям. За хвілінным узбуджэньнем ідзе падаўлены настрой, прыгнечанае становішча. Народ ужо не заве яго „вадою жыцьця“. Алькоголь зрабіўся для народных мас „вадою сьмерці“.

Для таго, каб паўней выявіць дзеяньні алькоголю, як фактору злачынства, нам неабходна разгледзець, наколькі асабовыя прычыны робяць уплыў на разьвіцьцё алькоголю, апрача тых агульных прычын грамадзка-соцыяльнага значэньня, якія мы разгледзелі раней.

Тут мы раней усяго сустракаемся з насьледнасьцю. Яшчэ старасьветчына адзначала, што заганы перадаюцца па насьледзтву. Так, Арыстоцель казаў: „Жанчыны, якія п‘юць, народжваюць дзяцей, падобных у гэтым напрамку на сваіх мацярок“, а Плутарх казаў: „П‘яніцы народжваюць п‘яніц“. Найноўшыя аўторы, як Лягрэн, кажуць, што „патомствы алькоголікаў у першым пакаленьні зьяўляюцца часта п‘яніцамі, а ў трэцім надыходзіць выміраньне сям‘і“. Доктар Грыгор‘еў, які вывучаў разьвіцьцё п‘янства ў Пецярбургу, ня раз сустракаўся з фактам насьледваньня імкненьня к віну дзяцьмі ад бацькоў. Трэба мець на ўвазе,—кажа ён,—што як сухоты могуць перадавацца па насьледзтву, так і палкасьць да п‘янства можа быць насьледавана і пры тым ня толькі ад бацькі да мацеры, але мінаваўшы першыя два рады, можа праявіцца ў трэцім і нават у чацьвертым“. Цікавы лічбы Ф. Е. Рыбакова, дасьледваўшага разьвіцьцё п‘янства ў плошчы насьледнасьці. Яго дасьледваньні даткнуліся 1974 асоб і выявілася, што 88% усіх хворых мелі алькоголікаў-бацькоў, дзядоў, бабак і інш. Асабліва рэзка была выяўлена здольнасьць народжваць сабе падобных у запойных п‘яніц. Такім чынам, усе прыведзеныя факты ўпэўніваюць нас, што насьледнасьць грае значную ролю ў разьвіцьці п‘янства.

Наступным фактарам, разьвіваючым п‘янства, некаторыя вучоныя нахільны лічыць уплыў клімату і расы. Так Монтэск‘е казаў, што чым халадней і вільготней клімат, у якім жывуць людзі, тым больш ужываюць яны сьпірытусу. Для паўночных жыхароў, якія праводзяць свае дні,—кажуць гэтыя вучоныя, якія лічаць клімат фактарам п‘янства,—у зачыненых памяшканьнях і не атрымліваюць ніякіх уражаньняў ад абкружаючай прыроды, п‘янства грае значную ролю, бо пад яе уплывам людзі атрымліваюць штучнае ўзбуджэньне, але, вядома, гэтыя тэорыі, з нашага пункту погляду, ня верны.

Калі мы прасочым разьвіцьцё п‘янства ў розных краёх, то ўгледзім, што гэтакая паўночная краіна, як Швэцыя, у сучасны момант займае апошняе месца па ўжываньню алькоголю. А гэтакія паўднёвыя краіны, як Францыя, Гіспанія і Італія займаюць адно з першых месц.

Такім чынам, мы можам пераканацца, што зусім ня верна думка, што ў халодных краёх для саграваньня неабходны сьпірытусавыя напіткі. У Сібіры, напрыклад, перад доўгай зімовай дарогаю ня п‘юць ні гарэлкі, ні чаю, а цёплае топленае масла, якое надоўга пакідае адчуваньне прыемнага цяпла. Тое самае можна сказаць і аб расе, якая ня грае ніякае ролі ў разьвіцьці алькоголю. Проф. Янжул у зьвязку з гэтым кажа, і зусім верна, што „п‘янства можа разьвівацца і існаваць у народу ўсякае расы і ўсякага клімату, і кожны народ рознае расы і рознага клімату лічыць п‘янства сваёй нацыянальнай заганай і хоча пазбавіцца яе“.

Значыць, не падлягае сумненьню, што клімат і раса, у рамках існуючых умоў тэхнікі і вытворчасьці, страцілі сваё мінулае значэньне і ўплыў на разьмер ужываньня сьпірытусавых напіткаў, і толькі ўплыў соцыяльнага асяродзьдзя, як мы ўжо паказвалі раней, настолькі магутны, што зводзіць на няма ўплыў клімату і расы. І трэба толькі земляробскаму краю зрабіцца прамысловым, як зьнікне зьмернасьць ужываньня гарэлкі і п‘янства прыме хранічны характар.

А цяпер пяройдзем да разгляданьня другога пункту погляду аб уплыве роду і ўзросту на разьвіцьцё п‘янства.

Калі некаторыя вучоныя кажуць, што жанчына менш падлягае п'янству, чым мужчына, то мы, марксыстыя, з упэўненасьцю можам сказаць, што калі жанчына п'е менш за мужчыну, то толькі таму, што яна вядзе замкнутае жыцьцё і менш, чым мужчына, сустракаецца з тымі жыцьцёвымі ліхімі гадзінамі, якія робяць мужчыну алькоголікам; і трэба толькі жанчыне ўцягнуцца ў гаспадарчае жыцьцё, падпасьці пад кола капіталістычнае вытворчасьці і зьявіцца ўва ўсіх галінах працы, як алькоголізацыя яе пачне прымаць усе большыя і большыя разьмеры. Проф. Сікорскі даказаў, што з цягам часу лік апойных сьмярцей сярод жанчын усё павялічваецца, і калі раней лік мужчын, якія пакутвалі алькоголізмам, быў у чатыры разы большы жанчын, то цяпер—наўрад, ці лік хворых мужчын будзе ў два разы больш ліку жанчын. Гэты факт зноў такі яскрава ілюструе нам, што на разьвіцьцё алькоголізму робяць уплыў толькі соцыяльныя ўмовы. Што-ж датычыцца ўплыву ўзросту, то некаторыя аўторы нахільны лічыць палкасьць да сьпірытусавых напіткаў „юнацкай“ хваробай і ў даказнасьць гэтага яны прыводзяць наступныя статыстычныя даныя. Па весткам Яраслаўскага памяшканьня для алькоголікаў, найбольшы лік мужчын пачалі піць ва ўсросьце 15-20 гадоў (703 з 1305 чал. альбо 53,7%); ва ўзросьце 15-24 г. пачалі ўжо піць 1035 чал. альбо 79,3%. Але гэтыя лічбы нам толькі даказваюць, што юнацкі ўзрост найбольш падходзіць для розных хваробаў і хворых нахілаў, бо моладзь лёгка заражаецца тымі хваробамі, якія распаўсюджаны ў абкружаючым асяродзьдзі. Такім чынам, асяродак цяжару пытаньня захоўваецца не ў спэцыфічных якасьцях юнацкага організму, не ў яго прыродных нахілах, а як раз у тых уплывах, якім падлягае з усіх бакоў падрастаючае пакаленьне. І калі юнацтва прымушана шукаць забыцьця ў віне, то вінаваціць у гэтым прыходзіцца ня ўзрост, а абкружаючыя ўмовы, якія далі непажаданы выхад маладым сілам, і тут, як мы бачым, ва ўтварэньні рашаючую ролю грае тое самае соцыяльнае асяродзьдзе, абстаноўка жыцьця, у якіх і прыходзіцца шукаць крыніц згубнай палкасьці да алькоголю.

Шмат вучоных паказваюць яшчэ на падражаньне, як на фактор, дапамагаючы разьвіцьцю алькоголізму. Так, проф. Бушэ кажа: „Прычынай, якая прымушае вас прывыкаць да ўжываньня сьпірытусавых напіткаў, зьяўляецца падражаньне“.

„Няма гэтакіх грамадзкіх фактораў, кажуць іншыя вучоныя, якімі можна было-б растлумачыць утварэньне прывычкі да сьпірытусавых напіткаў. П'юць-жа прадстаўнікі ўсіх груп і слаёў насельніцтва. Алькоголь знаходзіць сабе прыяцеляў і ў хормах багатых і ў халупе беднага“—гэтак кажуць яны. А доктар Каровін падцьверджвае,—што „розьніца ў экономічным становішчы ня служыць рашаючым момантам для ўтварэньня алькоголізму“.

Гэткім чынам, звычаем, прывычкай, падражаньнем вышэй паказаныя вучоныя стараюцца растлумачыць прычыну п'янства.

„Людзі п'юць таму, што п'юць іншыя“—вось іх тлумачэньне, вось іх прагноз. Але не! Гэтыя аўторы вельмі памыляюцца, бо ня ў тым, як мы ўжо даказвалі, прычына п'янства. І на самай справе: калі прычына п'янства ў звычаі, ці падражаньні, то даволі было-б зьнішчыць гэты шкодны звычай, увайсьці ў шэрагі ня п'ючых, прыцягнуць на гэты шлях і шмат іншых людзей і посьпех, здавалася, ня прымусіць сябе доўга чакаць. Складаная задача, такім чынам, проста вырашыцца пры дапамозе абяцаньня ня піць, якое дадуць усе тыя, хто цяпер п'е. Аль-

коголізм пасьля гэтага згіне, і пагроза выраджэньня пакіне трывожыць чалавецтва. І мы бачым, што казаньне цьвярозасьці ўзьнікае. У працягу дзесяткаў гадоў у розных канцох сьвету раздавалася цьвярозае слова, стараліся запугаць народ страшнымі вынікамі п'янства, а алькоголізм ня згінуў на зямлі, ужываньне яго ўсё расьце і кожны год ён уносіць тысячы ахвяр, ня гледзячы на сэрдэчныя і цёплыя словы, з якімі зварочваюцца цьвярозьнікі. Мы можам сьмела прыйсьці да вываду, што асабовая воля, падражаньне ня граюць ужо гэткае выключнае ролі ў лёсу п'ючых людзей. Чалавек п'е не дзеля таго, што ён без зразуменьня падражае іншым, а дзеля таго, што ва ўмовах абкружаючай яго сапраўднасьці маюцца асаблівыя сілы, якія прымушаюць яго пайсьці па шляху падражаньня. Гэтыя сілы ёсьць соцыяльнае асяродзьдзе, нязьбежна прыводзячае да падражаньня.

Асабовыя прычыны, якія мы разгледзелі, не зьяўляюцца рашаючымі і адзінымі фактарамі, якія робіць уплыў на разьвіцьцё ўжываньня алькоголю. Прычыны грамадзка-соцыяльнага значэньня, соцыяльнае асяродзьдзе—вось што корміць і разьвівае алькоголізм.

А цяпер пяройдзем да разгледжваньня тых злачынстваў, фактарам якіх зьяўляецца алькоголізм. Якія-ж асноўныя віды злачынстваў, што робяцца пад уплывам алькоголю.

Усякі з нас бачыў, як пры ап'яненьні чалавек губіць самаабладаньне і пачуцьці жывёлы выходзяць у яго на першы плян. З надзвычайнай сілай павышаецца пачуцьцёвасьць да ненатуральных разьмераў, узбуджаючая да неабдуманых і жорстка-злачынных дзеяў. І вось тут мы зьяўляемся сьведкамі шэрагу злачынстваў алькоголікаў, накіраваных супроць моральнасьці, асобы, сям'і, дзяцей і г. д.

„Вось алькоголіка абхапіла жаданьне,—кажа проф. Дрыль,—дастаць сабе той ці іншы прадмет, і ён гатоў украсьці яго, толькі каб не адмовіцца ад свайго жаданьня. Альбо яго розумам заўладала жаданьне ўладаць жанчынай, якая змагла распаліць у ім палкасьць жывёлы, альбо пакараць свайго супраціўніка, і п'яны чалавек пойдзе на злачынства, толькі каб выканаць сваё злачыннае жаданьне". І статыстычная сапраўднасьць не адзін раз рэгістравала падобныя факты, перадаючы трагэдыю шмат жыцьцяў. Даволі яскравую характарыстыку ўплыву алькоголю на злачынства дае проф. Райт: „Пры першых прыёмах сьпірытусавых напіткаў,—кажа ён—у пэрыодзе ап'яненьня алькоголь парушае кармленьне нэрвовай сыстэмы і ў гэтым пэрыодзе жывёльныя палкасьці пануюць над воляй і розумам. Пад уплывам-жа далейшых прыёмаў алькоголю чалавек губіць сваю звычайную фізыономію, зыходзіць на ніжэйшую стопень і пакідае адказваць за свае дзеі".

Вось у падцьверджаньне гэтае думкі прыклад, прыводзімы проф. Дрылем: нейкі змазчык Паламодаў з Ніжнетагільскага заводу, які знаходзіўся пад уплывам атраўленьня алькоголем і якога ня пусьцілі ехаць з цягнікам, быў прыведзены гэтым нікчэмным здарэньнем у такое становішча, што прышоўшы дадому схапіў там нож, зрабіў некалькі ранаў жонцы, зарэзаў сваіх дзяцей, кінуўся на вакзал і параніў служачага і незнаёмага пасажыра. У гэтым факце мы бачым бэссэнсавае шаленства, дзе зусім нельга ўгледзець нават променя разумнасьці, якая бывае ў чалавека.

Мы прывялі толькі адзін гэты конкрэктны выпадак і ім рашылі абмежавацца. У далейшым пакажам толькі падлічэньні Ашафэнбурга, які вылічыў, што ў аднэй толькі Нямеччыне злачынства супроць асобы,

цялесныя псаваньні, патрабавалі ў працягу аднаго году 988.568 днёў для лячэньня і зажыўленьня. Ім-жа было адзначана і шмат злачынстваў супроць моральнасьці. Так, гэтакіх злачынстваў з боку прывычных п'яніц было зроблена 66%; сярод абвінавачваемых у супярэчаньні ўладзе было 5,1% прывычных п'яніц і 70,1% п'яніц выпадковых.

Гэтакі ў агульных рысах згубны ўплыў атраўленьняў ад алькоголю на самых атраўляючыхся, уплыў, які прыводзіць да паўнейшага азьвярэньня і атупленьня, пры якіх яны пазбаўляюцца чалавечага выгляду. А ў гэтых-жа ўмовах павінны жыць сем'і алькоголікаў, расьці іх дзеці. Хто азначыць усю масу злачынстваў, якія алькоголік робіць у адносінах да свае сям'і, да сваіх дзяцей? У гэтакіх сем'ях ужо ня можа быць гутаркі аб згодзе, творчай продукцыйнай працы, правільным выхаваньні падрастаючага пакаленьня. Дзеці ў гэтых сем'ях вырастаюць бяз догляду, бяз правільнага кіраўніцтва маладым, прасыпаючымся жыцьцём, бяз ласкі. І зусім натуральна, калі дзеці алькоголікаў рана знаёмяцца з злачынствамі, горшымі бакамі сучаснага жыцьця і потым канчаткова раскладаюцца пад цяжарам ганьбы, якую ўскладае на іх кара. Нельга дзеля гэтага сумнявацца ў тым, што алькоголь раскладвае сям'ю, даводзіць яе да ўсялякіх злачынстваў, што алькоголь прымушае скарачаць звычайныя патрэбы, пагоршвае кармленьне і заўсёды падтрымлівае ў сям'і дух раскладваньня і ўзаемнага нездаваленьня. Але пойдзем далей. Алькоголь не абмяжоўваецца ўплывам на сямейнае асяродзьдзе, у якім жыве чалавек. Ён пранікае і сваім раскладваючым уплывам абкружвае чалавека ў яго грамадзка-політычным жыцьці. Ён забівае ў чалавеку вышэйшыя цікавасьці і імкненьні, забівае ў чалавеку магчымасьць жыць ідэаламі, цікавіцца рашэньнямі грамадзкіх задач, вуменьне ахвяраваць асабовымі выгадамі дзеля агульнага дабра. Уім няма гэтых якасьцяй разьвітога інтэлекту. Алькоголь нараджае ў чалавеку самыя нізкія пачуцьці: эгоізм, сытае самаздаваленьне, няздольнасьць да барацьбы за лепшую будучыну, апатыю і жаданьне згадзіцца з існуючым парадкам. Вось якім згубным фактарам зьяўляецца алькоголь у грамадзка-політычным жыцьці народу, забіваючы ў людзей усякую асобу і затрымліваючы дзеля гэтага разьвіцьцё соцыяльна-політычнай сьпеласьці працоўных. Але з гэтым вывадам спрачаюцца ідэолёгі буржуазіі, як і з шэрагам іншых соцыяльных пытаньняў, дзе неабходна ў інтарэсах політычнага панаваньня буржуазіі зацямняць свядомасьць працоўных мас. Гэтыя ідэолёгі імкнуцца даказаць, што без алькоголю ня можа быць радасьці ў грамадзкім жыцьці. Для таго, каб падняць настрой грамады, для таго, каб зрабіць перажываньні яе больш яскравымі, неабходна спыніць усякую барацьбу з недазволай ужываньня алькоголю. Але для нас ня можа быць сумненьня ў шкоднасьці гэтакага пагляду таму, што нельга прыбегнуць да штучных спосабаў дзеля таго, каб „падняць настрой“ капіталістычнай грамады, разьядаемае сваімі ўнутранымі спрэчкамі. Грамаду, масы не распаліш алькоголем, ім не дасі сапраўднай радасьці ў жыцьці; ён нараджвае толькі дзікія сцэны і бязглуздыя дзеі. Ён выхоўвае ў працоўных масах доўгацярпеньне, прымушае іх згаджацца з тымі ўмовамі жыцьця, на якія піхае іх пануючая кляса. Шмат працы прыходзіцца пакласьці політычным партыям і грамадзкім організацыям, каб даказаць працоўным шкоднасьць алькоголю, каб узброіць і падрыхтаваць іх сьвядомасьць на бязьлітасную барацьбу за зьмену сучаснага становішча.

Упэўніўшыся ў шэрагу злачынных момантаў у грамадзка-прававаым жыцьці алькоголіка, мы можам перайці да спосабаў барацьбы з алько-

голізмам, да тых карных прынцыпаў, якія ўжываліся супроць алькоголікаў.

Тут раней усяго трэба адзначыць, што ў гэтым напрамку як раней, так і цяпер, ужываецца цэлы шэраг рэпрэсыўных спосабаў. Але ўсе гэтыя суровыя спосабы ніякага посьпеху ня маюць, бо алькоголік—гэта чалавек раней усяго хворы, як мы ўперад паказвалі; ня злая воля прывяла яго да п'янства, не асаблівая, адпаведная яму загана, а злучнасьць розных, галоўным чынам, соцыяльных умоў. Бо хронічны алькоголізм—гэта хваравітае перараджэньне важнейшых органаў, якое цягне за сабою асаблівую зьмену жыцьцёвага ўкладу асобы, так што пакараньне хронічнага алькоголіка—бязмэтная, непатрэбная, нічым не апраўдваемая жорсткасьць, ня маючая нічога агульнага з разумнай барацьбой з злачынствам. І лепшыя, прогрэсуючыя элемэнты грамады ўжо разглядаюць п'янства не як злачынства і яны вядуць барацьбу з бязмэтнай „энэргіяй ўлады", лютымі спосабамі, выкарэньваючымі п'янства. Для ілюстрацыі гэтакае энэргіі ўлады возьмем Францыю 1873 году, дзе пасьля выданьня дэкрэту аб п'янстве паліцыя разьвіла такую інтэнсыўную карную дзейнасьць, што лік арыштаваных за п'янства дасягнуў вялізарных разьмераў, і ўлада, ня гледзячы на тое, што ўжываньне алькоголю хутка павялічылася на 50%, прымушана была ўсё-ж лік арыштаваных за п'янства ўсё больш зьніжаць, і ў канцы канцоў, закон 1873 году ўжо пакінуў праводзіцца з тэй энэргіяй, з якой выконваўся раней. Гэтакім чынам, заключвае доктар Красьнянскі ў сваёй брашуры: „Барацьба з алькоголізмам", — „поліцэйскія агэнты не ў магчымасьці былі быць асабліва строгімі ў барацьбе з п'янствам, як актыўныя абаронцы ўстояў капіталістычнае грамады і правапарадку".

Для алькоголікаў толькі патрабуецца правільнае лячэньне, але зусім ня карныя спосабы. Нельга-ж караць алькоголіка за тое, што чалавек, як думае буржуазны кодэкс, сваёй уласнаю сілай волі ня можа прымусіць сябе адмовіцца ад гэтае заганы. Але-ж трэба разумець, што алькоголізм тым як раз і адзначаецца, што забівае ўсякую волю падлеглага яму чалавека. Алькоголік ведае ўсю тую шкоду і няшчасьце, якія прыносіць яму п'янства, але перамагчы свае жаданьні ён, аднак, не ў магчымасьці. Значыць, неабходна такая пастаноўка лячэбных мерапрыёмстваў, якая змагла-б адвучыць хворага ад ужываньня сьпірытусавых напіткаў, к якім ён прывык. Мэта гэта дасягаецца ў асобых лячэбніцах, куды зьмяшчаюць алькоголікаў на доўгі час. Тут раней усяго хворага зусім ізолююць ад алькоголю; хворы вядзе правільнае жыцьцё, яму ўтвараюць абстаноўку паўнейшага фізычнага і душэўнага спакою, што зьмяншае патрэбу ў алькоголю. Хворага добра кормяць, каб аднавіць падточаныя алькоголем жыцьцёвыя сілы. Такім чынам, спосабы, якія ўжываюцца ў лячэбніцах для алькоголікаў, складаюцца ў строга і азначана выпрацаваным парадку, які дапамагае правільнаму існаваньню ўсіх элемэнтаў організму. Першая гэтакая лячэбніца была адчынена ў 1854 годзе ў Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі, у штаце Нью-Ёрк дзякуючы дзейнасьці доктара Турнэра. І ў іншых краёх таксама маюцца падобныя лячэбніцы. Вынікі лячэньня ў іх даволі значныя. Процант выздараўліваючых роўны 20-30%. У дарэволюцыйнай Расіі пытаньне аб адчыненьні падобных лячэбніц знаходзілася ў пачатачным становішчы.

З спосабаў барацьбы супроць п'янства капіталістычная грамада ўжывала яшчэ адзін, які выяўляўся ў організацыі „Грамад Цьвярозасьці". Задачай гэтакае грамады зьяўляецца ўцягнуць у свае шэрагі

магчыма большы лік людзей, якія, уступаючы ў яго, павінны былі даць абяцаньне ўтрымацца ад сьпірытусавых напіткаў. Гэтыя грамады робяць сярод сваіх сяброў казаньне цьвярозасьці, некаторыя з іх утвараюць асобыя органы друку, выдаюць брошуры і лісткі. Ёсьць і такія грамады, якія зварочваюцца з казаньнем да моладзі, стараючыся адцягнуць яе ад п‘янства, а таксама і такія, якія організуюць лячэбніцы і колёніі для п‘яніц.

Характарнай асаблівасьцю гэтых грамад, якая ўскрывае ўсю буржуазную сутнасьць іх, зьяўляецца іх імкненьне зрабіць уплыў на „ўнутраны сьвет“ сваіх сяброў, імкненьне рабіць уплыў на іх совесьць, дапамагаць „насаджваньню ў іх моральных устояў, якія прадстаўлялі грунт супроць п‘янства“. Першая грамада цьвярозасьці зьявілася ў Амэрыцы, перш у штаце Нью-Ёрк, у 1808 г., а потым, праз некалькі гадоў, у 1826 годзе, у Бастоне, якая зараз-жа па організацыі, стала праводзіць надзвычайна энэргічную дзейнасьць. Праз год пасьля свайго ўтварэньня, грамада ўжо налічвала 280 філій, лік сяброў якіх быў за 30.000 асоб. Але, ня гледзячы на дзейнасьць гэтакіх грамад, п‘янства ня толькі не паменшвалася, а нават павялічвалася. Грамады цьвярозасьці пасьля шэрагу няўдач і няпосьпеху сталі падаць і хутка зусім спыніліся.

Другім спосабам барацьбы з п‘янствам, таксама ні да чога ня прывёўшым, як і шэраг вышэй паданых,—была барацьба праз асьвету. І з першых-жа крокаў досьлед паказвае нам усю проблематычнасьць і недахоп гэтага спосабу барацьбы. Мы ведаем у жыцьці шмат інтэлігэнтных, адукаваных людзей, якія добра знаёмы з жахам п‘янства і ў той-жа час вельмі і вельмі п‘юць. Статыстычныя даныя даюць нам значны процант алькоголікаў юрыстаў, дактароў, мастакоў і іншых людзей, чытаючых і спэцыяльна азнаёмленых з усёю шкоднасьцю ўплыву алькоголю на організм; людзей, якія бачылі ня раз малюнкі руйнаваньня алькоголізмам у клініках і больніцах. І ўсе яны алькоголікі, ня гледзячы на тое, што з пункту погляду культурнага, разьвітога чалавека алькоголізм можна толькі ганьбіць. Але ўсё-ж, ня гледзячы на тое, што прасьветныя меры ня могуць лічыцца ратунковымі супроць п‘янства, ня могуць пазбавіць ад яго чалавецтва, то, ва ўсякім выпадку, трэба сказаць, што неадукаванасьць грае большую адмоўную ролю ў напрамку зварочваньня людзей і ва ўтварэньні ў іх хваравітай нахільнасьці да сьпірытусавых напіткаў. Не патрабуецца шмат доказваць, што неадукаванасьць ідзе рука аб руку з адзічэньнем людзей, якія, дзякуючы гэтаму, утвараюць грубыя ўцехі. Тыя скажаныя формы, якія прыняло п‘янства ў нас у Расіі, бяссумненна знаходзяць тлумачаньне ў неадукаванасьці мас, дзякуючы няпрысутнасьці для іх культурных здавальненьняў, з-за тых умоў, пры якіх жылі гэтыя масы ў дарэволюцыйнай Расіі.

Капіталізм у якасьці яшчэ аднаго спосабу барацьбы з алькоголізмам ужывае гэтак называемую „Готэборскую сыстэму“. Яна складаецца з асобага парадку продажу сьпірытусавых напіткаў і высунута сьпярша Швэцыяй. Сыстэма гэта названа па імені гораду Готэборг, дзе яна сьпярша была поўнасьцю зьдзейсьнена.

Швэцыя даўно славілася разьмерамі п‘янства. У XVII сагодзьдзі нават была па гэтаму пытаньню прыказка: „п‘яны, як швэд“. Тлумачылася гэта тым, што з 1788 году ў Швэцыі была ўстаноўлена поўная свабода браварніцтва і піцейнага гандлю; у выніку гэтага ўвесь

край быў пакрыты броварамі і амаль-што кожная хата была карчмою. Пры гэтакіх умовах хутка, што зусім натуральна, зьявіўся рух цьверазасьці, які прыняў у Швэцыі вялізарныя разьмеры і вынікам якога зьяўляецца „Готэборская сыстэма". Быў выданы ў 1855 годзе закон, які прадстаўляў суполцы права забараняць у сваіх межах усякі гандаль гарэлкаю як агулам, так і ў розьніцу, калі толькі ён ня грунтуецца на азначаных прывілеях. Тым-жа законам з карчмы бралася больш падаткаў, чым з віннае лаўкі; ён забараняў яшчэ спаганяць даўгі за гарэлку, забараняў прадаваць гарэлку ў мясцох аўкцыёнаў, кірмашоў. Улада па гэтаму закону мела права абмяжоўваць сьвяточную працу корчмаў. Забаранялася па гэтаму закону прадаваць гарэлку п'яным і дзецям маладзей васемнаццаці гадоў. Наогул суполкі павінны былі рэгуляваць продаж алькоголю і ім прадстаўлялася права выдаваць дазволы грамадам на дробны гандаль віном. Гэта права скарысталі ў мэтах барацьбы з п'янствам розныя грамады, з якіх найбольшага разьвіцьця і росквіту дасягнула грамада ў Готэборгу. Яна існавала на наступных прынцыпах:

1) Гандаль сьпірытусавымі напіткамі не павінен быў прыносіць карысьці ні прадаўцу, ні яго пастаўшчыкам.

2) Ні ў якім выпадку не дазваляўся продаж удоўг.

3) Месцы продажу алькоголю павінны былі быць чыстымі, сьветлымі і вялікімі.

4) Абавязкова павінна была быць добрая ежа па таннай цане.

Паставіўшы сабе гэтакія прынцыпы, організаваўшаяся грамада пастанавіла адлічваць з прыбыткаў ад продажу сьпірытусу 6% гадавых на затрачаны капітал, увесь-жа прыбытак разьмеркаваць часткай на дабрачынныя ўстановы, часткай на патрэбы грамады. Што-ж больш можа зрабіць „адукаваны" і „гуманны" капіталізм, як карміць працоўных living рознымі ілюзіямі, абы толькі схаваць сапраўдны сэнс няшчасьця, сапраўдны сэнс хваробы, і мы бачым, што спачатку гэтая сыстэма заваёўвае прызнаньне ў краю. У Швэцыі застаюцца толькі восем малых гарадоў, дзе ня было ўстаноў гэтае сыстэмы, дзе продаж алькоголю здаваўся з таргоў і сапраўды трэба сказаць, што гэта сыстэма да вядомай ступені імкнулася ўпарадкаваць ужываньне сьпірытусавых напіткаў.

Але ўсё гэта ва ўмовах буржуазнае дзяржавы можа дасягнуць мэты і посьпеху толькі ў тым выпадку, калі дзяржава не зацікаўлена ў атрыманьні прыбытку ад продажу сьпірытусу; але ў тым і сутнасьць капіталістычнае грамады, што там усё разьвіваецца па закону падвойнасьці і фальшывасьці, што там увесь час сустракаюцца інтарэсы моральныя з грашовымі, пры чым шмат кажуць аб моралі, якую як бы робяць боскай і ўзносяць на недасяжную вышыню і аб якой у тойжа момант забываюць, калі справа даходзіць да практычных мерапрыёмстваў. Інтарэсы грашовыя ў гэтых выпадках лічацца лепш за моральныя. Гэтакі ўжо закон жыцьця буржуазнае грамады, і вось пры гэтых умовах Готэборская сыстэма, якая крыху скараціла ўжываньне алькоголю, не зьявілася казаньнем супроць зла і ня спыніла п'янства. Да і не магла яна зрабіць гэтага; гэта для нас больш, чым ясна. Вывад наш адзін: што ніякімі зьменамі ў парадку гандлю алькоголем нельга зьнішчыць, альбо хоць бы паменшыць п'янства, раз гэта зло падтрымліваецца і корміцца ўмовамі азначанага соцыяльнага асяродзьдзя. І трэба выжыць прычыны, якія піхаюць чалавека на п'янства,

трэба выжыць вострую социяльную патрэбу, каб не казаць ужо аб алькоголізьме, як аб вялікім социяльным зле і вялікай социяльнай хваробе.

Ітак, для нас зусім зразумела цяпер, у чым захоўваецца асяродак цяжару пытаньня барацьбы з алькоголізмам, які страшэнны бізун алькоголь для працоўных, як бязглузны тыя дзеі, якія робіць чалавек пад уплывам алькоголю, як пагрозны тыя вынікі, якія цяжкім бярэмам глыбокіх пакут лажацца на алькоголіка, яго сям'ю і патомкаў; для нас таксама ясны тыя прычыны социяльна-бытавога ўкладу капіталістычнае грамады, якая народжвае алькоголікаў, і яшчэ больш ясна, што алькоголізм будзе пераможан назаўсёды толькі тады, калі грамадзкія ўстоі ўсіх капіталістычных краёў будуць грунтавацца на новых социялістычных асновах.

Цяжкая будзе барацьба новае социялістычнае грамады з п'янствам—гэтым фактарам розных злачынных дзеяў; цяжкая яна будзе дзеля таго, што старыя ўкараніўшыяся прывычкі, якія ўвайшлі ў быт, выжываюцца з вялікімі цяжкасьцямі і напружанымі патугамі. Мы бачым гэта на прыкладзе нашага Савецкага Саюзу, дзе барацьба з п'янствам праходзіла шэрагі этапаў, пачынаючы з сыстэмы гэтак званых забаронных спосабаў, на якіх мы тут ня спыніліся, затым сыстэмы масавай пропаганды і агітацыі і канчаючы монополіяй, бо забаронная сыстэма мела цэлы шэраг сваіх недахопаў і адмоўна дзейнічаючых бакоў.

Разгледзім, як змагаецца наш карны кодэкс з злачынствамі, якія адбываліся пад уплывам алькоголю. Наш кодэкс раней, чым вынесьці тое ці іншае азначаньне, разгледжвае прычыны ап'яненьня. Так, неабходна сьпярша выявіць, ці не напіўся даны суб'ект дзеля тяго, каб у ап'яненьні зрабіць злачынства. У гэтым выпадку мы маем справу з наўмысным злачынствам, якое наш кодэкс бязумоўна пакарае як за зробленае злачынства, гэтак і за імкненьне схаваць яго пад відам ап'яненьня.

Калі-ж суду ўдаецца выявіць, што злачынства зроблена пры поўным ап'яненьні без усялякіх наўмысных мэтаў, то гэтым злачынец лічыцца няпрытомным. Учыненьне злачынства пры няпоўным ап'яненьні наш кодэкс разгледжвае, як дзею, падлеглую кары, але, вядома калі пры азначаньні кары судзьдзя знойдзе, што факт ап'яненьня пры даных умовах гаворыць на карысьць чалавека, ён можа прыняць гэта пад увагу, як і ўсякія іншыя паменшаючыя віну абставіны і паменшыць кару.

П'янства—зло, якое выцякае са злучнасьці социяльных умоў, і злачынства, утвараемае пад яго ўплывам,—згінуць са зьменай грамадзкае будовы назаўсёды.

С. Баркоўскі.

# Анімістычны сьветапагляд беларуса па песьням.

Характарнай рыскай сьветапагляду ў нашых дзядоў-беларусаў, якія знаходзяцца на нізшай стопені разьвіцьця, зьяўляецца „анімізм“— ад лацінскага слова animus (дух), вера ў тое, што ўся прырода распадаецца як бы на два сьветы: матэрыю і дух. Матэрыя выяўляла фізыолёгічныя патрэбы, душа-ж (дух) як бы кіравала матэрыяй, яна жыла адным жыцьцём з першай.

Гэтакі погляд уласьцівы народу, які вядзе сваю гаспадарку пervястковымі тэхнічнымі звычкамі, якія выпрацаваліся ў яго ў процэсе барацьбы за існаваньне.

Усякі прадмет прыроды, па погляду нашага дзеда-беларуса, меў свой дух, які жыў у тым ці іншым прадмеце і даваў магчымасьць яму жыць.

Духі гэтыя былі злыя і добрыя. Нашым дзядом трэба было весьці з імі зносіны, якія патрабавалі азначаных прыстасаваньняў і азначаных асоб. Абрад гэты выліваўся перш у ахвяру, потым у малітву, г. зн. у зварочваньне з просьбай аб дапамозе, а таксама і ў формы розных загавораў, заклінаньняў і гаданьняў, праз якія дзяды хацелі прымусіць дух выканаць тое, што хацеў чалавек.

Прадметы, якія абкружалі старасьветнага беларуса, з якімі ён спіхаўся ў сваім штодзённым быце, як: камень, кожная жывёла, птушка, рыба, рака і г. д., здаваліся зраднымі і невядомымі, бо зразумець іх унутранае жыцьце, у якое ён верыў—ён ня мог. Ня маючы точнага прадстаўленьня аб жыцьці духаў, абкружаючых яго прадметаў, беларус іх крыху баяўся і трымаўся заўсёды на-старожы. Ён думаў, што самая малая нетактоўнасьць у адносінах да духу можа павесьці да вялікіх няшчасьцяў. У яго разуменьні пераважвала думка, што часьцей усяго трывожыць духаў голад, і ахвярамі ён стараецца іх задаволіць. Гэта—цень „памінак“, якія робяцца цяпер на могілках памёршага з рознай ежай.

Паступова анімістычны сьветапагляд беларуса ўтвараў свім выабражэньнем боскіх і напоўбоскіх асоб, аб якіх яму прыходзілася клапаціцца і старацца жыць у згодзе, каб ня здарылася няшчасьця.

„Народжваецца рэлігія, у аснове якое ляжыць уяўленьне аб тым, што нейкія вышэйшыя асобы ўмешваюцца ў жыцьцё людзей і накіроўваюць яго туды, куды самі хочуць. Рэлігія ўзьнікае сьледам упэўненасьці чалавека ў недахопе яго асабовага і грамадзкага досьледу дзеля правільнага пабудаваньня свайго жыцьця“[1]).

Анімістычны сьветапагляд беларуса наклаў адбітак на гэткія праявы народнае творчасьці, як песьні, казкі і інш., у якіх адбіваюцца перажываньні, настроі і думкі самога народу.

---

[1]) П. Кушнер «Очерки развития общественных форм», стар. 129.

У прапануемым артыкуле мы спынімся на песьнях, якія перадаюцца вусна ад аднаго пакаленьня другому і якія ў іншых мясцох захавалі сваю первястковую цэласьць.

Беларус не дапускаў ніякае розьніцы ў існаваньні паміж чалавекам, жывёлай і ўсімі тымі прадметамі, якія маглі перамяшчацца. Разуменьне жыцьця ў яго супадала з разуменьнем аб перамяшчэньні; дзеля гэтага яму здавалася, што ўсе гэтыя прадметы ўладалі здольнасьцю жыць.

У прыводзімай намі песьні сьвет жывёл мог выконваць тую-ж працу, што і чалавек:

— „А в болоці на колодзі
„Мядзьведзь боты шыець,
„А варона сцэражона
„На яго глядзя зіваіць,
„У скрыпачку ґраіць,
„А воўчонок скрыпачонак
„Ей прыпеваіць"[1]).

Другая песьня з тае-ж мясцовасьці перадае малюнак, які, па нашаму погляду, адбівае соцыяльныя моманты ў жыцьці беларуса; тут як бы сымбалізаваны „козленак" і яго „матуленька":

— „Дзе быў, козуленька?
„На работе, матуленька.
„Што заробіў, козуленька?
„Ком сала, матуленька.
„Дзе ж дзеў, козуленька?
„Кот зьеў, матуленька.
„Бодай яго разорвало"[2]).

Беларус хаця і дапускаў, што ўсе жывёлы і абкружаючыя яго прадметы маюць аднолькавыя функцыі, але ў той-жа час ён не адносіўся абыяк к цячэньню жыцьця, якое яго абкружала.

Так, адна з песьняў кажа, што адзіны козьлік, які меўся ў бабкі, заблудзіўся недзе і яго зьелі ваўкі. Засумаваўшая бабка пайшла яго шукаць, сустрэла воўка і пытае, дзе козьлік, а той адказвае:

— „Вун рогі пад дарогай,
„А галоўка пад ялушкай".

З гора— „Села баба наката, паехала да папа.
„Ах ты, попюхно, ах ты, батюхно!
„Помяні мойго козла"[3]).

Нашы дзяды адносіліся з пашанай да сваіх хатніх жывёлаў таксама, як і да памёршага свайго таварыша. Па некаторым крыніцам— сярод нашых дзядоў было распаўсюджана павер'е, што казёл зьяўляецца абаронцай земляробства. Тады казёл як бы зьяўляўся свайго роду тотэмам аднаго з радоў нашых дзядоў.

Прыпісваньне гэтакіх якасьцяй казлу магчыма толькі ў тым выпадку, калі ў людзей, якія складалі песьню, казёл лічыўся прабацькам.

У старасьветных песьнях казёл сапраўды выступае абаронцай земляробства і людзей.

Найбольш ранейшая эпоха з прынясеньнем на Беларусь хрысьцьянства злучана ў беларуса з „папом". Гэта адбілася і ў песьнях.

---

[1]) П. Шэйн. Т. ч. I „Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Витебская губерния, Лепельский уезд, м. Нача", стар. 33.

[2]) Ibidem, стар. 33. „Витебская губ. Лепельский у. м-ко Нача".

[3]) Ibidem, стар. 96 „Минская губ., Мозырский у., с. Мелишковичи".

Прымітыўная сьвядомасьць беларуса не магла зразумець усяго адбываючагася ў прыродзе і, вядома, бачыла ва ўсім дзеі духаў злых і добрых, якія, як ён думаў, жылі ўсюды. Усе гэтыя меркаваньні прымушалі беларуса ня толькі жывёл, але і расьлінны сьвет падзяляць падобна свайму ўласнаму існаваньню, дзе ўсе вядуць таксама, як і ён, сваю гаспадарку паасобку, маюць формы падзяленьня працы, грамадзкіх абавязкаў і г. д.

У ваднэй песьні гаворыцца, як:

— „У канцы села стояла гора,
„А на той горе шоўкова трава,
„А ў той траве голубы гудуць,
„Голубы гудуць—церкаў будують
„З трыма верхамі, з чатырма вокнамі“[1]).

У другой песьні апісваецца „вясельле вераб'я“. Мы бачым, што беларус уложвае ў гэта здарэньне, гэтакае важнае ў яго жыцьці, увесь той клопат падрыхтаваньня, які ахапляе яго. Тут у вобразе птушак праходзіць усё тое, што ён сам выконваў і рабіў, але гэта мае некаторую поэтычную афарбоўку.

Дамо слова ўдзельнікам самога вясельля. Так, сьпярша „верабейка“—„паляцеў да сваей матуленькі радзіціся“, а калі ўсё наконт падрыхтоўкі было зроблена, патрабаваліся якія колечы працы зрабіць у гаспадарцы:

— „Сеў на лаўку, думае:
„Што за першая работа?
„Ячмень, жыта треба зжаці,
„Снопы ў копы поскладаці.
„І звозілі, змолоцілі,
„Дзесяць зернят налічылі,
„Піва і горэ‥кі зробілі,
„На баль госьці запросілі“.

На вясельлі была і закуска, была і вясельная частка; як „ударылі ў барабаны“, дык тут ужо было не да цярпеньня:

— „А сініца падскочыла,
„Журава з лаўкі схваціла:
„Ходзі, жураў, потанцуем,
„Ящо трошку пожартуем“[2]).

Творы народнай поэзіі былі вынікам колектыўнае творчасьці: іх утвараў і ахоўваў увесь беларускі народ, яны адбівалі думкі і пачуцьці ўсяго народу, хаця-б па аднаму таму, што песьні заўсёды пеліся ў вялікія сьвяты, як „Купала“, „Каляды“ і інш.

Усе песьні, на наш погляд, прымяркоўваліся ды выдатных здарэньняў як у жыцьці нашага дзеда-беларуса, гэтак і да найбольш паважных здарэньняў у прыродзе: у ваднэй з песьняў чытаем: —„Рана на Івана сонца іграло[3]), а там дзеўка воду брала“[4]).

Пахаджэньне гэтай песьні адносіцца па свайму зьместу да глыбокай старасьветчыны, да тых часоў, калі наш дзед, як мы паказвалі раней, усе сілы і зьявы прыроды лічыў жывымі і быў упэўнен, што з імі можна ўступаць у непасрэдныя зносіны.

---

[1]) Ibidem, стар. 86, „Труды Чубинского, т. III, колядки, № 38 и 75“.

[2]) Ibidem, стар. 519 „Минской губ. и уезда, дер. Ячонка близ м. Столбцы“.

[3]) па паўсямясцоваму павер'ю беларусаў на Іванаў дзень сонца пры ўсходзе грае, г. зн. з аднаго звычайнага сонца робіцца шмат іншых, якія верцяцца адно каля другога, разьбягаюцца і зноў злучаюцца ў адно звычайнае.

[4]) Ibidem, стар. 227 „Витебской губ. и уезда, с Медешно.“

У другой песьні аб гэтым ясна гаворыцца:

— „Зажурылася каменная гара,
„Што ні уродзіла шоўкова трава,
„Толькі урадзіў зялён віноград“[1]).

Наглядаючы рух нябесных сьвяціл і іншыя праявы космосу, беларус над усім гэтым задумоўваўся; што было яму не зразумела, ён стараўся растлумачыць, а калі не разумеў, то часта апранаў усе незразумелыя зьявы міфічнай абалонкай і ў гэтым знаходзіў часовы спакой ад нявырашанага пытаньня.

У ваднэй з песьняў мы заўважваем спрэчку гасьцей аб небе і зямлі, вырашаную ў канцы трэцім, дзе, як нам думаецца, ярка адбілася яго ўласнае ўяўленьне. Ён кажа:

— „Тым неба меней,
„Што ўсюды роўна,
„А зямля болей
„Што горы, домны“[2]).

Спынімся на аднэй характарнай рысцы анімістычнага сьветапагляду, на ваўкалацтве, якому падлягалі ўсе прадметы як жывое, так і няжывое прыроды незалежна ад іх асабовых якасьцяй.

Дзеля падкрэсьленьня сашлюся на дзьве песьні:

— „Іскорка упала—там речка стала“[3]), альбо ў другім месцы:

— „Рассеятся обоя:
„С мяне будзіць жоўты цвет,
„С тебе будзіць сіні цвет“[4]).

Мы ўжо з усяго папярэдняга заўважылі той факт, што беларус не нагледжвае мяжы між чалавекам, жывёлай і прыродай. Гэта тлумачыцца прымітыўнасьцю яго гаспадаркі, вельмі ня глыбокай розьніцай асяродзьдзя, у якім ён жыў, ад абкружаючых яго натуральных умоў. Ня толькі жыцьцё само па сабе, але і яго скончэньне—сьмерць ня зусім выразна ўяўляецца беларусам на стадыі анімізму.

Уся яго псыхіка, мышленьне, пачуцьці, уяўленьні, вераваньні—складаюцца пад непасрэдным уплывам абкружаючых яго знадворных умоў. Песьня зьяўлялася адбіткам жыцьця і цяжкай барацьбы за сваё існаваньне.

Беларус непасрэдную мэту свайго жыцьця бачыў у спосабе дабываньня ежы. Увесь яго сьветапагляд, формы грамадзкага жыцьця былі адбіткам асяродзьдзя, у якім яму прыходзілася дабываць сабе матар‘яльнае дабро.

Песьня, як мастацтва, альбо мастацкая творчасьць, у даным выпадку беларуса—мела мэтаю дастаўленьне чалавеку прыемных адчуваньняў і перажываньняў; калі праца ў нашага продка-беларуса была неабходна дзеля атрыманьня жыцьцёвага дабра, то песьня як бы зьяўлялася дадаткам да працы, прыдаючы сумеснаму жыцьцю людзей павышаную цікавасьць.

Прыведзеныя намі песьні, на наш погляд, належаць народу, калі ён пакінуў вандроўны чын жыцьця і пачаў займацца земляробствам. Тут песьня служыла як бы супроцьвагай у яго цяжкай працы, расьсейвала яго зморанасьць; яна ўтварылася ў выніку гэтае працы, альбо як перавышка творчых сіл, якія не знаходзілі сабе выхаду ў фізычнай працы.

---

[1]) Ibidem, стар. 82 „Труды Чубинского, т. III Колядки № 38 и № 75.“
[2]) Ibidem стар. 78 „Труды Чубинского, т. III. Колядки № 38 и № 75.“
[3]) Ibidem, стар. 77 „Минской губ., Речицкого у., м-ко Горволя“.
[4]) Ibidem, стар. 234 „Витебской губ., Ошмянского у., с. Бокшты.“

Е. Бэйлін.

# Пляханаў у барацьбе з рэвізыонізмам.

У. І. Ленін у сваёй брашуры „Аб профсаюзах“, зварачаючыся да маладых сяброў партыі, пісаў наступнае: „Умесна, мне здаецца, заўважыць для маладых сяброў партыі, што нельга стаць сьвядомым, настаяшчым комуністым без таго, каб вывучаць, дакладна вывучаць усё напісанае Пляханавым па філёзофіі, бо гэта лепшае ўва ўсёй міжнароднай літаратуры марксызму“. І сапраўды, у пытаньнях абаснаваньня рэволюцыйнага марксызму Пляханаў зьяўляўся ў ранейшыя часы непабедным. Яго барацьба з рэвізыонізмам Бернштэйна складае адну з слаўных старонак яго жыцьця і гісторыі марксызму.

Дзякуючы таму, што мы абмяжованы рамкамі гэтае стацьці, мы ня можам падрабязкова спыніцца на гэтым пытаньні, і зачэпім толькі яго галоўныя, асноўныя моманты.

Кароткая гісторыя гэтага цячэньня гэткая. Рэвізыонізм, як больш ці менш аформленае цячэньне, узьнікае ў шэрагах нямецкае соцыялдэмократыі ў сярэдзіне 90-х г. г. прайшоўшага стагодзьдзя. Яго ўтварэньне ў шэрагах нямецкае с.-д. зьяўляецца ня простай выпадковасьцю. Нямецкая с.-д. на працягу дзесятку гадоў зьяўлялася аднэй з мацнейшых партый, вернай ашчэдніцай рэволюцыйнага марксызму. Яе ўзмацненьне асабліва выявілася пасьля адмены так званага „закону аб соцыялістых“. Утварыўшыяся пасьля гэтага політычныя абставіны піхалі ўсе варожыя соц.-дэм. групоўкі на барацьбу з ёю. Гэта барацьба мела характар крытыкі асноўных палажэньняў соцыял-дэмократыі. І гэта крытыка не магла ня дзеяць раскладаючым чынам на аддзельныя часткі с.-д. партыі.

Аддзельныя спробы рэвізыі марксызму мы можам заўважыць яшчэ ў 80 г. г. і пачатку 90 г. г. Яна асабліва захапляла і адказвала ўнутранай сутнасьці таго слою інтэлігэнцыі, якая працавала ў профсаюзах, у парляманцкіх фракцыях, розных літаратурных і іншых корпорацыях. 90 г. г. вядомы яшчэ тым, што ў шэрагах францускіх соцыялістых выявіўся першы ўжытак гэтага рэвізыонізму, з уступленьнем у рэакцыйную ўладу соцыялістага Мільерана. Такім чынам, гэтае цячэньне адчувала патрэбу толькі ў тэорытычным абаснаваньні. Гэту місію і стараўся споўніць„ галоўным чынам, Эдуард Бернштэйн. У шэрагах нямецкае с.-д. першымі на барацьбу з гэтым цячэньнем выступілі Роза Люксэмбург і Парвус, адным з першых сярод міжнародных соц.-дэм. выступіў Пляханаў, які накіраваў сваю ўвагу, галоўным чынам, на крытыку філёзофскага абаснаваньня рэвізыонізму. Першай яго стацьцёй, якая зьявілася ў ліпені 1898 г., была—„Бернштэйн і матэрыялізм“, другой, накірованай на крытыку экономічнага абаснаваньня рэвізыонізму і выяўленьню крыніц яго, зьявіўся адчынены ліст яго да К. Каутскага. Найбольш падрабязна асьвячаючай філёзофскія і экономічныя погляды рэвізыоністых зьяўляецца стацьця Пляханава „Кант супроць Канта“ альбо „духоўны тэстамант Бернштэйна“; а таксама цэлы шэраг іншых

стацей. Першапачаткова стацьці Бернштэйна былі накіраваны супроць тэорыі катастрофаў, але потым, у другой палове сваіх „Проблемаў соцыялізму“, а таксама ў „Гістарычным матэрыялізьме“ ён адчыняе паход па ўсёй лініі марксызму. Разгледзім у асноўных і кароткіх рысах, у чым выявілася гэта палеміка.

Бернштэйн у сваёй кнізе „Гістарычны матэрыялізм“ устае супроць самога паняцьця матэрыялістычнага разуменьня гісторыі, устанаўляючы, шляхам вынятак з працы Маркса „Да крытыкі політэкономіі“ і апошніх лістоў Ф. Энгельса ў 1890—95 г. г., паступовую эволюцыю гэтага паняцьця, г. зн. паступовае абмежаваньне азначаючых сілу вытворчых адносін. Пляханаў, прыводзячы аддзельныя палажэньні, выказаныя Марксам і Энгельсам у іх найбольш раньняй працы „Маніфэст Комуністычнай Партыі“, даказаў, што ўжо ў той час асновапаложнікі марксызму аддавалі належнае „політычным, праваым, філёзофскім, рэлігійным, літаратурным, мастацкім і інш.“ фактарам чалавечага агульнага жыцьця і што, значыць, ніякае эволюцыі ў іх поглядах устанавіць нельга. Але Пляханаў тут жа паказвае яму, што „гістарычны матэрыялізм зьяўляецца зусім не самым важным і асноўным элемэнтам марксызму, а ёсьць толькі частка агульнага сьветасузіраньня Маркса—Энгельса і што крытыка гістарычнае концэпцыі Маркса павінна папярэджваць крытыку мэтодаў яго дасьледваньня, г. зн. у даным выпадку яго дыялектыку“. Разгледзім-жа ў кароткіх рысах да чаго зыходзілі супярэчаньні Бернштэйна супроць гэтага асноўнага палажэньня марксызму, супроць яго „краеутнага каменя“, супроць дыялектычнага мэтоду дасьледваньня.

Разьдзяляючы разам з Ланге думку, што дыялектычны мэтод, паказаны Гегелем, зьяўляецца свайго роду антрополёгічнай вынаходкай, што яго ўжываньне ў гістарычных навуках мела гістарычныя вынікі ён разам з гэтым думае, што „як у жыцьці, так і ў гісторыі разьвіцьцё ідзе ня так лёгка, точна й радыкальна, як гэта прадстаўляецца ў спэкулятыўных пабудовах“. Ён падцьверджвае, што ўжываньне дыялектычнага мэтоду дасьледваньня ў Маркса ёсьць яго „самавольная“, „схэматычная“, альбо, як ён больш рэзка кажа, яго „спэкулятыўная пабудова“ з незважаньнем запраўднасьці эмпірычнай (дасьледчай) навукі. І ён прыводзіць некалькі прыкладаў, дзе Маркс дзякуючы свайму мэтоду упаў у аблуду, напрыклад: у „Маніфэсьце комуністычнай партыі“ Маркс і Энгельс падцьверджвалі, што ў Нямеччыне буржуазная рэволюцыя зьявіцца непасрэдным пролёгам пролетарскае рэволюцыі, між тым гэта, як вядома, у жыцьці не апраўдалася. І ён тлумачыць гэту пераацэнку Марксам і Энгельсам ходу гістарычных зьяваў выключна ўжываньнем мэтоду дыялектыкі, і дае гэтаму палажэньню такое тлумачаньне: „іх але—не і не—але, замест але—але, не—не; гэтыя ўзаемныя пераходы працівалегласьцяй і пераварочваньне колькасьці ў якасьць і іншыя дыялектычныя прыгожасьці заўсёды перашкаджалі яснаму прадстаўленьню аб значэньні прызнаных зьменаў“. Як мы бачым, асноўнае пярэчаньне яго зыходзіць да таго, што дыялектычны мэтод з яго формулаю „Але—не, не—але“ перашкаджае цьвярозым адносінам да сапраўднасьці, аддае нас ва ўладу „самаразьвіцьця паняцьцяў“. Пляханаў з бяссумненнаю пераканаўчасьцю даказаў усю бязгрунтоўнасьць і мэтафізычнасьць разважаньняў Бернштэйна але—але, не—не. Ён прыводзіць, як харошы прыклад, азначаньне пісьменьнікам Н. Г. Чарнышэўскім, адметны характар дыялектычнага мэтоду. Ён (Чарнышэўскі) азначае яго наступным чынам: „З пункту погляду дыялектыкі азначанае суджэньне можна казаць

толькі аб азначаным факце, разгледзеўшы ўсе варункі, ад якіх яно залежыць. Напрыклад: дабро ці зло дождж? Гэта пытаньне адцягнена, на яго азначана адказаць нельга; часам дождж прыносіць карысьць, часам, хаця радзей, прыносіць шкоду, трэба пытаць азначана: пасьля таго, як сяўба пашні скончана, у працягу пяці гадзін ішоў дождж—ці карысны ён быў для пашні? Тут толькі можна адказваць азначана: але, ён быў карысны". Зусім таксама,—кажа Чарнышэўскі,—падыходзіла філёзофія Гегеля да вывучэньня грамадзкіх пытаньняў. „Згубна ці пажытачна вайна?" пытае сябе Чарнышэўскі і адказвае: „Наогул нельга адказаць на гэта рашучым чынам, трэба ведаць аб якой вайне ідзе справа. Марафонская бойка была самай дабрадзейнай зьявай ў гісторыі чалавецтва". У гэтых разважаньнях Чарнышэўскага адно з зярнят нашага ўласнага сьветапагляду. Гэтае адцягненае філёзофскае разважаньне мы можам ужыць і да нядаўнага нашага прашоўшага. І сапраўды, успомнім усе тыя крыкі, нападкі на ўтварыўшуюся ў Расіі грамадзянскую вайну, успомнім усе іх довады і супярэчаньні, і мы прыведзенай выняткай з Чарнышэўскага знойдзем ключ да разуменьня і апраўданьня нашага нядаўнага прашоўшага (хаця цяпер яна такога апраўданьня і не патрабуе). А як думаюць мэтафізыкі? „Папытайце,—кажа Пляханаў,—графа Л. Талстога, ці правільна прыведзенае разважаньне Чарнышэўскага аб вайне? Ен адкажа, што яно зусім няправільна, бо вайна ёсьць зло, а зло ніколі ня можа быць добрым". Альбо „анархісты пытаюць марксыстых, ці прызнаяце вы свабоду асобы?"—„Прызнаём—кажуць марксыстыя,—але ўмоўна, бо, бязумоўна, свабода аднаго азначае бязумоўную нявольнасьць усіх яго абкружаючых, г. зн. пераварочвае свабоду ў яго ўласную процілегласьць". У даным выпадку разважаньні анархістых выходзяць як раз да формулы але—але, не—не (альбо свабода, альбо дэспотызм), між тым як марксыстыя глядзяць на пытаньне з навочнага пункту погляду. Няма ў клясавай грамадзе бязумоўнай свабоды, ёсьць свабода меншасьці над большасьцю альбо большасьці над меншасьцю (як у нас у СССР). „Няма адцягненай ісьціны, ісьціна заўсёды навочна". Даказаўшы такім чынам адну з істотных прымет дыялектычнага мэтоду—гэта ўсебаковае вывучэньне сапраўднасьці, выяўленьне прычын і ўмоваў, якія выклікаюць тую ці іншую зьяву, Пляханаў загэтым пераходзіць да наступнага асноўнага пярэчаньня рэвізыяністых, да тэорыі барацьбы клясаў.

Г. Бернштэйн лічыць нястанным у сучасных яму ўмовах вучэньне Маркса аб барацьбе клясаў. У сваім „Гістарычным матэрыялізьме" ён падцьверджвае, што барацьба пролетарыяту з буржуазіяй у сучасных умовах, г. зн. у пэрыод парлямантарызму, ня можа прывясьці да дыктатуры пролетарыяту, і што разгаворы аб ёй зьяўляюцца „пустым фразёрствам". „Дэмократыя,—прадоўжвае ён,—зьяўляецца ў прынцыпе зьнішчэньнем клясавага панаваньня, калі не фактычным зьнішчэньнем самых клясаў". Што дэмократыя,—адказвае яму на гэта Пляханаў,—зьнішчае клясавае панаваньне, гэта ёсьць ня больш, як выдумка Бернштэйна. Дэмократыя зьнішчае палітычныя перавагі вышэйшых клясаў (але й гэтыя перавагі захоўваюцца толькі да таго моманту, калі здарэньні пачынаюць пагражаць буржуазіі Е. Б.), але яна ня зьнішчае экономічнага панаваньня аднае клясы над другою,—буржуазіі над пролетарыятам, г. зн. кляса застаецца існаваць там, куды, уласна кажучы, датычыцца паняцьце аб клясе". І далей падцьверджваючы, што дэмократычная констытуцыя і парлямантарызм не забясьпечваюць ад абастрэньня клясавае барацьбы, Пляханаў прыводзіць некалькі характарных

прыкладаў: „Сучасная Францыя,—кажа ён,—дэмократычная рэспубліка і аднак гэта не мяшае нават „соцыялістычнаму“ міністру Мільерану забараняць растрэльваньне працоўных, якія не паслухмяны капітылістым“. Альбо другі прыклад: „Вызваленьне нэграў у П.А.З.Ш. магло быць куплена толькі цаною дамовае вайны і нельга,—кажа Пляханаў,—паручыцца за тое, што й амэрыканскаму пролетарыяту ня прыдзецца шляхам гвалту вызваляць сябе ад экономічнага панаваньня буржуазіі“.

Буржуазія асуджае імкненьне пролетарыяту да панаваньня, як неабычайнае і няправільнае. Бернштэйн таксама думае, што клясавая дыктатура належыць да больш нізкай культуры, зьяўляецца „крокам назад“, „політычным атавізмам“. „Дыктатура данае клясы,—адказвае яму на гэта Пляханаў,—ёсьць панаваньне гэтае клясы, якое дазваляе яму рабіць загады організаванай сіле грамады для заховы сваіх інтарэсаў і для зьнішчэньня ўсіх грамадзкіх рухаў, якія прама ці ўкосна пагражаюць гэтым інтарэсам. Ці можна-ж назваць політычным атавізмам імкненьне да гэткага панаваньня тае ці іншае клясы сучаснае грамады?“ „Не, нельга,—адказвае ён.—У гэтай грамадзе існуюць клясы. Там, дзе ёсьць клясавая барацьба, неабходна й натуральна імкненьне кожнае з змагаючыхся клясаў да поўнае пабеды над сваім супраціўнікам і да поўнага над ім панаваньня“. І буржуазія пачала асуджаць гэтае імкненьне пролетарыяту толькі з таго моманту, калі яна канчаткова ўмацавалася каля ўлады і лічыла гэта зусім умесным у часы яе барацьбы з арыстократыяй. Пляханаў параўнае таксама адносіны да дыктатуры з разуменьнем дзікага аб дабры і зле: „Дабро—гэта калі я ў каго-небудзь адбяру што-небудзь, а зло—гэта калі ў мяне што-небудзь адбяруць“. І як заключнае слова данага разгледжваемага пытаньня, мы чытаем у Пляханава наступнае: „Вялікае грамадзкае пытаньне нашага часу, пытаньне аб зьніштажэньні экономічнай эксплёатацыі чалавека чалавекам можа быць вырашана, як вырашаліся вялікія грамадзкія пытаньні ранейшых часоў—толькі сілай. Праўда, сіла яшчэ не азначае гвалту, гвалт ёсьць толькі адна з формаў выяўленьня сілы. Але выбар тэй формы, у якой пролетарыяту прыдзецца выяўляць сваю рэволюцыйную сілу залежыць не ад яго добрае волі, а ад варункаў. Тая форма лепшая, якая вярней і скарэй вядзе да пабеды над ворагам“.

Тут у гэтых словах выявіўся ўвесь той „вялікі“, па словам т. Троцкага, Пляханаў, які ў той час зьяўляўся сапраўдным рэволюцыянэрам, сапраўдным ідэолёгам працоўнае клясы.

Але ўва ўсіх гэтых і цэлым шэрагу іншых блытаных разважаньняў Бернштэйна маецца і свой лёгічны асяродак, наўкол якога яны й асяродкуюцца. Гэта—яго вучэньне „аб даходах“, і прогноз будучага экономічнага разьвіцьця капіталістычнае будовы. Сумняваючыся ў поглядах, выказаных Марксам і Энгельсам у Комуністычным Маніфэсьце, не знайшоўшых падцьверджваньня ў далейшым разьвіцьці соцыяльнага жыцьця, ён кажа наступнае: „абастрэньне грамадзкіх адносін зрабілася ня так, як гэта апісвае Маніфэст. Ня толькі бескарысна, але й надзвычайна нерассудна хаваць гэта ад сябе. Лік імушчых ня зьменшыўся, а павялічыўся. Вялізнае павялічэньне грамадзкага багацтва саправаджаецца ня хутка ўбываючым лікам магнатаў капіталу, а растучым лікам капіталістых усіх напрамкаў. Сярэднія слаі зьмяняюць свой характар, але яны ня зьнікаюць з лесак грамадзкіх градацый“. Падцьверджваючы далей, што ўсе надзеі с.-д. быццам будуюцца на тым, што „гаспадарчы крызіс вялізнай сілы і разьмеру шляхам народжваемага ім жабрацтва,

так распаліць сэрцы супроць капіталістычнай гаспадарчай сыстэмы, так неадбіўна пераканае народныя масы ў немагчымасьці далейшага разьвіцьця вытворчых сіл пры данай сыстэме народнае гаспадаркі, што яна павінна будзе прапасьці". Устанавіўшы такое разуменьне і надзеі марксыстых на крушэньне капіталістычнае будовы, Бернштэйн падцьверджвае, што цяпер асяродкаваньне ў некаторых галінах прамысловасьці ідзе вельмі павольна, што ўперад, пад уплывам усё разьвіваючыхся сучасных сродкаў зносін такія вострыя і ўсеагульныя крызісы сталі немагчымымі. Усе гэтыя пярэчаньні накіраваны, галоўным чынам, на так званую тэорыю катастрофаў, на адмаўленьне магчымасьці ў далейшым (так для яго непажаданых) рэволюцыйных узрываў. А адсюль прамы вывад: ня імкненьне да разбурэньня данае будовы, а паступовае яе рэформаваньне, латаньне датуль, пакуль уся грамадзкая тканіна ня стане зусім новай. І Пляханаў устанаўляе, што гэта асноўнае імкненьне цалком супадае з хаценьнем найбольш перадавых буржуазных вучоных, як Шульц-Гавэрніц, Ю. Вольф і інш., якія за некалькі гадоў да Бернштэйна выказвалі тыя самыя думкі. Такім чынам і ўсе яго крытычныя практыкаваньні тлумачацца выключна яго някрытычнай падлегласьцю вучэньню буржуазіі.

Гэтым, у асноўным, і вычэрпваецца тэорытычная барацьба Пляханава з рэвізыонізмам. Але Пляханаў у той час умеў злучыць у сабе рэволюцыйную тэорыю з рэволюцыйнай практыкай. Зьяўляючыся ўдзельнікам розных конфэрэнцый і конгрэсаў 2-га Інтэрнацыяналу, ён вёў там ня менш рашучую барацьбу з рознымі адменамі міжнароднага опортунізму. У маі 1899 г. на міжнароднай соцыялістычнай конфэрэнцыі ў Брусэлі Пляханаў настайваў на ўнясеньні на павестку дня пытаньня аб заваяваньні ўлады пролетарыятам. На Парыскім конгрэсе Пляханаў стараўся паправіць „каучукавую" рэзолюцыю Каутскага па старому пытаньню барацьбы радыкалаў з рэформістымі, па пытаньню аб удзеле соцыялістых у буржуазным міністэрстве. І калі Амстэрдамскі конгрэс асудзіў рэвізыоністых, Пляханаў разам з гэтым лічыць неабходным засьцерагчы міжнародную соцыял-дэмократыю ад лішняга оптымізму. „Наш вораг хаця і пабіты, але ня зьнішчаны". Так бязьлітасна змагаючыся са ўсімі адменамі опортунізму ў шэрагах міжнароднае с.-д., Пляханаў не падлічыў толькі аднаго варунку—што ён сам заразіцца опортуністычнай балячкай перад і ў часы заваяваньня ўлады расійскім пролетарыятам.

# ЛІТАРАТУРА.

М. Дубовік.

## Буду я Кастрычнік стара-жыць.

Праміне вясна майго жыцьця—
буду йці пад сьцягам волі я.

Паармейску—ў гэты бурны час—
карабіну ня зьніму з пляча.

Ў гэты час каханьня дзіўны хмель
не прасочыцца ў душу ка мне.

На палёх краінных і чужых
буду я кастрычнік старажыць.

І над гэтым клопатам штодзень
я узброю к шчасьцю лятуцень.

А гады—у вырай жураўлі—
паплывуць па сонечным гальлі.

І васеньні сьпелы звон калін
можа мне напомніць, што калісь

быў і я бадзёра маладым,
быў і я—ня толькі я адзін,

што каханьнем не п‘яніў душу
пад вясны хмялёва-крылы шум...

На палёх краінных і чужых
упарта я Кастрычнік старажыў.

Алесь Звонак.

## Ветры.

* * *

Вейцеся, песьні, вы сокалам,
Гордымі ўзмахамі слоў...
Ноч, ня шумі ты асокаю!..
Жудасным ўсплёскам балот.

Шэпцуць бярозы кудлатыя,
Сьцелецца сівы туман.
Шэпча над шэрымі хатамі
Стрэх саламяная цьма.

Трэплецца шумнымі гольлямі
Стройная здань тапалёў;
Сізым ўзьвіваецца голубам
Ноч па-над ціхім сялом.

Ой, ня шумеце дубровамі!..
Ой, ня шумеце ў палёх!..
Ночкі мае чорнабровыя,
З шэптам бярозавых слоў.

* * *

Травы, вы, травы зялёныя,
Вамі я сэрца ўпаіў!..
Ветры, вы, ветры залётныя,
Скуль вы?.. З якіх вы краін?..

Ветры гамоняць у зараслях,
Ветры пяюць сярод лоз...
Эх, абніму, ветры, зараз вас
Песьняй—ахапкаю слоў.

Чую у песьнях алешнікаў
Гоман, раскацісты сьмех,
Буйныя песьні начлежнікаў,
Коняй ірзаньне у цьме...

Я. Туміловіч.

## Ліпнёвае.

Ў цемнату акунуўся вечар,
Ноч вясёлую зорамі ўкрыў;
А на вёсцы—хвалюецца веча
Толькі чуеш у клюбе скрып.

Ноч вясёлую зоры укрылі,
Нешта шэпчуць між сабой;
І праменьні—агнёвыя грывы
Засыпаюць зямлю сяўбой.

Зоры шэпчуць між сабою,
Іх глытае далёкая сінь;
А ў клюбе хлапцы сяўбою
Рассыпаюць сьпевы машын.

Ім тут весела, весела сёньня,
Сёньня Ліпень—Вялікі парад:
Успамінаюць, як ў дымнай ёўні
Беларусь катаваў—пан-гад.

Як палалі сялянскія стрэхі
І туляўся ў лясох карабін,
Белапанскі салдат з пацехай
Абсыпаў мужыка гарой кпін.

Але што-ж?! Цяпер хлопцам весела,
Цяпер думкі—высейваюць марш;
Апантаных паноў мы завесілі
І сьмялей можна ўзяцца за „Маркса“.

І сьмялей—аўладаць вучобай,
Скарыстаць прыроды дары;
Без карысьці ня траціць нічога
Абы змыць разрухі нарыў.

Ч. Свінборы.

## Песьня ў час парадку.

*(З ангельскай поэзіі 1852 г. Пераклаў М. Дуброўскі).*

Пхні напярод праз пяскі:
Вецер гукае прастор;
Косьці і жылы рукі
Гнеўна, як сьмерці напор!

Вецер жалезам зьвініць,
Посканьнем пена паўзе,
Мора панура бубніць,
Пухне і скалы грызе.

І на жоўтай жарсьцьвянай скале
Доўгае збожжа дрыжыць;
Вецер сухі асьмялеў,
Човен на кілю ляжыць.

Слухай бязмежную казку
Мора: біцьцё і уздох!
Калі тры чалавекі ў зьвязку,—
У панствах нямашака трох.

З чоўнам сумесна у мора,
З ім напярод праз пяскі,
Хай каралеўская свора
Рэжа зямлю на кускі,

Згода ў кайданавых красках,
З панам падкуплены бог!
Калі тры чалавекі ў зьвязку,—
У панствах нямашака трох.

Хай ашуканцам зямля,
Пышнасьць гнілых гарадоў,
Кроў на руках караля,
Брэх на губах у папоў.

Вецер ня звабіш падмазкай,
Мору ня спутаеш ног;
Калі тры чалавекі ў зьвязку,—
У панствах нямашака трох.

Урэжацца куляю ў месяц
Стары змаганьня вянок,
Як аслабее наш крок,
Як з дваццаці стане дзесяць.

Калі труціць авечак пастух,
Вяжуць кароў каралі,
Сорам ад лежні апух,
Вера—атрута зямлі,

Бісяў ў салонную траску
Пенай заклічны наш рог!
Калі тры чалавекі ў зьвязку,—
У панствах нямашака трох.

Цяжка, ой цяжка народ
Гвалта нясе ланцугі;
Пхні пад дажджом упярод,
Ў вецер як бубен тугі,

Мору ў зубатую пастку
Сіваму мору, як мох.—
Калі тры чалавекі ў зьвязку,—
У панствах нямашака трох.

Р. Папараць.

## Краіне, дзе гінуць сыны.

Аб чым так галосна сьпяваеш,
Стагодні хвайняк, у бары?
Мо' песьню пакуты складаеш?
Мо' гімны заснуўшым ў зямлі?

Чаму-ж ты такі неспакойны:
То сьвішчаш, то плачаш бяз слёз?
Калі-ж астанешся здавольны?
Чаму-ж так пакутны твой лёс?

Пакінь-жа ты нудныя сьпевы!
Твой сум мне ў сэрца залёг...
Вясёлыя спевы! Эй, дзе-ж вы?
Помсты ўжо час недалёк.

Віхуру ўздымі ты сусьветную,
Гані ад балота туман;
Зацiхне хай сьпеў твой адвечны—
Кастрычнік ідзе Вялікан!

Я. Туміловіч.

## Пастух.

Расхіліла кудры раніца,
Дыміць параю зямелька,
Мурава сьлязіцца п'яніцай,
Грае ў полі дзесь жалейка.

Зык разносіцца лагчынаю,
Увасланай коўдрай зелені.
Няма часу, хоча легчы ён
На мурожнае пасьцелі;

Няма часу прытуліцца...
Строчыць крокамі за быдлам,
Весялей, жалейка, льліся
Пастухом быць не абрыдла.

На грудзёх упіўся ў шэрую
Малады юнацкі „Кім“.
Ці-ж яму пастух ня верыць?
Або ён яго ня сын?

Ня сумуе—яму весела,
Думак рой—арліны лёт.
Гляне вечар—торбу зьвесіў
І пільней у карагод.

Расхіліла кудлы раніца,
Промень асьвяціў зямельку;
Раць бунтарская—буяніцца,
Грае новы лад жалейка.

Валеры Маракоў.

* * *

Толькі раніцай сонца як гляне,
І расою заплача трава—
Устае ў русакудрым тумане
Залацістых нябёс сінява.

Поўны радасьці сінія далі
Каласістых, курчавых палёў...
Эх, за ўзгоркам узьвіранай хваляй
Славіць рэчка свой радасны лёс!

Выйду я і пайду за узгорак,
Пакланюся зялёнай вярбе...
Колькі сілы, узмаху й прастору!
Сэрца ў грудзі мяцежнае б'е.

Сэрца звоніць у песьні, у марах,
Аб прыгожасьці родных сяліб.
Вецер лісьця ўсьмехамі шпарыць,
Абнімаючы грудзі зямлі.

Нешта шэпча рабіна над рэчкай
Залатымі узмахамі слоў...
А з-за лесу кудлатая грэчка
Прывітаньне паслала ў сяло.

Толькі раніцай сонце як гляне,
І расою заплача трава—
Устае ў русакудрым тумане
Залацістых нябёс сінява.

А. Руднянскі.

## Першы вырай.

*(Першаму выпуску пэдфаку).*

Песьня,
Радасьць мая
І сумота мая,
Льлю з грудзей я
І пяю цябе
Штодзень!

Але сёньняшні раз,
Калі прыдзеш,
Той час,
Так чакаў,
Так чакаў,
Як ніводзін...

Бо сягоньня
З табой
Не, ня дудкай прастой,
—Разьліваццa мы
Музыкай мусім:
Як заводаў гудок
Праз той радыё ток,
Каб чутно было
Ўсёй Беларусі!
Мо' і горка каму,
І маркотна яму,
Злосьць бясьсільная
Твар пераморшчыць,
—А працоўным усім,
Дык салодка зусім,
Сьветлай радасьці
Поўны прыгоршчы:
Вылятае з вульля
На жыцьцёвы іх шлях
Кавачоў долі новае
Вырай.
Стане ў цёмным сьвятло,
У халодным—цяпло,
І вясковая вуліца
Шырай,
Як на роднай руні
Ды асьветы агні
Кавачы разадзьмуць
І запаляць;
На будоўлі другіх,
Новых дзён маладых
Забіваць распачнуць яны
Палі.
Ну-ж ты,
Радасьць мая,
І сумота мая,
Льліся, песьня,
Ракою шырокай!
Сэрца струнаў ігру
Ты на ўсю Беларусь
Разьнясі,
Вецер буйны,
Навокал!
І яшчэ папрашу:
—Занясі за мяжу,
Дзе скаваны пакуль кайданамі
Стогне бедны наш брат
—Будзе вестцы ён рад;
Ну, а пан
—Хай скрыгоча зубамі!

**Я. Туміловіч.**

* * *

Захістаўся зялёны хвойнік
Верхавінамі цешыць неба,
Не пайду я сягоньня, ой, не
Хоць і сэрца сумам гнэнбіць.

Не пайду я—у бор смалены,
Дзе палошча вецер хвойкі,
Мяне горад дымны маніць
У свой мур высока-стромкі.

Ў маім сэрцы—кіпіць юнацтва
На вучобу сьпяшу—ў атаку,
Спавіла мае думкі Наста,
Акрыліла арлiным махам.

На вучобе... пад пахай „Ленін".
Я сустрэў яе, сінявокую,
Комсамольскую песьню пеніў,
Быццам вецер у полі з асокаю.

**Залётны Максім.**

# На родных палёх.

Вось яны! Палі! Тыя самыя, родныя, аб якіх поэты Беларускай старонкі шмат песьняў чароўных злажылі. Палі жывыя! Упуталіся ў аксаміты ячмянёў зялёных, аўсоў і жыта, што сьпець пачынала. Плямамі зелені між чорных радоў песьціць вока аратая бульба цьвітучая. Вецер, як малец-галамоўза, чэша каласочкі віхрастыя, хвалямі золата поўнымі жыта ўздымае, казку палёў родных у бульбе зашэпча й к васільку блакітнаму страмглаў кінецца, пацалуе яго кволым пацалункам і далей папрэцца... к небасхілу, заваленаму грамадамі белай ваты—

хмарак прыгожых з краямі, абшытымі золатам. Родныя малюнкі! Усё роднае! і дарожка гэта—родная, па якой хлапец вясковы едзе з начлегу. Спаць дужа ён хоча. Усю ноч скакаў, як шалёны, ля вогнішча, курыў табак, лічыў зоры, ганяўся з сабакаю ў цемрачы ночы, галасіў там недзе, ля лесу й рэхам цікавіўся. Юнацкае шаленьне, поўнае сілы, пачуцьця бадзёрага! Галава штомінутна клоніцца к долу, таўканецца, напружацца жылы ў шыі й хлапца разбудзяць. Гляне вачыма, сну поўнымі, на абшары палёў, гукне на кабылку сівую й зноў пачне кланяцца.

* * *

Сёньня нядзеля. Званы звоняць: у цэркаў завуць. Карагодам хустак белых, сініх, зялёных сунуцца бабы й дзяды ў кажухох на малітву. Поп розум дурманіць, спявае дымам фіміаму пахучага. Грышка-начлежнік сьпіць, як забіты ў паветцы. Ня чуе званоў, ня чуе дурману. Сонца крокам сьвяціла нябеснага спаўзло з вышыні неба блакітнага: пахіліла на вечар. Грышку гукі моцныя, плачу—болі поўныя, разбудзілі ў паветцы. Устаў і пашоў. Білі, як казалі, палякі шпіёна чырвонага і прышоў ён адтуль, з усходу бурлівага, чмуціць народ за комунізм. Павялі на расстрэл. Задумёны пачаў хадзіць Грышка. Нічога не вяселіць. Цягне яго к абшарам, дзе лес разаслаўся абрусам зялёным, сплёўся сеткаю галін і гадуе партызанскія песьні, грозіць пану за зьдзекі й гвалты. К Зосі пакінуў хадзіць.

Зося занудзілася:

— Каханы ня ходзіць. Ня любіць, мусіць, ужо.

Цераз тры дні зьнікнуў Грышка.

Шукалі ўсюды бацькі, не знайшлі.

* * *

Арламі сталёвымі на палякаў кідаліся, палілі маёнткі, білі паноў і князёў і жаўнэраў. Пяялі песьню чырвоную:

—Пойдзем сьмела ў бой
За ўладу саветаў...

З імі і Грышка. Заўсёды наперадзе. Заўсёды поўны адвагі, сталёвай волі, жаданьняў неахопных, імкненьняў. У лесе за імі час нейкі гонка пачалася. Перапалка... Пуля шалёная не пашкадавала сэрца маладога, не пашкадавала сілы юнацкай, навылет прайшла й прабіла грудзі хлапца вясковага—Грышкі.

* * *

Зося кароў пасьціла. Пайшла нешта раз у лес каровы шукаць і на палянцы аксамітнай... на грудзі кінулася забітага Грышкі, твар мёртвы пацалункамі абсыпала, мачыла сьлязамі. Сонца гуляла ў сьлёзах золатам бісеру, аб шчасьці казалі людзком праменьні яго залатыя. Але шчасьця Зося ня ўгледзела. Стаяў навокал спавіты думкай лес і думаў—дзе ж шчасьце? Дзе яно? і чаго плача гэта дзяўчына прыгожая?

---

# ПЫТАНЬНІ ВЫШЭЙШАЕ ШКОЛЫ.

Скардзіс і Баркоўскі.

## Аб увязцы грамадзкай і акадэмічнай працы студэнтаў пэдфаку БДУ[1].

Тры з лішнім гады жыцьця пэдфаку безадкладна высоўваюць проблему аб неабходнасьці ўвязкі між грамадзкай і акадэмічнай працай студэнта. Ужо час імкнуцца да таго, каб тэрміны: „грамадзкая праца“ і „акадэмічная праца“ выжыць. Нам трэба казаць толькі аб працы студэнтаў ВНУ, як аб адзіным цэлым мэтазгодным дзеяньні, вынікам якога было-б поўнае, усебаковае разьвіцьцё асобы вывучаючагася. Грамадзкую працу студэнта ў даным выпадку мы мысьлім ня йначай, як частку ўсёй працы яго ў ВНУ, а іменна: той род яго дзейнасьці, калі студэнт ужывае свае тэорытычныя веды (акадэмічныя) на практыцы, прычым гэта практыка, зьяўляючыся пераварочваньнем тэорыі ў дзеяньне, мае, кажучы экономічнаю моваю, грамадзка-карысную страту працы. Гэта праца, як частка акадэмічных заняткаў, павінна ўваходзіць у плян працы ўсіх студэнцкіх організацый. Такім чынам, студэнт яшчэ на скамейцы ў ВНУ сваю дзейнасьць зьвяжа непасрэдна з дзейнасьцю практычнаю, якая выцякае з умоў працы студорганізацый. Толькі такім шляхам можна зьбегнуць небясьпечнага і шкоднага адрыву студэнта ад грамадзкага жыцьця, у той самы час зьдзяйсьняючы ўвязку вучобы з грамадзкай працай. Тады, значыць, мы зможам пакінуць ужываць тэрміны: „акадэмізм“ і „грамадзкасьць“.

Мы трэбавалі ад ВНУ такіх умоў, якія далі-б магчымасьць гэта правесьці ў жыцьцё. Новыя навуковыя пляны пэдфаку гэту магчымасьць нам прадастаўляюць. Згодна гэтым плянам праца студэнта ў ВНУ павінна ўлажыцца ў 36 гадзін у нядзелю, прычым 6 нядзельных гадзін адводзіцца дзеля грамадзкай працы. Больш ад яго вымагаць нельга. Зусім напрасна трывога тых таварышоў, якія баяцца, што студэнт, які яшчэ ня прывык рацыянальна траціць свой час, астатнія восемнаццаць часоў у суткі (выключаючы, зразумела, сон) страціць бескарысна і бязмозгла. Адсюль зноў можа зьявіцца імкненьне апекі над студэнтам, імкненьне як небудзь і чым небудзь, але толькі-б заняць яго час. Мы, вядома, і ня думаем адмаўляць неабходнасьці вучыць студэнта, асабліва маладога студэнта-навічка, правільна скарыстоўваць свой час. Выхаваўчая праца ў гэтым напрамку, бязумоўна, павінна вясьціся. Але мы з свайго боку нахільны падцьверджваць, што пастаянная апека з чыйго-б то ня было боку над часам студэнта можа даць зусім процілежныя вынікі: студэнт прывыкае да гэтае апекі, яго страта часу мэханізуецца, у яго зьяўляецца формальны зварот да справы.

[1]) У парадку абгаворваньня.

Але вернемся назад.

Вучоба, значыць, будзе праглынаць у студэнта 30 гадзін у нядзелю (пры лябораторных занятках сюды ўваходзіць і падрыхтоўка). Гэтага вымагае „акадэмізм“. Астатнія шэсьць гадзін студэнт будзе ўжываць на працу грамадзкага характару. А як усякага роду грамадзкія функцыі патрабуюць вядомае падрыхтоўкі, то час, патрачаны на гэту падрыхтоўку, павінен, бязумоўна, уваходзіць у гэтыя 6 гадзін.

Адсюль зразумела, як многа трэба студорганізацыям, накіроўваючым дзейнасьць студэнцкіх мас, папрацаваць у тым напрамку, каб не перагружаць студэнта грамадзкімі абвязкамі і ў той-жа самі час, каб гэтыя абвязкі насілі запраўдны сэнс грамадзкай працы. Няхай нават студэнт будзе працаваць ня поўныя шэсьць гадзін (частковыя ўхілы ў бок павялічэньня й зьмяншэньня могуць быць—іх зьбегнуць цяжка), але няхай гэта праца будзе зьяўляцца ў яго сузнаньні як грамадзкі-карысная страта часу, няхай яна зьяўляецца ў той-жа самы час і праверкаю на практыцы яго моцы і здольнасьці. Не сакрэт, што бывалі выпадкі, калі студэнта накіроўвалі на працу з мэтаю, каб толькі была нагрузка, а аб тым, што ён там рабіў, ніхто потым ня цікавіўся. Формалізм гэты неабходна выжыць. Раней усяго трэба адмовіцца ад узлажэньня грамадзкае працы на студэнта служачага па той простай прычыне, што ён, зьяўляючыся зьвязаным са службаю, зьяўляючыся сябрам профсаюзу, бязумоўна будзе скарыстаным мясцкомам на тэй, ці іншай працы. Мы ня кажам, што студэнт-служачы (навуковая праца са службаю наогул ня ўвязваецца) ня можа, альбо не павінен прымаць ніякага ўдзелу ў працы тых ці іншых студэнцкіх організацый, але нам-бы толькі хацелася, каб на гэта не глядзелі, як на абавязак. Таксама трэба згодзіцца, што праца ў гуртках акадэмічнага і політасьветнага характару не павінна разглядацца, як грамадзкая нагрузка.

З новага навуковага году, калі будуць уведзены ў дзеяньне нанава прапрацованыя навуковыя пляны пэдфаку, пытаньне аб студэнцкай грамадзкай працы зноў будзе пастаўлена ў парадак абгаворваньня кіруючых студэнцкіх організацый факультэту, разам з дэканатам. І ад таго, як гэта пытаньне будзе вырашана, залежыць нормальнае навуковае жыцьцё студэнта. Ужо з таго, што профкомам вясною гэтага году праведзена анкета аб грамадзкай працы студэнта, можна спадзявацца, што ў мэтах нопізацыі студэнцкае працы і часу профкомам будуць прыняты адпаведныя меры. На зусім правільны пункт погляду стаў профком, праводзячы гэты падлік. Тыя статыстычныя матар'ялы, з якімі нам удалося азнаёміцца (шкада, што ня з усімі) могуць аб чым небудзь сказаць.

Яны красамоўна сьведчаць, што студэнтамі ўжо знойдзена даволі шырокае поле ўжываньня сваіх культурных сіл. Усяго прымала ўдзел у грамадзкай працы студэнтаў пэдфаку 788 асоб і гэта складае да 70 проц. агульнага ліку студэнтаў. У гэтым годзе мы бачым значнае павышэньне проценту ў параўнаньні з мінулым 1923-24 акадэмгодам. Студэнцтва ўсё больш уцягваецца ў грамадзкасьць. Розных відаў працы праводзілася 909. Значыць, 121 від працы сумяшчалася.

Наступныя лічбы паказваюць, якія віды працы выконваліся:

| | |
|---|---|
| у студорганізацыях прымала ўдзел . . | 107 асоб |
| на політпрасьвет працы . . . . . | 475 „ |
| ліквідавала політ. і агульную няпісьменнасьць . | 289 „ |
| у бюро розных організацый . . . . | 68 „ |
| на рознай працы было . . . . . | 260 „ |

Калі гэту працу перавесьці ў гадзіны згодна паказаным у анкетах лічбам (некалькі абагуленымі падлічваючымі), то атрымаем наступны малюнак:

| Курсы | Агульная колькасьць гадзін працы ў нядзелю | Сярэдняя колькасьць гадзін працы ў нядзелю на кожнага студэнта |
|---|---|---|
| I | 1901 | 7,5 |
| II | 1959 | 6,3 |
| III | 1362 | 7 |
| IV | 414 | 6,7 |

Значыць, у сярэднім студэнт пэдфаку траціць на грамадзкую працу амаль-што 7 гадзін у нядзелю. Але-ж гэта толькі сярэдняя лічба. На гэту лічбу нельга арыентавацца і паказваць, што ў нас з грамадзкай працай усё ідзе як лепш ня трэба: шасьцёхгадзінная норма толькі крыху пяройдзена. Ніжэйпаданыя прыклады, узятыя з паасобных анкет, разьбіваюць гэты зданьнёвы дабрабыт:

а) паказана, што студэнт II курсу, стыпэндыят, сябар ячэйкі „ДН“, працаваў на лікпункце 6 гадзін у нядзелю;

б) студэнт таго-ж курсу, служачы—працуе ў вячэрняй школе,—да 30 гадзін у нядзелю заняты ў профсаюзнай працы (каса ўзаемадапамогі пры Цэнтр. Праўленьні Саюзу Працасьветы) і, апрача таго, састаіць у ячэйцы „ДН“;

в) студэнт таксама II курсу зьяўляецца сябрам прадметнай камісіі, на пасяджэньні камісіі ідзе 2 гадзіны ў нядзелю.

У першых двух прыкладах нельга ня ўгледзець ухілу ў бок перавышэньня нормы. Ня прыходзіцца сумнявацца, што праца на лікпункце аднімае ў студэнта значна больш шасьці гадзін, калі прыняць пад увагу падрыхтоўку, хадзьбу, даведваньне агульных сходаў ячэйкі „ДН“, даведваньне пасяджэньняў розных камісій і г. д.

Аб другім выпадку спрэчак быць ня можа; тут проста становішча рэчаў ненормальнае. Лічыцца актывістым і ня мець магчымасьці вучыцца—наўрад, ці можа быць ідэальным прыкладам для студэнта. Калі перабраць уважна ўсе анкеты, то гэтакіх ухілаў можна адшукаць шмат. Ёсьць таварышы, якія нагружаны трымя і нават чатырмя відамі працы.

З пачаткам акадэмічнага году профкому ўсё гэта трэба падлічыць, зрабіўшы з тых статыстычных матар'ялаў, якія маюцца ў яго, адпаведныя вывады.

Цалкам зразумела, што павінен быць узяты напрамак на разгрузку студэнтаў ад лішніх грамадзкіх абавязкаў і ў той жа час старацца ўскладаць на студэнта ня больш аднаго віду працы. У аднолькавай меры зьяўляецца каштоўным і неабходным зварачэньне ўвагі на якасны бок працы, а дзеля гэтага, у сваю чаргу, трэба захоўваць хоць самыя элемэнтарныя правілы НОП і псыхотэхнікі. Ужываемыя профкомам асабовыя справаздачы на пашыраных пасяджэньнях зьяўляюцца вельмі практычнымі й рацыянальнымі, бо на іх вучацца вельмі многія прысутныя на пасяджэньнях таварышы.

Трэба імкнуцца, каб грамадзкую працу студэнцтва магло зьмясьціць у адзін, альбо ў два дні ў тыдні; вельмі пажадана было-б, каб уся праца адбывалася ў адзін дзень. І наогул мы лічым неабходным падкрэсьліць, што пытаньне адносна лепшай увязкі акадэмізму студэнцтва з грамадзкай працай яго ў мэтах, зачэпленых намі вышэй, патрэбна было-б вырашыць ня толькі ў тых ці іншых студорганізацыях. Апошнія маглі-б карыстацца каштоўным сырым матар'ялам, які атрымаўся-б як вынік пасьля абгаворваньня гэтага пытаньня на шырокіх студэнцкіх сходах.

У студэнцкім друку пытаньне аб неабходнасьці некаторай НОП-ізацыі студэцкага жыцьця і працы часткова ўжо зачэплена. Зьм. Белы ў сваім артыкуле „аб організацыі жыцьця студэнта" („Чырвоны Сьцяг" № 3-4) прыводзіць вельмі каштоўныя лічбовыя даныя аб разьмеркаваньні часу студэнта. З аўторам памянёнага артыкулу нельга не згадзіцца, калі ён, разгледжваючы каштоўнасьць студэнцкае працы, кажа, што „сама праца ня мае хвілін адпачынку, праходзіць самым бязглузным чынам. Лепшыя часы дзеля працы праходзяць непродукцыйна" і затым дадае „трэба зьвярнуць увагу ўжо цяпер".

Так, задумацца над гэтым пытаньнем цатрэбна.

Мы спадзяемся, што студэнцкія організацыя, маючыя сабраныя лічбовыя матар'ялы, зробяць адпаведныя вывады. Яны знойдуць правільны шлях да ўвязкі акадэмізму з грамадзкасьцю.

Праца гэта вялізарная і, можа быць, больш сур'ёзная, чым здаецца на першы погляд; аднак з пачатку новага акадэмічнага году і ў гэтым напрамку патрэбны новыя крокі.

С. Кожаны.

## Аб мэтодах выкладаньня на Пэдфаку БДУ[1]).

Вядзеньне заняткаў лекцыйным спосабам зусім не здавальняе запытаньняў студэнцтва і патрабуе іх перайначваньня. Цяперашні рэволюцыйны чалавек ня можа быць губкай, якая мэханічна ўспрыймае мудрасьць профэсара, ён хоча працаваць сам.

Утвораная на Пэдфаку камісія павінна разгледзець пытаньне аб поўнай замене для першага курсу лекцыйнага мэтоду іншымі мэтодамі, якія далі-б магчымасьць мала падрыхтаваным студэнтам першага курсу з найбольшай карыснасьцю прапрацаваць у працягу ўсяго году выкладаемы матар'ял і падрыхтавацца да працы на другім курсе.

У аснову зьмены навуковых плянаў на старэйшых курсах камісіяй паложаны прынцыпы навукова-дасьледчага мэтоду і частковы перавод некаторых прадметаў на мэтод лябораторны.

Праца камісіі па рэформе выкладаньня на факультэце была накіравана ў бок удасканаленьня навуковых плянаў шляхам скарачэньня шматпрадметнасьці і палепшаньня мэтодаў выкладаньня.

---

[1]) У парадку абгаворваньня.

Камісія ў сваёй працы выходзіла з меркаваньня, што лябораторна-групавыя заняткі памяншаюцца колькасна ў напрамку да старэйшых курсаў, а лекцыйныя і сэмінарска-дасьледчыя ў тым-жа напрамку колькасна павялічваюцца.

Поруч з пытаньнем аб навуковых плянах чарговым стала пытаньне аб мэтодах выкладаньня. Аб ім у нас даўно вяліся гутаркі. Побач з лекцыйнымі і сэмінарскімі заняткамі на кожным аддзяленьні ўводзяцца лябораторна-групавыя.

Лябораторна-групавыя заняткі ў тых умовах, у якіх працуе Пэдфак, будуць будавацца наступным чынам: студэнты, слухаючыя курс, які падлягае лябораторна-групавой прапрацоўцы, дзеляцца на групы па 20—25 асоб у кожнай. Профэсар, альбо выкладчык, дзеліць свой курс на аддзелы, адпавядаючыя сэмэстрам (на пэдфаку іх два), кожны сэмэстр у сваю чаргу дзеліцца на тыднёвыя альбо двухтыднёвыя заданьні, якія і прапануецца студэнтам прапрацаваць па паказаным крыніцам і падручнікам.

Нядзеля кожнага месяца адводзіцца для лекцый пры вывучэньні данага аддзелу, курсу; а як кожнай групе адводзіцца дзьве тыднёвых гадзіны, а выкладчык для трох груп мае шэсьць тыднёвых гадзін, то пры агульным чытаньні ўсім тром групам у нядзелю можа быць прачытана ня дзьве, а чатыры і нават шэсьць уступных да данага аддзелу курсу лекцый. Гэта можа патрабавацца для асьвятленьня данага аддзелу, для мэтодолёгічных і бібліографічных да яго справак, неабходных студэнтам пры выкананьні адпаведных заданьняў.

У астатнія тыдні месяца кіраўнік (профэсар, альбо выкладчык) прапрацоўвае са студэнтамі паасобныя заданьні шляхам гутарак і пытаньняў па зараней дадзеным падтэмам, адпавядаючым вывучаемаму аддзелу. У канцы кожнага паўгода (калі патрабуецца—у канцы месяца) магчымы зноў лекцыі па групам, альбо агульныя, якія даюць заключнае падагуленьне вывучанай частцы курсу і высьвятляюць тое, што засталося мала ясным і прысвоеным. Залікі, якія рабіліся ў залікавыя сэсіі, для прадметаў, пераведзеных на лябораторна-групавыя заняткі, адпадаюць.

Гэтакі прасьцейшы і менш удасканалены від лябораторна-групавых заняткаў: ён патрабуе падзелу на групы, павялічэньня часу дзеля выкладаньня данага прадмету і падбору неабходных падручнікаў, якія забясьпечаць пасьпяховасьць заняткаў.

Падводзячы вынікі меркаваньням на карысьць лябораторна-групавых заняткаў, неабходна паказаць: 1) што досьлед з лябораторным плянам сваю праверку атрымае на практыцы; 2) што сэмінарскія заняткі могуць пры гэтым атрымаць больш сур'ёзны навукова-дасьледчы характар, бо лябораторныя заняткі дадуць свайго роду „прасэмінарскую“ падрыхтоўку; 3) нагрузка студэнтаў застанецца нормальнай, бо заняткі ня выходзяць з нормы 30 тыднёвых гадзін; 4) лік звычайных залікаў паменшае на лік прадметаў, пераведзеных на лябораторны плян, і падлік іх будзе рабіцца поруч з прапрацоўкай курсу; 5) лябораторна-групавыя заняткі дадуць магчымасьць хутчэй перайці на Дальтон-плян.

Зразумела, зьдзяйсьненьне лябораторнага пляну прадстаўляе і вядомыя цяжкасьці, але іх трэба будзе перамагчы.

М. Кіеня.

# Да скарыстаньня маладых спэцыялістых[1]).

Да рэволюцыі дыплёмныя тэмы больш браліся, як кажуць парасійску, „с потолка". Старая школа мала цікавілася сувязьзю з вытворчасьцю і тым болей з раёнам будучай працы студэнта. Дзякуючы такому становішчу ў нас спэцы выходзілі „схолястыкамі", якія павінны былі шляхам страт самой гаспадаркі набываць практычныя веды.

Цяпер, калі мы імкнемся даць нашаму Саюзу болей падрыхтаваных працаўнікоў, чым давала старая школа, само паўстала пытаньне і аб сувязі студэнцтва з вытворчасьцю. Гэта сувязь магла пайсьці, і так прыблізна і пачынае ісьці, па двум напрамкам: а) пасылка студэнтаў на практыку на летні пэрыод і b) дыплёмныя тэмы павінны абавязкова брацца з рэальнага жыцьця, у якой-бы галіне той ці іншы таварыш не спэцыялізаваўся.

Што датычыцца першага, то яно менш-больш праводзіцца, хаця трэба сказаць, што ў іншых ВНУ для практыкі адводзіцца ня ўвесь летні пэрыод, а толькі адзін—два месяцы. Такое прыблізна становішча ў нашых Беларускіх ВНУ. Гэта вялізарны недахоп, гэта значны прабел у працы ВНУ, які ня танна абойдзецца нашай гаспадарцы пры выхадзе спэцаў на працу.

Адносна дыплёмных тэм справа зусім дрэнная. Аб гэтай частцы працы толькі цяпер пачынаюць гаварыць, тым ня меней рэяльнасьць проэкту мае вялізарнае значэньне як з акадэмічнага боку, так і з чыста практычнага. Маючы рэяльнае заданьне, студэнт павінен перш за ўсё пачаць яго экономічнае абсталяваньне. Гэта альфа, ад якое і трэба пачынаць разбор тэмы, ад якое залежыць той ці іншы напрамак усёй далейшае працы. А то вельмі часта здараецца, што ніякае абстрактнасьці, ніякае крытыкі, ніякага больш-менш шырокага погляду пры апрацоўцы тэмы няма. А ці ж тэхніка не павінны цікавіць такія пытаньні, як скарыстаньне яго будовы, як падвядзеньне экономічнага базісу?

Вядома, павінны; гэта яго абавязак. У жыцьці ён, бязумоўна, сустрэнецца з імі, зблытаецца, пачне капацца ў матар'ялах і вырашыць тую ці іншую задачу з вялікімі тэхнічнымі, а адсюль і экономічнымі абмылкамі.

Пры рэяльнасьці дыплёмнай працы гэтага ня было-б, а калі і было-б, то ня зусім, бо яшчэ ў ВНУ, пад кіраўніцтвам профэсара, можна лепш навучыцца, як падыходзіць да практычных пытаньняў, і ў жыцьці менш было-б абмылак.

Я зачапіў тэхнікаў, але ўсё вышэй паданае датычыцца ў аднолькавай меры ўсіх спэцыялістых.

Вышэйпаданае адносіцца больш усяго да сувязі з вытворчасьцю, але ж ня менш важна і сувязь з мясцовасьцю, у якой прыдзецца працаваць. Выконваючы дыплём, трэба будзе, бязумоўна, аддаць шмат увагі вывучэньню мясцовасьці. Тут дыплёмант значна лепей азнаёміцца з краінаю, з экономікай, чым у нашых усялякіх гурткох. Пасьля выка-

1) У парадку абгаворваньня.

наньня падобнага дыплёму таварыш з большай ахвотай застанецца працаваць там, адкуль выходзіць сама тэма дыплёмнай працы. Ён лепш прыстасуе свае веды да мясцовых умоў.

На гэту вельмі патрэбную частку нашай працы трэба зьвярнуць як мага больш увагі. Нашаму друку трэба шырока паставіць растлумачаньне гэтай ідэі сярод моладзі ВНУ.

**Я. Аленін.**

# Аб беларусізацыі.

Два моманты прымушаюць як найхутчэй баларусізаваць нашы ВНУ наогул, і ўсялякія студэнцкія організацыі ў прыватнасьці.

Першае—гэта тое, што з кожным годам нашы ВНУ папаўняюцца ў большасьці беларускай моладзьдзю, асабліва з вёскі. Гэтая моладзь амаль-што ўся добра знаёма з беларускай мовай, як вышаўшая з нашых сямёхгодак, рабфакаў. Значыць, далейшую адукацыю гэта моладзь можа і павінна атрымоўваць у нашых ВНУ толькі на беларускай мове.

Другое—тое, што беларусізацыя, праводзімая Компартыяй і Савецкай уладай, тэрмінова патрабуе людзей, ведаючых мову, быт, гісторыю народных гушчаў Беларусі. Але гэтакіх людзей, якія пры тым сталі-б на грунце пролетарскай ідэолёгіі, вельмі мала.

І Беларускія вышэйшыя навуковыя ўстановы, выпускаючыя працаўнікоў дзеля шырокіх колаў рабочых і сялян, павінны ўдзяліць найбольш увагі таму, каб будучы настаўнік, доктар, судзьдзя і інш. умелі гаварыць на мове народных гушчаў. Партыя і Савецкая ўлада чакаюць ад нашых ВНУ людзей, якія будуць лепшымі праваднікамі ўсіх дырэктыў партыі і Савецкай улады.

Беларусізацыю, як вынік разьвіцьця нацыянальнай беларускай культуры (на падставе гаспадарчага адраджэньня) цяжка праводзіць „зьверху“ без адпаведных працаўнікоў „унізу“. Тым болей цяжэй праводзіць беларусізацыю нашых ВНУ без дапамогі самога студэнцтва. А болей за ўсё скарэйшай беларусізацыі перашкаджае адсутнасьць як падручнікаў, так і навуковых працаўнікоў, якія-б ведалі добра беларускую мову. Дзеля гэтага, адкладваючы на некаторы час перавод навуковай часткі ВНУ на беларускую мову, патрэбна скарэй і поўнасьцю беларусізаваць усялякія студэнцкія організацыі.

Гэта праца павінна праводзіцца ў студэнцкіх організацыях, пачынаючы цэнтральным бюро пролетстудэнцтва Беларусі і канчаючы драбнейшай організацыяй. Уся праца, якая праводзіцца студэнцкімі організацыямі, як академічная, экономічная і політпрасьветная павінна праводзіцца на беларускай мове, бо ўсім добра вядома, што беларусізацыя ВНУ ёсьць справа самога пролетарскага студэнцтва.

Трэба, каб у студэнцкіх організацыях беларуская мова была моваю гутаркі, і ня толькі „нізоў“, але і „вярхоў“, бо ў іншым выпадку на гэту справу будуць глядзець бяз усякае пашаны.

Беларусізацыю студэнцкіх організацый і ўсе віды гэтае працы трэба праводзіць па тром асноўным напрамкам.

У організацыйным напрамку трэба, каб адбыўся перавод усіх спраў на беларускую мову, каб усялякія сходы, дыспуты сярод студэнцтва, розныя нарады, пасяджэньні, справаздачы ўсіх гурткоў і камісій адбываліся на беларускай мове. Усё гэта разам, нават розныя лёзунгі,

плякаты ў час розных дэмонстрацый і кампаній, а так сама розныя абвесткі на беларускай мове прывучаюць студэнта больш зварачаць увагі на беларусізацыю нашага штодзённага жыцьця.

Лягчэй за ўсё праводзіць беларусізацыю ў напрамку культпрасьветнай працы. Некаторым ВНУ ўжо ўдалося нават поўнасьцю беларусізаваць свае насьценгазэты. Але перад рэдколегіямі насьценгазэт стаіць задача ня толькі беларусізаваць, а і ўводзіць у насьценгазэтах і нацкуткі. Асаблівае значэньне ў справе беларусізацыі маюць таксама студэнцкія клюбы, чытальні і Ленінскія куткі. Тут трэба старацца выпісваць беларускія газэты і часопісі. Трэба як найхутчэй і абавязкова разгарнуць працу ўсіх гурткоў на беларускай мове.

Неабходна, каб ў палітычных і профэсыянальных гурткох студэнцтва вывучала, побач з агульным вывучэньнем, рэволюцыйны і профэсыянальны рух на Беларусі.

Організацыям такім, як „Далоў Няпісьменнасьць". і „Лектарскі колектыў" трэба распачаць падрыхтоўку па правядзеньню ўсёй працы на нацыянальных мовах.

У акадэмічным напрамку трэба таксама патрабаваць больш сур'ёзнага выкананьня студэнцтвам заданьняў па беларускім дысцыплінам.

Толькі ў такім выпадку, калі мы, студэнцтва, самі беларусізуемся нам будзе лягчэй у свой час беларусізаваць нашы Вышэйшыя Навуковыя Установы.

Толькі больш увагі гэтаму пытаньню, больш бальшавіцкай ініцыятывы і беларусізацыя—дырэктыва партыі, будзе выканана.

**П. Галавач.**

## Лябараторны мэтод на практыцы.

*Комуністычны унівэрсытэт, б. В. П. Ш.*

Лябараторны мэтод, як падцьверджвае досьлед, мае вялікае практычнае значэньне ў справе рацыяналізацыі выхаваўча-адукацыйнага працэсу. У сучасны момант ён зьяўляецца адзінай мэтазгоднай сыстэмай навуковых заняткаў як па тым меркаваньням, што робіць навуковую працу адзінай школьнай сыстэмай, так і па тэй прычыне, што будуе прадпасылкі для правільна організаванага выхаваньня.

Пры лябараторнай сыстэме заняткаў маецца магчымасьць дасягнуць найбольшай корэляцыі[1]) прадметаў на грунце прыстасаваньня пасьлядоўнага мэтоду. Плянаваньне навуковага матар'ялу на азначаны тэрмін зьяўляецца неабходным элемэнтам гэтае сыстэмы. Гэткае плянаваньне не дапушчае разрыву паміж асобнымі прадметамі, пабудоўвае грунт для ўзгадненьня паміж сабою ня толькі асобных прадметаў розных цыкляў, але і самых гэтых цыкляў.

Пэдагогічнае значэньне лябараторнага мэтоду перш за ўсё ў тым, што пры ім добра падлічваюцца псыхо-фізыолёгічныя асаблівасьці студэнтаў. Выяўленьне асабовых нахілаў мае тут найбольш прастору. Але разам з гэтым новая сыстэма цалкам забясьпечвае дысцыпліну з боку студэнтаў і поўную іх адказнасьць за акуратнасьць і сумленнасьць працы перад колектывам сваіх таварышоў. Простае і складанае супра-

[1]) Корэляцыя—знадворная сувязь паміж прадметамі.

цоўніцтва не перашкаджаюць выяўленьню асабовых нахілаў з боку кожнага сябра колектыву, адсоўваюць асабовы элемэнт у працы і дзеля гэтага лябораторны мэтод павінен будавацца на прынцыпах супрацоўніцтва.

Асабовасьць працы патрабуе з боку выкладчыка ўсебаковага вывучэньня складу слухачоў, што дасягаецца паасобнымі гутаркамі, падлікам працы, здачаю выкананых заданьняў і г. д. Пры гэтым вывучэньні выяўляецца каштоўнасьць лябораторнага мэтоду ў тым, што ён высоўвае неабходнасьць самага точнага падліку працы. Розныя формы падліку даюць об'ектыўны матар'ял адносна посьпехаў студэнцтва.

Такім чынам, складанейшая проблема аб навуковым крытэрыі ацэнкі, якая не магла быць вырашана пры клясным мэтодзе заняткаў, вельмі проста вырашаецца пры лябораторным мэтодзе.

Новы мэтод прадбачвае найбольшую самадзейнасьць студэнтаў. Лябораторны мэтод бяз гэтае самадзейнасьці немагчымы. Самадзейнасьць студэнцтва выяўляецца ў самастойнай прапрацоўцы навуковага матар'-ялу і ў актыўных адносінах да організацыі ўсяго навуковага жыцьця.

Складаючымі элемэнтамі лябораторнага мэтоду зьяўляюцца: організацыя школьнага жыцьця ў цэлым; складаньне заданьняў; процэс самастойнай працы ў габінэтах і падлік працы.

Організацыйная схэма навуковае ўстановы па вучэбнай частцы прымае наступны выгляд: 1) сход выкладчыкаў для згаджэньня працы па вывучэньню складу слухачоў; 2) прадметныя камісіі для выпрацоўкі програм і плянаў і згаджэньня выкладаньня прадметаў асобнага цыклю; 3) цэнтральная мэтодычная камісія для выпрацоўкі програм і плянаў па ўсім цыклям ВНУ; 4) мэтодычны габінэт для вывучэньня процэсу выкладаньня і кіраваньня ўсёй мэтодычнай працай; 5) пэдагогічны савет для вырашэньня агульных пытаньняў выкладаньня і 6) навуковая камісія для вырашэньня найбольш прынцыповых пытаньняў навуковага жыцьця.

Асноўнай ячэйкай пропаганды пры лябораторным мэтодзе заняткаў зьяўляецца габінэт. Ён мае загадчыка з складу выкладчыкаў і ляборанта, які спаўняе тэхнічную працу ў лябораторыях: рэгіструе займаючыхся, выдае заданьні і матар'ял, падлічвае час, страчаны студэнтамі ў гэтай лябораторыі на працу па заданьню.

Плянаваньне працы пры лябораторным мэтодзе зьяўляецца неабходнай умовай рацыяналізацыі навуковых заняткаў. Гэтае плянаваньне ў нас будзе йсьці ў напрамку рацыяналізацыі часу студэнта, увязкі навуковай і практычнай працы, згаджэньня выкладаньня прадметаў паміж сабою. Што дтычыцца плянаваньня навуковага матар'ялу, то тут значную ролю мае сваечасовае складаньне програм і рацыянальная пабудова іх. Навуковы год мы пачынаем з апрацованымі програмамі і заданьнямі, на якія разьбіты програмы.

Заданьне будуецца так, каб пры выкананьні яго праца студэнта атрымоўвала форму простага ці складанага супрацоўніцтва: даецца агульная тэма для ўсяго курсу з паказаньнем агульных падручнікаў. Часта тэма разьбіваецца на падтэмы, якія і распрацоўваюцца па групах. Вынік працы падагульваецца на заключнай конфэрэнцыі.

Распрацаваўшы заданьне, студэнт гутарыць з выкладчыкам, „здае", але гэта здача заданьняў не павінна насіць характару асабовых залікаў.

Праца ўступных і заключных конфэрэнцый знаходзіцца ў цеснай сувязі з лябораторнай працай. Ад правільнай пастаноўкі працы конфэрэнцый залежыць посьпех заняткаў.

Уступныя конфэрэнцыі маюць задачай азнаёміць студэнтаў з працай па заданьню, растлумачыць асноўную думку заданьня.

Заключныя конфэрэнцыі падагульваюць працу. Тут выкладчык задае свае контрольныя пытаньні па зьместу распрацаванага матар'ялу. Асноўны мэтод працы конфэрэнцыі—гутарка.

Падлік працы мае дзьве задачы: рэгуляваньне навуковага жыцьця на грунце сыстэматызацыі і вывучэньня падлічваемага матар'ялу і выхоўваньня ў студэнтах здольнасьці мэтазгодна скарыстоўваць час для дасягненьня азначаных мэтаў пры найменшай страце сіл. Разам з падлікам, які праводзіцца ў лябараторыі, асабліва выхаваўчае значэньне мае самападлік, які робіцца студэнтамі. Самападлік дапушчае найбольшую актыўнасьць і самадзейнасьць, якія выказваюцца ў сыстэматызацыі і наглядах з боку студэнтаў за сваёй навуковаю і практычнаю працаю.

Грунтам самападліку зьяўляецца картка студэнта, якая паказвае дынаміку працы студэнта за азначаны тэрмін у адносінах да ўсіх прадметаў і практычнай працы.

Кожны выкладчык мае свой дзеньнік, у якім адзначае колькасны і якасны падлік працы кожнага студэнта па кожнаму прадмету.

Гэтыя матар'ялы дзеньнікаў распрацоўваюцца ў канцы сэмэстру мэтодычным габінэтам, абгаварваюцца на спэцыяльных пасяджэньнях прадметных камісій і гэткім чынам выпрацоўваецца навуковая характарыстыка кожнага студэнта па кожнаму прадмету і агульная.

Сыстэматызаваны і досыць распрацаваны матар'ял па падліку выдаецца ў выглядзе дыяграм і робіцца прадметам абгляду ўсіх выкладчыкаў і студэнтаў. Кожная зьмена ў працы павінна адбівацца ў гэтым матар'яле, які павінен зрабіцца спосабам ацэнкі посьпехаў студэнтаў.

Наогул падлік працы павінен займаць адпаведнае і значнае месца ў працы навуковае ўстановы.

Лябараторны мэтод адхіляе ўсякую магчымасьць здаваньня залікаў на „арапа“, прымушаючы ў той-жа час студэнта падцягваць свае „хвасты“, ісьці ў ногу з сваім курсам. У гэтым яго каштоўнасьць.

Зьм. Белы.

# Формы студкораўскага руху ў Беларусі.

Студкораўскі рух у Беларусі ня прыняў яшчэ такіх конкрэтных організацыйных формаў, якія ўжо маюць рух рабкораўскі й селькораўскі, і зусім зразумела. Студкораўскі рух мае за сабою год існаваньня. Гэта быў год шуканьня шляхоў працы. Гурткі працавалі так, як працавалася. У іншых месцах апрацоўваліся статуты гурткоў, пляны, заводзілі рэгістрацыю студкораў і г. д.

Прайшоў год. Мы на парозе новага акадэмічнага году. Зноў пачнецца організацыя гэтакіх гурткоў. Але трэба, каб яны не забыліся аб мінулым годзе, трэба організацыйна ўмацаваць студкораўскі рух.

### Організацыйнае пытаньне.

Як павінен організацыйна працаваць гурток—аб гэтым вельмі добра напісаў тав. Фролаў у сваім артыкуле „О целях и формах студкоровского движения“ ў часопісі „Красная молодежь“.

У нас яшчэ ёсьць тэндэнцыі будаваць нашы студкораўскія організацыі пры політпрасьветах, тлумачачы гэта неабходнасьцю коордынацыі працы, кіраўніцтва ёю, а часта і так, што як жа гэта можа быць, каб пры політпрасьвеце ня было студкораўскага гуртка, адмяняючы пастановы саміх студкораў працаваць пры насьценных газэтах. Аб карысьці ня трэба казаць, бо карысьць адна: анкеты і пратаколы пасяджэньняў. Больш нічога. Гэта досьлед. Досьлед ня толькі наш. Другая нарада пры „Правде“ рашуча адкінула гэту форму організацыі. Гурткі павінны будавацца толькі пры газэтах, на факультэтах і знаходзіцца пад кіраўніцтвам профкомаў, а на рабфаку—факкому. Агульнае кіраўніцтва гурткамі на Беларусі ляжа на часопісь „Чырвоны Сьцяг“. Гэта кіраўніцтва будзе выяўляцца ў зьмяшчэньні ў часопісі кіруючых артыкулаў, заметак аб працы студкораўскіх гурткоў, у пастаяннай сувязі з гурткамі ВНУ і тэхнікумаў Беларусі, у адказах на запытаньні па розным пытаньням студкораўскага руху. У Менску, акрамя гуртка пры „Чырвоным Сьцягу“, павінны склікацца агульныя сходы корэспондэнтаў розных навуковых устаноў, сходы рэдколегій і г. д.

„Чырвоны Сьцяг“ павінен зьявіцца органам, кіруючым працай студкораўскіх гурткоў. Ніякіх міжфакультэцкіх бюро студкораў ня трэба, яны ўсёроўна ня жыцьцёвы. Іншыя організацыйныя пытаньні добра высьвятліў тав. Фролаў.

### Як павінен працаваць гурток.

Першае і самае галоўнае—гэта самаахвотнасьць працы. Гэта адзін з гурткоў, дзе ня трэба ніякіх рэгістрацый, дысцыплін, анкет і г. д., бо ў нас вельмі часта ўсе гэта робіцца бюрократычна. Гурток—гэта база насьценнай газэты.

Гурток павінен гатаваць і зьбіраць матар'ял для „Чырвонага Сьцягу“, кожны нумар якога павінен быць добра разгледжан, абгаворан. Трэба, каб гурток быў люстрам жыцьця ВНУ. Усе пытаньні, што цікавяць студэнцтва, павінны раней абгаварвацца ў гуртку студкораў. Абгледжваньне розных бакоў жыцьця студэнцтва, іх быту, працы і вучобы, знаёмства з газэтнай тэхнікай, экскурсіі ў друкарні—вось віткі працы гуртка.

„Чырвоны Сьцяг“ павінен завесьці аддзел „Нашы насьценныя газэты“, у якім павінны будуць давацца адозвы аб насьценных газэтах ВНУ Беларусі.

Друк—гэта шостая дзяржава. Яе значэньне ў ВНУ—вялізарнае. Нездарма ЦК РКП у сваіх пастановах аб працы ў ВНУ падкрэсьліў неабходнасьць зьвярнуць асабістую ўвагу на студэнцкі друк.

# НА ВАКАЦЫЯХ.

Г. Д.

## За працай.

Скончылася лета, а з ім і летнія вакацыі.

Адпачылі, час і за працу.

З усіх мядзьвежых куткоў зьязджаецца студэнцтва, прывозіць з сабою пах палёў і лясоў. Ёсьць „шчасьліўцы“, якія прывезьлі з сабою прывітаньні, шмат уражаньняў і апавяданьняў з другіх краін: Украіны, Каўказу, Крыму.

Зьлёт у поўным разгары. Уражаньні, апавяданьні, гутаркі аб зробленай студэнцтвам працы ў вёсцы...

— Як узяла мяне, браткі, ячэйка ў пераплет, дык дыхнуць часу няма: тут табе і даклад аб міжнародным становішчы, і аб сельгаспадатку, і аб коопэрацыі, і аб хлебазагатоўцы, і г. д., і г. д.

— Ды й я ў страце не застаўся: крыху насабачыўся па палітыцы, а то за зіму зусім быў адстаў.

— А я, дык па сваёй спэцыяльнасьці лекцыі чытаў,—кажа сельгасавец:—сялянства вельмі цікавілася. Нават з другіх вёсак прыходзілі.

Мэдык з натхненьнем апавядае, як ён працаваў у раённай амбуляторыі, амаль-што другім доктарам; як амбуляторыя штодзённа прапускае 70—80, а то і больш хворых; як цяжка аднаму доктару спраўляцца за 47-тысячным насельніцтвам.

— Хоць бы скарэй скончыць і паехаць туды,—чуецца вельмі часта ў выніку ўсіх гэтых гутарак.

Той спэктаклі ставіў, кіраваў рознымі гурткамі; тая на дзіцячай пляцоўцы працавала, яслі адчыняла, жанпрацу праводзіла, трэці так зацікавіў сваіх аднавяскоўцаў радыё, што па іх даручэньню за „машынаю“ езьдзіў, і без канца такія ўражаньні.

Так шматбакова была праца студэнцтва на вёсцы і з вялікаю любоўю і ахвотаю яна выконвалася.

Так і б‘ецца жывою кіпучаю крыніцаю, так і нясе здаровым ад усяе масы, якая сядзела ўсю зіму ў душных, сырых пакоях за кнігаю, часам пры простай газоўцы, а вёсцы тлумачыла пра электрычнасць.

Новы абмен энэргіяй з вёскай, новае абагачэньне досьледам—і запас энэргіі забясьпечан на цэлы навуковы год. Прыбавілася больш практыкі к дабываемай тэорыі.

Так мы, пролетарскае студэнцтва, скарыстоўваем свой летні адпачынак.

Т. Бонін.

## Студэнт у вёсцы на вакацыях.

Студэнцкая хваля, якая хлынула ў вёску, да некаторай меры расшавяліла, разбудзіла і асьвяжыла яе. Студэнтаў можна была сустрэць і на агульным сходзе вёскі, і ў хаце-чытальні, дзе яны рабілі, звычайна, даклады на розныя тэмы: аб значэньні агрономіі ў сельскай гаспа-

дарцы, аб адзіным сельгаспадатку, аб значэньні коопэрацыі, аб землябудаўніцтве, аб міжнародным становішчы СССР, аб рэлігійным дурмане й г. д. Яны пісалі ў насьценгазэту, калі яна была, альбо зьяўляліся корэспондэнтамі акруговых газэт, ускрываючы балячкі вясковай сапраўднасьці, былі сябрамі контрольных камісій коопэрацыі і г. д., і г. д.

Студэнт, у першы дзень свайго прыезду ў вёску, заўсёды быў абкружан натоўпам сялян, якія засыпалі яго самымі злададзёнымі пытаньнямі. Па свайму социяльна-экономічнаму становішчу гэты натоўп быў вельмі стракаты. Тут быў і кулак, і серадняк, і бядняк, і, нават, парабак. Кожная гэтая соцыяльная праслойка старалася даваць пытаньні блізкія толькі для яе, толькі адказваючыя яе цікавасьцям. Адказ на іх студэнта зразу азначаў яго месца ў сельскай грамадзе, робячы прыяцелем адных і ворагам іншых.

Гэтыя першыя размовы студэнта ў коле сялян зьяўляюцца самым здаровым бокам грамадзкай працы, якую звычайна не заўважваюць і не даацэньваюць яе волатавага значэньня, асабліва ў летні пэрыод сельскае працы. Гэты мэтод скора замяняецца формай дакладу, што значна адбіваецца на пасьпяховасьці грамадзкае працы.

Самай галоўнай і распаўсюджанай формай культ-прасьветнай працы звычайна лічыцца лекцыйная сыстэма, альбо форма гутарак на агульных сходах, у хаце-чытальні і іншых, прычым гэты мэтод і толькі адзін стараюцца ўжываць ва ўсякі час году, ня прымаючы пад увагу спэцыфічныя асаблівасьці сельскае гаспадаркі.

Калі гаварыць аб гэтым мэтодзе ва ўжываньні ў зімовую пору, то вынікі яго ўжываньня будуць вельмі добрыя; але ў адносінах да летняе пары, калі вёска, не выключаючы нават сьвяточных дзён, з самага раньня й да позняй ночы перагружана цяжкай, падчас, нават, пакутнай працай, значэньне яго памяншаецца. Тут поруч з лекцыйнай сыстэмай працы павінен ужывацца мэтод гутарак. Сходкі сялян бываюць вельмі часта, амаль-што кожны дзень: і на сенажаці ў час кароткага адпачынку, асабліва ў час абеду, і ўвечары перад хатаю на прызьбе, дзе яны часта зьбіраюцца пасьля вячэры, і ў іншых месцах. Тут паднімаюцца пытаньні на розныя тэмы, пачынаючы з самых звычайных і канчаючы аб міжнародным становішчы СССР. Значыць, мы тут находзім самае шырокае поле дзейнасьці для грамадзкай працы студэнта. Але, к вялікаму жалю, дасюль на гэта студэнты зварачалі вельмі мала ўвагі. Даклад толькі на агульных сходах, якія бываюць летам вельмі рэдка, быў адзінай формай грамадзкай працы. Вось чаму карыснасьць грамадзкай працы студэнта ў вёсцы, забраўшай шмат энэргіі, значна памяншаецца. Гэта першы недахоп у працы студэнта.

Другою ўмоваю, не ў малой меры адмоўна адбіўшайся на карыснасьці грамадзкае працы студэнта, была некаторая адарванасьць яго ад тэй самай вёскі, з якое ён вышаў. Шмат студэнтаў, па прыезьдзе ў вёску, адчувалі сябе больш гасьцямі, чым жыхарамі яе і часам гэта даходзіць да таго, што яны мала цікавяцца даволі паважнымі пытаньнямі, якія ўзьнікаюць у гаспадарцы свайго-ж бацькі. Яны, мабыць, пад уплывам гораду ў час свайго прабываньня ў ВНУ і дзякуючы асабліваму свайму становішчу, як студэнтаў, больш цягнуцца да гораду, чым да вёскі. Дзякуючы такому становішчу рэчаў, самі, можа, яго не сазнаючы, яны ўжо ў вытворчым процэсе вёскі займаюць нейкае асаблівае месца, чым усе іншыя грамадзяне. Як ведама, у сельскай гаспадарцы праца бывае самая розная і ў ліку яе мы знойдзем даволі цяж-

кую й пры тым вельмі брудную. Зразумела, што шмат студэнтаў стараюцца пазбавіцца гэтакае працы, і, да жалю, гэта бывае даволі часта. Усё-ж гэта вельмі добра заўважваецца сялянамі і ў канцы-канцоў прыводзіць да некаторае напружанасьці ў іх адносінах, што ў значнай меры адбіваецца на карыснасьці працы студэнта.

У канцы, не магла не адбіцца на пасьпяховасьці працы заўважваўшаяся раздробленасьць, распыленасьць студэнтаў у тым ці іншым раёне. Калі-б яны ў згодзе з мясцовымі організацыямі ўтварылі адзін агульны колектыў у раёне, зразумела, калі дазваляюць умовы, то можна было-б прыдаць сваёй працы больш плянавы характар і, апрача таго, на сваіх сходах дзяліцца сваім досьледам, атрыманым у процэсе іх працы і выпраўляць свае абмылкі.

Вось, калі-б гэта ўсё было падлічана, то сьмела можна было-б сказаць, што вынік грамадзкай працы студэнта ў вёсцы значна павысіўся-б і ня зышоў-бы да 3—5 лекцый у працягу ўсяго лета, што ў большасьці выпадкаў нагледжвалася ў часе вакацый гэтага году.

**М. Сандамірскі.**

## Студэнты на вакацыях.

*(Мазыршчына).*

З усіх канцоў СССР, пачынаючы з Менску і канчаючы Іркуцкам, зьехалася вучнёўская моладзь Мазыршчыны. Ажыў Мазыр, ажыла і ўся акруга. Асаблівае ажыўленьне было відно сярод рабочых. Унесьлі гэтае ажыўленьне ў жыцьцё студэнты. Ня было ні аднае профсаюзнае організацыі, заводу, фабрыкі ці майстэрні, дзе-б не працаваў пролетарскі студэнт. З самага прыезду студэнцтва організавалася ў адну адзінку з бюро пролетстудэнцтва ў галаве. Усёй працай кіравала бюро. Па ўсіх саюзах было організавана па некалькі гурткоў: палітычных, агульна-адукацыйных і інш., пры чым заняткі ў гуртках вяліся на розных мовах, гледзячы па нацыянальнасьці. Студэнты прымалі гарачы ўдзел, а часта і кіруючую ролю ў выданьні насьценных і вусных газэт. Чыталіся лекцыі на розныя тэмы, організоўваліся спэктаклі, праведзены быў палітсуд. Карацей кажучы, была зроблена значная праца.

Рабочыя засталіся вельмі задаволены, што споўніліся іх чаканьні, бо, пасылаючы сваіх таварышоў па станку вучыцца, яны былі цьвёрда ўпэўнены ў тым, што здабытымі ведамі іх пасланыя поўнасьцю падзеляцца з імі. І праўда—чаго чакалі, тое й атрымалі.

—Гэта ўжо нашы,—казалі старыя рабочыя,—сярод іх няма з залатымі гузікамі, як уперад, затое ёсьць братэрская згоднасьць з рабочымі. А гэта галоўнае.—

Вось чаму яны былі так рады і з удзесяцяроннаю ўпэўненасьцю выдзялілі ад сябе новы кадр маладых на фронт навукі.

# ЗА РУБЯЖОМ.

Мік. Шапавалаў.

## Савецкае і зарубежнае беларускае студэнцтва праз нацыянальнае люстра.

Пытаньне аб тым месцы, якое займае беларуская моладзь у будаўніцтве нацыянальнай беларускай культуры—зьяўляецца любімай тэмай замежных беларускіх газэт, асабліва Віленскіх. У шэрагу сваіх артыкулаў, прысьвечаных гэтаму пытаньню, яны імкнуцца даказаць сілу гэтае моладзі і агульнасьць яе нацыянальных інтарэсаў з „народам“, яе гатоўнасьць да барацьбы за нацыянальнае вызваленьне Беларусі.

Трэба, вядома, думаць, што праводзімыя нацыянальнымі беларускімі газэтамі погляды на сучаснае і будучае моладзі, галоўным чынам—студэнцкай, налічваюць ня дзесятак прыхільнікаў, а цэлыя групы замежнай беларускай інтэлігэнцыі, у тым ліку і студэнцтва.

Справа не ў асабовым капрызе „арыгіналаў-чудакоў“, а ў тым, што сярод беларускай інтэлігэнцыі і студэнцтва яшчэ глыбока вера ў сваю „культурную“ сілу, у дабрачыннасьць і гатоўнасьць самаахвяры дзеля вызваленьня „народных“ мас ад капіталістычнага ўціску. Вялікая вера ў сябе і малая вера ў рабочых і сялян.

Часта гэтыя думкі аб нацыянальным вызваленьні зацямняюць сузнаньне рабоча-сялянскіх мас аб неабходнасьці вызваленьня ня толькі нацыянальнага, але і соцыяльнага. А гэты клясавы момант беларускімі нацыянальнымі газэтамі зусім апускаецца.

Пытаньне аб ролі беларускай замежнай моладзі, галоўным чынам —студэнцкай, раскіданы ва ўсіх нацыянальных беларускіх замежных газэтах, аднак вялікі матар'ял дае нам „Сялянская Праўда“; у сучасны момант праводзіць яе погляды стала газэта „Жыцьцё Беларуса“ ў зьвязку з зачыненьнем першай, дзеля гэтага крытычны разгляд іх пачнецца з „Сялянскай Праўды“.

„Сялянская Праўда“ са шчырасьцю рахубнага гандляра падлічвае колькасьць вучняў-беларусаў у буржуазных унівэрсытэтах; іх-жа колькасьць: каля 150 асоб у Празе, каля 100 у Вільні і па ўсёй Эўропе па 1—2 асобы.

Гэта жменя беларусаў, якая выпадкова знаходзіцца ў сьценах буржуазнае школы (не датыкаючыся яе соцыяльнага складу, які, трэба думаць, ня зусім рабоча-сялянскі) расцэньваецца „Сялянскай Праўдай“ як культурная сіла, насіцельніца асьветы ў народныя масы (якія масы—не паказана) і іх нацыянальнага вызваленьня ад існуючага ўціску.

„Ведае гэта моладзь,—кажа „Сялянская Праўда“—гэтая будучына нашага народу, гэтыя культурныя павадыры яго і ўзгадавальнікі новых, усё больш і больш чысьленых пакаленьняў беларускай народнай інтэ-

лігэнцыі... што робіць польская ўлада, зачыняючы перад ёю дзьверы вышэйшых школ у Польшчы!“

Так, ведае! Але ці ведае „Сялянская Праўда“, колькі з гэтай моладзі, якая выйдзе з вышэйшае буржуазнае школы, будзе культурных павадыроў і ўзгадавальнікаў, выхаваўцаў працоўнага народу і насіцеляў беларускай культуры—у гэтым мы сумляваемся. Так, крыху ніжэй „Сялянская Праўда“ сама-ж прызнае, што з тых 100 беларусаў, якія навучаюцца ў вышэйшай школе ў Вільні, „толькі невялікая частка іх суліць нашаму народу пацеху з іх будучае працы: узгадаваныя ў польскіх сярэдніх школах яны, пераважна, стаяць здалёк ад беларускага жыцьця і ад барацьбы нашага народу за родную культуру і волю“. Куды-ж ехаць пасьля гэтага далей—толькі ў тупік, але „Сялянская Праўда“ яго ня бачыць, як часта „ня бачаць лесу з-за дзераў“.

Надзеі яе на адраджэньне беларускай культуры акрыляюцца то Праскім, то Віленскім студэнцтвам, а пролетарскім студэнцтвам Савецкае Беларусі (божа збаў!)—не! „Гледзячы на тое, што прадстаўляе беларускае студэнцтва на ўсходзе, перш за ўсё прыходзе думка, што заходнія іх таварышы самавызначаюцца гэтак ярка з нацыянальнага боку затым, што ўвесь час жывуць у *стане барацьбы* (курсіў „С. П.“) за свае нацыянальнае „я“ (дзякуй хоць за прызнаньне!). Ужо сямілетні хлопчык падлягае ломцы ў чужацкай школе, куды яго заганяюць прымусам. Ён бачыць сьлёзы бацькоў, караных штрафамі і арыштам за праціўленьне школьнаму прымусу—да чужое школы. І ён навучаецца іншымі вачыма глядзець на ўсё роднае, чым такі-ж хлопчык беларускі на Ўсходзе, якому, так сказаць, *дарма* (дзякуем!) даецца ўсё тое, аб чым лятуцім мы тут, на Захадзе. Гэта пастаянная барацьба за сваю нацыянальнасьць і выпрацовывае ў нашай заходняй моладзі тую нацыянальную сьвядомасьць, якая вядзе па дарозе нацыянальнае творчасьці ў роднай мове сваёй“.

Зьвернемся да першых слоў толькі што скончанае цытаты. Дзівіцца таму, што „Сялянскай Праўдзе“ раней усяго прыходзіць думка ў галаву аб тым, што студэнты-беларусы Захаду пранікнуты нацыянальнымі ідэямі больш, чым студэнты Сав. Беларусі, ня прыходзіцца. Думка сама па сабе значных грахоў ня мае, але пасьля заявы „Сялянскай Праўды“ аб тым, што Віленскія студэнты-беларусы на культурнай беларускай ніве не працаўнікі, трэба і гэта палажэньне паставіць пад пытальнік. Чым-жа тады „беларускім“ і з „якога боку“ гэта нягодная для культурнай працы ў масах частка Віленскіх студэнтаў-беларусаў выдзяляецца з іншага польска-шляхэцкага студэнцтва? Толькі тым, што яны „беларусы“ і жывуць у „стане барацьбы“ за сваё нацыянальнае „я“? Але ці дадзена зразумець „Сялянскай Праўдзе“, што можа быць аб гэтай „барацьбе за сваё нацыянальнае „я“ яны ўведалі толькі з яе „нацыянальнае“ газэты, а іх нацыянальнае „я“ ўжо працягнула руку социяльнаму „я“, якое дзіўна хутка зьбліжае паляка з беларусам, жыда з самым набажным праваслаўным? Ці пераканалася „Сялянская Праўда“ ў цэльнасьці і захаванасьці гэтага нацыянальнага „я“ ў гэтай групы студэнтаў? Нам-жа пасьля ўсяго гэтага прыдзецца сказаць, што яны ўжо даўно яго згубілі, дзеля гэтага і барацьбіты яны за беларускую культуру нікчэмныя, бескарысныя. Вам яны ня трэба, а нам і падаўна!

Вось рабочыя і сяляне, караныя штрафамі і арыштамі, сапраўды жывуць у стане барацьбы ня толькі за сваё нацыянальнае „я“, але й

за *соцыяльнае „я“* (апошняе вам уразумець і не дадзена. Яго вы прагледзелі, як жорава ў небе!).

Рабочыя і сяляне глядзяць на ўсё сваё прыгнечаньне нацыянальнае і соцыяльнае іншымі вачыма (верна!), іншымі, вядома, чым і вы!

Што-ж датычыцца таго, што хлопчык-беларус у нас атрымлівае „дарам“ усё тое, за што яго сабрату прыходзіцца змагацца, то ў нас, у БССР, гэта права для дзяцей усіх нацыянальнасьцяй рабочымі і сялянамі заваёвана і шкадаваць аб гэтым, як гэта відаць у вас, у нас ніхто ня думае.

Дзякуючы Савецкай уладзе нам у БССР весьці барацьбу за сваё нацыянальнае „я“ ня прыходзіцца дзеля таго, што яно вольна.

Але-ж згодна мудраму заключэньню „Сялянскай Праўды“ наша пролетарская моладзь і студэнцтва асабліва як раз таму, што яно не вядзе нацыянальнае барацьбы, і ад яе вольна, „губіць сваю нацыянальную сьвядомасьць, забывае пра сваё нацыянальнае „я“. І „Сялянская Праўда“ прадпісвае дзеля вылячэньня гэтае „хваробы“ ў нашага студэнцтва наступны рэцэпт: „Раз у нашага ўсходняга студэнцтва не хватае энэргіі і размаху ў барацьбе за нацыянальную культуру, дык трэба было-б узмацаваць яго сьвежымі і нацыянальна выробленымі сіламі з Захаду. Нам здаецца, што дзеля агульна-беларускае карысьці яны (беларускія студэнты Чэха-Славаччыны і Польшчы) павінны быць выкарыстаны ў першы чарод дзеля працы на Ўсходзе“.

Не, шматпаважаныя! Зможам вас упэўніць, што наша рабоча-сялянская моладзь і пролетарскае студэнцтва глыбока пранікнуты сузнаньнем свайго „я“, але ня толькі нацыянальнага, але і соцыяльнага. Лячыць нас ад забыўчывасьці яго—вам ня прыдзецца. Самі вы нацыянальнае „я“ знайшлі, а соцыяльнае згубілі, дзеля гэтага і нацыянальнае ваша „я“—не запраўднае, не рабоча-сялянскае.

Хапае ў нашага пролетарскага студэнцтва энэргіі і размаху для будаўніцтва нацыянальнай культуры! Будуем яе ў краі вам добра вядомым. Відна яна рабочым і сялянам усіх нацыянальнасьцяй, бо наша нацыянальная політыка дапамагае разьвіцьцю культурных, нацыянальных запытаньняў ня толькі беларускага народу, але ўсіх народаў, якія жывуць у БССР.

Мы вельмі добра разумеем, што ня толькі беларускаму дзіцяці была чужой школа, у якой вялося выкладаньне не на яго роднай мове, а што ў такой-жа меры яна была чужой і дзіцяці—паляку, латышу і інш. Усіх іх прымусам заганялі ў гэту школу. Усіх рабочых і сялян, прыгнечаных нацыянальна, аднолькава каралі арыштамі і штрафамі. І не дзеля таго браў пролетарыят у свае рукі ўладу, каб паставіць адну нацыянальнасьць у пануючае становішча перад іншымі.

Што-ж датычыцца таго, што для мэтаў агульна-беларускіх інтарэсаў „Сялянская Праўда“ прапануе памагчы моладзі ў яе барацьбе за нацыянальную культуру, то, папершае, заўважым, што для нас *агульна беларускіх інтарэсаў* няма, а ёсьць інтарэсы беларускіх рабочых і сялян, якія яны самі ўжо восем гадоў абараняюць і ніякай іншай дапамогі ні ад каго, апрача дапамогі рабочых і сялян іншых краёў, не патрабуюць; падругое, што сваю барацьбу за нацыянальную культуру яны скончылі яшчэ ў Кастрычніку 1917 году (вы позна абдумаліся памагаць!). Пролетарская-ж моладзь і студэнцтва наперад просяць вас сваімі вучнямі не залічваць.

Будаваць будучыну рабоча-сялянскае Беларусі будуць самі рабочыя і сяляне і вышаўшая з іх шэрагаў пролетарская інтэлігэнцыя, у тым ліку і студэнцтва, якое зьвязала свой лёс з лёсам рабочых і сялян ня толькі Савецкай, але ўсяе этнографічнае Беларусі.

Вядома, мы ня можам не спачуваць вашай вызваленцкай барацьбе з капіталізмам, але гэтакая ўжо лёгіка гісторыі, што раз стаўшы ў гэтай барацьбе на неправіловы шлях нацыянальных інтарэсаў, вам не давесьці яе да канца.

„Уся гісторыя грамады ёсьць гісторыя барацьбы клясаў", сказаў К. Маркс і толькі сіла, якая ўвасабляе гэтую барацьбу, сіла, якая прызнае *гістарычна неабходную* ролю рабоча-сялянскіх мас у перабудаваньні грамады, зможа перамагчы. А гэтай масе вы адводзіце вельмі мізэрнае месца.

Трэба быць сьляпым, каб ня бачыць глыбока патрасаючых сучасную грамаду соцыяльных антогонізмаў, каб не адчуваць патрэбнай неабходнасьці зьвязаць барацьбу за нацыянальнае вызваленьне з вызваленьнем соцыяльным.

Адышоў у мінулае той час, калі клясавая барацьба ўкладвалася ў рамкі вузка-нацыянальных інтарэсаў. Цяпер яна перарасла іх, відавочна даказваючы сваю інтэрнацыянальную клясавую сутнасьць.

Барацьба за вызваленьне ад прыгнечаньня нацыянальнага, без вызваленьня ад прыгнечаньня экономічнага, заўжды канчаецца няўдачай. Гэта два бакі аднае вызваленцкай барацьбы і падзяляць іх—прызначаная абмылка.

* * *

Мы толькі ў кароткіх словах крытычна разгледзелі погляды аднэй беларускай нацыянальнай газэты на ролю моладзі і студэнцтва ў будаўніцтве беларускай культуры. Яны далёка ня поўны, але рэакцыйнасьць іх не зацямняецца прыгожымі словамі аб вызваленьні беларускага „народу" ад нацыянальнага прыгнечаньня.

У наступны раз спынімся на гэтым больш падрабязкова.

## Ліст з Нямеччыны.

**(Пераклад з эспэранто).**

Студэнцтва Нямеччыны ў большай сваёй частцы вышла з буржуазнае клясы. Вельмі мала сярод студэнцтва рабочых, якія змаглі-б акуратна зьяўляцца на ўсе лекцыі, сэмінары і практычныя заняткі. Вучыцца і працаваць разам ніяк нельга, бо рабочы працуе ў дзень 9 гадзін. Бацькі ня маюць магчымасьці плаціць грошы за вучэньне дзяцей. Некаторыя студэнты атрымліваюць дзяржаўную стыпэндыю, а ў часе вакацый студэнты зусім бедныя. Тады яны атрымліваюць талёны на дармовыя абеды. Грошы на гэта зьбіраюцца сярод багацейшых студэнтаў і сярод гарадзкіх жыхароў. У сучасны момант убоства сярод студэнтаў ня вельмі вялікае.

Унівэрсытэт добра даведваецца студэнтамі, сярод якіх ёсьць шмат чужаземцаў. Студэнты, акрамя факультэтаў, падзяляюцца на корпорацыі.

Корпорацыі маюць, галоўным чынам, нацыянальна-шовіністычны характар. Працуе таксама соцыялістычная група.

Студэнцтва ня вельмі сымпатызуе рабочай клясе. Галоўным чынам сымпатыі йдуць ад чужаземцаў.

Пасьля сусьветнай вайны лік студэнтаў у унівэрсытэтах значна павялічыўся. У зімовы пэрыод 1913—14 г. лік студэнтаў быў 59.263 асобы, летам 1923 г.—85.394 асобы. Гэта вельмі значны лік студэнтаў, больш, як ува ўсе гады пасьля вайны. У зімовы пэрыод 1923—24 г. лік студэнтаў паменшаў да 76.859 асоб.

Лік студэнтаў па факультэтам[1]):

| НАЗВА ФАКУЛЬТЭТУ | Лік студэнтаў у 1914г. | Лік студэнтаў у 1924г. |
|---|---|---|
| Юрыдычны і дзяржаўных навук | 9.373 | 22.232 |
| Экономічна-палітычны | 2.316 | 12.167 |
| Мэдыцынскі | 14.884 | 10.738 |
| Філёлёгічна-гістарычныя навукі | 12.228 | 10.047 |
| Матэматычны і фізычны | 6.302 | 4.984 |
| Геолёгічны | 5.509 | 3.686 |
| Зубных дактароў | 764 | 1.625 |
| Хімічны | 889 | 3.671 |
| Фармацэўтычны | 1.057 | 1.327 |
| Экономікі | 1.420 | 3.516 |
| Іншыя факультэты | 2.233 | 2.866 |

Аб працы студэнцтва, іх вучобе і жыцьці ў другі раз. Шчырае прывітаньне студэнцтву Беларусі.

*Вілі Крэй.*

Лейпцыг.

## Рабочыя Коледжы ў Англіі.

**(Ліст з Глядстону. Пераклад з эспэранто).**

У сучасны момант дзеля рабочага руху ў Англіі вельмі патрэбны рабочыя коледжы, якія зьяўляюцца нацыянальнымі організацыямі. Лік рабочых, якія вывучаюцца ў коледжах, з кожным годам расьце. У апошнім навуковым годзе лік студэнтаў даходзіў да 30.000 ува ўсёй Англіі. У Глядстоне, у нашым рабочым коледжы, налічваецца да 500 студэнтаў.

Сярод студэнтаў рабочага колежду амаль-што ўсе належаць да якое-небудзь політычнае партыі. Ёсьць сябры рабочай партыі, ёсьць комуністыя і іншыя, але ўсе студэнты адчуваюць неабходнасьць, а ў зьвязку з гэтым і згоднасьць, працаваць на карысьць рабочае клясы, атрымаўшы ў коледжы неабходныя веды.

У коледжы мы атрымліваем адукацыю па экономіцы, прамысловай гісторыі, экономічнай географіі, лёгіцы, гісторыі рэволюцыйнага руху і іншых соцыяльных навуках. Як я ўжо казаў раней, кожны год усё большы лік рабочых цікавіцца гэтымі навукамі і йдзе ў коледжы.

---

[1]) Усе лічбы ўзяты з офіцыйных анкет.

Студэнты коледжаў — моцная сям‘я, якая зьяўляецца вельмі каштоўнай сілай у рабочым руху Англіі.

Трэба адцяніць яшчэ тое, што нашы коледжы, якія будуюцца толькі ў вялікіх гарадох, вядуць выкладаньне навук рабочым малых вёсак і гарадкоў праз пошту. У апошні год гэтакіх студэнтаў коледжы мелі каля 700.

Нашы коледжы зьяўляюцца незалежнымі організацыямі саміх рабочых. Настаўнікі ў коледжах таксама з рабочых. У дзень яны працуюць на фабрыцы, а пасьля абеду сьпяшаюцца ў коледжы, дзе выкладаюць. У большай частцы яны працуюць дарэмна і самаахвотна і толькі калі настаўнік застаецца бяз працы, то тады ён атрымлівае дзеля свайго жыцьця пэнсію.

Вы, вядома, згаджаецеся са мною, што значэньне гэтае самаахвотнае працы ў коледжы вельмі вялікае, бо таварышы самі ведаюць, што рабочыя (гэта значыць яны самі) ня маюць столькі грошай, каб плаціць усім. У Глядстонскім рабочым коледжы толькі сябры выканаўчага камітэту коледжу атрымліваюць пэнсію, бо яны зьяўляюцца й організатарамі, і адміністратарамі, і выкладчыкамі ў коледжы і гэта праца займае шмат часу.

У коледжах пасьля адпаведнай пастановы „рабочай партыі“ выкладаецца і эспэранто. У сучасны момант усе рабочыя партыі пропагандуюць неабходнасьць гэтае мовы дзеля кожнага рабочага.

У другім лісьце напішу аб жыцьці студэнтаў.

*П. Кэнэдзі.*

# Па ВНУ, Рабфаках і Тэхнікумах.

П. Круцялёў.

## Новы прыём у БДУ.

Нядаўна скончыўся новы прыём у БДУ.

Ад усіх акругаў Беларусі, з другіх рэспублік і нават з-за кардону моладзь паступала ў унівэрсытэт. Хто прыехаў па чыгунцы, каго брат ці бацька прывёз на кані, а хто і проста прышоў у Менск, каб вучыцца.

Усіх паступаючых на мэдфак і пэдфак было 727 асоб. З іх, сялян—291, рабочых—113 і саматужнікаў—37. Па нацыянальнасьці большасьць—беларусы, іх—437 асоб. Сяброў і кандыдатаў компартыі – 30, комсамольцаў—86; сяброў профсаюзаў—291.

Наша цяперашняе гаспадарчае становішча не дае яшчэ магчымасьці ўсім працоўным ехаць вучыцца. Яшчэ шмат ёсьць, як кажуць, „так сабе“. Гэтакіх падало заявы 229 асоб.

Дзеці сялян, якія летась, альбо нават 2—3 гады таму назад скончылі сярэднюю асьвету, якія працавалі пасьля таго ўвесь час на сельскай гаспадарцы, а таксама і рабочыя,—яны ня мелі часу дзеля падрыхтоўкі да экзаменаў і сядзелі і ўдзень і ўночы ў інтэрнатах студэнцтва за кніжкамі.

Беларусь з паступаючых у гэтым годзе праз некаторы час будзе мець шмат дактароў і настаўнікаў, якія атрымалі адукацыю ў сваім родным унівэрсытэце, якія ня так даўно працавалі на сельскай гаспадарцы, ці на заводе і якія будуць добра працаваць на новай працы, не шкадуючы сваёй сілы.

Як-жа сустракалі старыя студэнты новых?

З прычыны таго, што большасьць паступаючых першы раз на сваім жыцьці прыехала ў Менск з вёскі, альбо з заводу і ў іх няма тут ніякіх знаёмстваў, то старое студэнцтва рабіла дапамогу новаму.

У праўленьні ўнівэрсытэту быў адчынен справачны стол, які працаваў кожны дзень і даваў адказы і спраўкі па ўсім пытаньням паступаючых.

Ня гледзячы на тое, што ў інтэрнаты пазварочваліся старыя студэнты, шмат паступаючых памясьціліся ў гэтых інтэрнатах. Выканбюро БДУ паступаючым бяднейшым давала дарэмныя абеды ў студэнцкай сталоўцы.

Дзеля паступаючых былі адчынены двухтыднёвыя курсы па грамадазнаўству.

Наогул усё, што было магчыма, старое студэнцтва зрабіла дзеля паступаючых.

**Мік. Шапавалаў.**

# Першы выпуск.

## Пэдфак БДУ.

Усяго скончыла ў гэтым годзе Пэдагогічны Факультэт БДУ—110 асоб. З гэтае колькасьці социяльна-гістарычнае аддзяленьне дае 68 гісторыкаў-грамадазнаўцаў, этнолёга-лінгвістычнае аддзяленьне—29 спэцыялістых у галіне літаратуры, прыродаўзначае—13 асоб, галоўным чынам—выкладчыкаў.

Неабходна адзначыць, што чацьвертае з існуючых аддзяленьняў Пэдфаку—фізыка-матэматычнае, дасьць нам у наступным годзе спэцыялістых па фізыцы і матэматыцы.

Абслугоўваньне гэтымі новымі зробленымі ў Беларусі сіламі сярэдніх і ніжэйшых навуковых устаноў мае вялікае значэньне. Большасьць з сканчаючых—выхадцы з рабочых і сялян; у час прабыцьця ў ВНУ былі зьвязаны з рабоча-сялянскай масай, глыбока пранікнуты імкненьнем зрабіць дапамогу ў здавальненьні яе культурных патрэб.

Шмат з сканчаючых пасылаюцца на адпаведную кіруючую працу.

**110.**

Іх сто десяць.

Першыя ўгледзелі Беларусь і Беларусь Савецкая іх.

Аддаём даніну абавязковаму гэроізму савецкай гісторыі, бо яна стварыла гранітную будову навукі, дала магчымасьць маладым рабоча-сялянскім зубам вытрымаць яе суровы экзамен.

Сягоньня вытрымалі 110.

Перамога, а дзеля таго—сьвята.

Але сьвята ня 110.

Сьвята чатырох мільёнаў.

Яны будавалі асьветную дынама-машыну. А сто десяць—мысьлёвы элемэнт, падрыхтаваны ёю.

Наказ яму:

Электрыфікаваць мазгі чатырох мільёнаў!

А машыне—Ленінскай:

Працаваць з нагрузкай!

Дзеля таго, кон‘юнктура нізкая. Плян дзесяцёх-гадовы.

Дата—Кастрычнікавая рэволюцыя. Новы генэральны экзамэн і ста дзесяці, і чатыром мільёнам.

Памятай, машына!

Памятайце, 110!

Дата дзесяцёхгодзьдзя Кастрычнікавае Рэволюцыі напісана рукой Ільліча.

А кажа яна:

—Дынама-машына СССР!

Працуйце з нагрузкай!

Падымайце кон‘юнктуру асьветы!

Тэрмін дзесяцёхгадовы. У канцы яго няпісьменнасьць павінна стаць настолькі простай, наколькі была складанай!

Слухайце, чатыры мільёны!

Слухайце, 110!

Восьмы год, савецкі, адчыніў восьмую старонку гісторыі і напісаў:

Сягоньня вытрымалі 110.
Перамога, а дзеля таго—сьвята.
Але сьвята ня 110
Сьвята чатырох мільёнаў.
Адчыніў і зачыніў. Лік новы. Будзень зьбірае вынікі ста дзесяці.
Дынама-машыны спаўняюць наказ.
Дата 10 і нагрузка.
А 9-ы год савецкі на дзевятай старонцы гісторыі напіша: Сто дзесяць мінулага плюс нагрузка.
І сьвята будзе не чатырох мільёнаў, а менш на ікс вынікаў, сабраных будзённымі.
Вынікі—плады працы ста дзесяці.
Іх чакаюць чатыры мільёны.

**А. Манусэвіч.**

## Другі выпуск ФГН.

11-га ліпеня г/г, у пятую гадавіну вызваленьня Беларусі ад белапалякаў, адбыўся другі выпуск БДУ—190 чалавек, якія скончылі прававое й экономічнае аддзяленьні Факультэту Грамадзкіх Навук.

На ўрачыстасьці, прысьвечанай выпуску, апрача выпускнікоў, студэнцтва і профэсуры, прысутнымі былі сябры ўлады і прадстаўнікі партыйных, профэсыянальных і грамадзкіх організацый.

У сваім уступным слове рэктар БДУ, проф. У. Пічэта, даткнуўся гісторыі ўнівэрсытэту, прыпамінаючы ўсе цяжкасьці ў жыцьці яго, якія агульнымі патугамі студэнцтва й профэсуры, пры значнай дапамозе ўлады, былі зьнішчаны.

Студэнцтва й профэсура не пабаяліся йсьці ў толькі што адчыняючыся ўнівэрсытэт, адносна пэрспэктыў якога вельмі многія думалі пэсымістычна. Толькі рэволюцыйны энтузыязм рабоча-сялянскай моладзі, якая рвалася да навукі, да ведаў, і чырвонае профэсуры перамог усе перашкоды і запаліў ліхтар сьвету й культуры ў былой цёмнай і забітай сярмяжнай Беларусі.

Цяпер жыцьцё нашага ўнівэрсытэту з яго $2^1/_2$ тысячамі студэнцтва б'е крыніцаю. К яго жыцьцю з прагавітасьцю прыслухоўваецца рабоча-сялянская моладзь Заходняй Беларусі і шмат з іх, рызыкуючы жыцьцём, пераходзяць праз кардоны, каб папасьці ў абнімкі гасьцінна прымаючага іх роднага ўнівэрсытэту.

„Вялізарнае значэньне для нашае дзяржавы мае наша соцыяльна-экономічная асьвета і значны задачы, што стаяць перад выпускнікамі, якія павінны стаць працаўнікамі нашага права й гаспадаркі“—слова, якое студэнцтва пачула ад свайго дэкану, проф. С. З. Кацэнбогена.

Проф. Вальфсон, датыкаючыся выпускнікоў, паказаў на тыя посьпехі, якіх яны дасягнулі за тэрмін прабываньня ў БДУ. У выпускнікоў выпрацаваўся правільны матэрыялістычны сьветапагляд, марксыцкі падыход і ўменьне орыентавацца ў грамадзкім жыцьці, плюс тыя спэцыяльныя веды, якія неабходны ім для практычнай працы. Былі, вядома, і недахопы ў працы. Слабая матар'яльная забясьпека студэнцтва не магла не адбіцца на акадэмічных посьпехах. Перадавы студэнцкі актыў, дзякуючы перагружанасьці партыйнай і грамадзкай працай, часта адрываўся ад вучобы. Былі недахопы і ў пастаноўцы

вучэбнае справы: лякцыйная сыстэма, кепская сувязь з практычнай працай.

Тав. Чарвякоў паказаў на задачы, якія стаяць перад нашым будаўніцтвам і будучую ролю ў ім выпускнікоў.

„І па сканчэньні ВНУ вам трэба будзе яшчэ доўга, доўга вучыцца,— даваў раду тав. Адамовіч,—вучыцца ў жыцьця, вывучаць жыцьцё і працаваць на карысьць нашае рабоча-сялянскае дзяржавы“.

„Так і будзе“—было агульнае рэзюмэ студэнцтва на пажаданьні ўсіх вітаўшых.

А потым, на вечарыне, доўга раскачвала студэнцтва профэсуру і сваіх гасьцей і разышліся, каб працаваць над будаўніцтвам Савецкае Беларусі на радасьць усім працоўным.

**А. Сушкевіч.**

# Нашы вэтэрынары.

*(Беларускі Дзяржаўны Вэтэрынарны Інстытут).*

## I Утварэньне Інстытуту.

Беларуская рэспубліка—краіна сельскай гаспадаркі і жывёлаводзтва. Разьвіцьцё сельскай гаспадаркі, асабліва ў галіне жывёлагадоўлі, ня мае пад сабою грунту, калі вэтэрынарная організацыя зусім слабая як па колькасьці, так і па якасьці. Напрыклад, усяго вэтпэрсоналю маецца ў Беларусі каля 200 асоб. Гэта ў параўнаньні з лікам мэдпэрсоналю зусім невялічкая лічба і дзеля гэтага наша сялянства адчувала вострую патрэбу ў вэтэрынарах.

Гэтыя прычыны і прымусілі адчыніць у нашым краі вышэйшую вэтэрынарную школу—Вэтэрынарны Інстытут у Віцебску.

Спробы адчыненьня ў Беларусі вышэйшае вэтэрынарнае школы былі ня раз. Яшчэ перад вайною 1914—18 г. г. некаторымі грамадзкімі таварыствамі было пастаўлена пытаньне аб адчыненьні вэтшколы ў Менску ці Віцебску. Але гэтае пытаньне скончылася поўнай няўдачай. Царскі ўрад не захацеў адчыненьня, бо баяўся, каб вышэйшыя школы на акраінах ня былі прычынай яго пагібелі.

Наступіў 1917 год. Царызм—гэтая гнілая балячка на целе народу— прарваўся і распачалося вялікае новае будаўніцтва. Расія, якая была турмою для народу, стала інакшай.

І вось зноў ставіцца пытаньне аб адчыненьні вэтэрынарнае вышэйшае навуковае ўстановы, якое ў 1924 годзе канчаткова ажыцьцяўляецца: пастановай Наркамзему і Саўнаркому вырашана адчыніць Вэтэрынарны Інстытут у гор. Віцебску.

Месца адчыненьня Інстытуту было не выпадковае, бо Віцебск лічыцца вэтэрынарнай базай: тут ёсьць і Вэтмузэй, Вэт-Бактэрыолёгічны Інстытут, будынак вэтсанасьветы.

На першых часох справы маладое ВНУ былі кепскія, нічога ня было, трэба было даставаць усё ад самага малога да вялікага. Але дзякуючы Наркамзему, розным грамадзкім організацыям і самому студэнцтву Вэтінстытут стаў на прамы шырокі шлях.

### II. Як жыве студэнцтва Інстытуту.

Усіх студэнтаў у інстытут было прынята 110 асоб, з якіх сялян—70%, іншых—30%; беларусаў—91, вялікарусаў—10, жыдоў—7, палякаў—2; мужчын—102, жанчын—8. Партыйны склад такі: сяброў КПБ—1; сяброў ЛКСМБ—26; іншых—83.

Было абабрана выканаўчае бюро (пасьля выканбюро па злучэньні профсэкцый было рэорганізавана ў профком), якое разам з ячэйкай ЛКСМБ распачалі сыстэматычную працу як па організацыі студэнцтва, так і культасьветную. Была выдадзена насьценная газэта „Рупар“. Таксама былі організаваны розныя гурткі, як: корэспондэнцкі, прыхільнікаў газэты, беларусазнаўства, краязнаўства, антырэлігійны, паляўнічы, фізкультуры і іншыя. Праца ў гурткох спачатку вялася кепска, але потым мала-па-малу ўсталявалася.

Вясной 1925 году, дзеля палепшаньня свае газэты, корэспондэнцкі гурток наладзіў суд над насьценгазэтай. Гэты суд зацікавіў усё студэнцтва Віцебску і меў значны ўплыў на далейшую працу газэты.

Пры інстытуце маецца свая чытальня, куды выпісваюцца часопісі і газэты як мясцовыя, так і цэнтральныя. Апрача гэтага, вэтінстытут шэфствуе над адным сельсаветам, куды шэфграмадой ня раз рабіліся паездкі, чыталіся даклады, вяліся гутаркі, пасылалася літаратура.

Профэсыянальная праца таксама вядзецца. Цяпер усе профсэкцыі злучаны ў адну—„Мэдсанпрацы“.

Матар'яльны бок жыцьця студэнцтва на першых часох быў зусім цяжкі: ня было ніякага будынку пад інтэрнат. Цяпер жа ўсё гэта часткай ліквідавана, маецца і інтэрнат на 70 асоб, маецца свая сталоўка. Каса ўзаемадапамогі рабіла розныя спробы дзеля папаўненьня сваіх сродкаў, каб дапамагчы больш патрабуючым; працартэль пасылала на розныя працы найбольш бедных студэнтаў.

У гэтым годзе становішча, спадзяемся, яшчэ палепшыцца.

У акадэмічным напрамку справа таксама паляпшаецца. Часткова ўведзен Дальтон-плян, лік профэсароў павялічваецца, папаўняецца навуковая бібліотэка.

Пры інстытуце вясной 1925 году існавалі курсы дзеля падрыхтоўкі вэтфэльчароў.

У заключнасьць можна сказаць, што, ня гледзячы ні на якія цяжкія ўмовы, якія былі, Вэтэрынарны Інстытут вышаў на новы, сьветлы шлях савецкага будаўніцтва і можна сьмела сказаць, што ён выпусьціць добрых абаронцаў сялянскае гаспадаркі.

Надыходзіць гадавіна існаваньня інстытуту; тады мы больш пагаворым аб дасягненьнях нашае адзінае вэтэрынарнае вышэйшае навуковае ўстановы ў розных яе галінах.

Д-скі.

## Як жыве і працуе беларускае зямляцтва ў Варонежы.

Наша зямляцтва заснавалася ў лістападзе 1924 году пры сельскагаспадарчым інстытуце. У Варонескім унівэрсытэце зямляцтва пачало організоўвацца амаль-што ў канцы мінулага акадэмічнага году і яшчэ канчаткова не збудавалася.

Сяброў зямляцтва па с.-г. інстытуту налічваецца ўсяго 31. З іх па факультэтам: агрономічны—15 асоб, землябудаўнічы—11, лясны—5; па курсам: першы—14, другі—3 і трэці—14; па соцыяльнаму становішчу; сялян—23 асобы, рабочых—4, служачых—2 і іншых—2; па нацыянальнасьці: беларусаў—28 асоб, жыдоў—2 і палякаў—1; сяброў профсаюзаў—26 асоб; па партыйнасьці: сяброў і канд. РКП—2 асобы, сяброў і канд. РЛКСМ—4, беспартыйных—25.

20 сяброў зямляцтва працуюць у грамадзкіх організацыях, галоўным чынам у шэфгрoмадзе. Атрымліваюць стыпэндыі 13 асоб; усе сябры зямляцтва жывуць у інтэрнаце пры с.-г. інстытуце.

У Варонескім унівэрсытэце (б. Юр'еўскі-Дэрптскі) разам на абодвых факультэтах: пэдагогічным і мэдычным маецца 54 асобы з Беларусі. З іх беларусаў—35 асоб, жыдоў—18 і палякаў—1. Але па прычыне адсутнасьці сувязі з с.-г. інстытутам, які знаходзіцца ў 5 кілём. ад гораду, і па прычыне сканчэньня навуковага году зямляцтва пры ўнівэрсытэце яшчэ не аформілася. Гэта—задача новага году.

За мінулы акадэмічны год уся праца зямляцтва круцілася навокал трох момантаў: адшуканьня сродкаў, беларусізацыі і організацыйных спраў.

Адшуканьне сродкаў зьяўлялася аднэй з найгалоўных задач зямляцтва. Дзеля гэтага ў час зімовых вакацый было організавана зьбіраньне сродкаў на бацькаўшчыне, але гэта па некаторым прычынам не ўдалося.

Дзеля вывучэньня беларускае мовы ў маі гэтага году зямляцтва атрымала з Менску некалькі розных кніжак па беларусазнаўству, як: „Беларусь"—выд. ЦВК БССР; „Гісторыя Беларусі"—У. Ігнатоўскага; аб літаратуры—Гарэцкага і інш. Яшчэ раней пачалі прыходзіць беларускія газэты і часопісі, як: „Савецкая Беларусь", „Бел. Вёска", „Асьвета" і інш. Гэта зацікавіла сяброў зямляцтва. Была зроблена падпіска на „Чырвоны Сьцяг", якая дала пакуль-што 6 падпішчыкаў.

Па прычыне сканчэньня навуковага году організаваць гурток беларусазнаўства было немагчыма, ня гледзячы на пастанову агульнага сходу, і літаратура разьмяркована сярод сяброў дзеля індывідуальнай прапрацоўкі.

Што-ж датычыцца да пляну працы зямляцтва на новы год, то зямляцтва думае зрабіць наступнае: аформіць і скончыць організацыю зямляцтва пры ўнівэрсытэце; організаваць гурткі беларусазнаўства і беларускае мовы; пашырыць працу па адшуканьню сродкаў шляхам утварэньня суботнікаў, мастацкіх пастановак, грамадзкіх і навуковых лекцый пры дапамозе профэсуры і г. д. і павялічыць падпіску на сваю часопісь „Чырвоны Сьцяг".

Спадзяемся, што плян гэты будзе добра выкананы.

**Нускультар і Балсунскі.**

# Праца Гомельскага зямляцтва.

У 1923 годзе ў Белбюро пролетстудэнцтва было пастаўлена пытаньне аб тым, каб організаваць Гомельскае зямляцтва і аб'яднаць у адно цэлае 100 чалавек гамяльчан, якія былі раскінуты па ўсім ВНУ Менску.

Апрача гэтага, была і другая мэта, гэта атрыманьне сродкаў у Гомельскім Губвыканкоме, якія былі вельмі патрэбны для студэнцтва, асабліва ў 23 годзе, калі жылося куды горш, чым цяпер. З усімі гэтымі матывамі Белбюро згодзілася і зямляцтва было заснована. Было абрана бюро зямляцтва, якому трэба было завязаць сувязь з Гомельскімі ўстановамі.

Гэта было зроблена.

На першых часох зямляцтва ад Гомеля атрымлівала 75 рублёў, якія раздаваліся больш бедным таварышом, як стыпэндыі, а таксама пры бюро быў зроблен невялічкі фонд дзеля дапамогі сябром зямляцтва ў няшчасных здарэньнях.

Іншай працы ў 23-24 акадэмічным годзе зямляцтва не вяло.

У другой палове 24 году, калі, дзякуючы новаму прыёму ў ВНУ, гомельскае зямляцтва пашырылася: замест ранейшых 100 чалавек стала—150, трэба было паставіць пытаньне аб ажыцьцяўленьні працы зямляцтва і аб адшуканьні больш сродкаў.

Дзеля ажыцьцяўленьня апошняга, быў накірован ліст у Гомельскі Выканком, вынікам чаго зьявілася тое, што Гомельская стыпэндыяльная камісія замест 75 рублёў, пачала адпускаць 150 руб.

Гэта была вялікая пабеда ў працы зямляцтва наогул і бюро ў прыватнасьці.

Сродкі гэтыя скарыстоўваліся такім чынам:

Стыпэндыі, як гэта было раней, даваць ня было карысьці, затым, што лік дзяржаўных стыпэндыятаў быў здавальняючы. Дзеля гэтага зямляцтва гэтыя грошы раздавала як дадатак к стыпэндыям (дзяржаўным), а таксама быў учынены фонд дзеля патрэб шэфства і аднучасовай дапамогі. Прынцып даваньня дадатку быў такі: у першую чаргу давалі тым, якія вядуць якую-небудзь грамадзкую працу, ці вялі раней, быўшым чырвонаармейцам, а потым іншым таварышом, больш бедным.

Усяго з сродкаў зямляцтва заўсёды карыстаюцца 30 сяброў; апрача гэтага, даецца яшчэ і аднучасовая дапамога.

### Праца ў гушчах.

У мінулым акадэмічным годзе было пастаўлена пытаньне аб неабходнасьці ўзяць шэфства над аднэй з мясцовасьцяй Гомельшчыны.

Пасьля перамаўленьняў з Гомельскімі ўстановамі, для шэфства была дадзена школа Сялянскай Моладзі ў вёсцы Ярэміна, якая знаходзіцца ў 8-мі вярстах ад Гомеля.

Чым мы дапамаглі нашым падшэфнікам?

Першае—быў накіраваны ад нас адзін таварыш для азнаямленьня з становішчам школы.

Другое—абсталявалі Ленінскі куток, паслалі шмат літаратуры па юнацкаму руху, сельскай гаспадарцы і наогул па грамадзкім пытаньням.

У час зімовых вакацый быў пастаўлен нашымі таварышамі ў вёсцы спэктакль, вяліся гутаркі па сельска-гаспадарчым і іншым пытаньням. Зацікаўленасьць з боку сялянства была вялікая.

Усе казалі:—вось гэта дык шэф.

Былі праведзены студэнткамі сходы жанчын вёскі з растлумачаньнем жаночага становішча ў сучасны момант. Сувязь маем пры дапамозе пасылкі лістоў.

### Унутры-выхаваўчая праца.

Агульныя сходкі сяброў зямляцтва адбываюцца кожны месяц, пытаньні на іх ставяцца больш практычнага характару. Пасяджэньні бюро бываюць кожны тыдзень, на якіх прысутнічае заўсёды каля 10-15 сяброў, што дае магчымасьць бюро працаваць з большай вытворчасьцю.

Пры зямляцтве існуе навуковы гурток па вывучэньню этнографічнага, эканамічнага і бытавога становішча Гомельшчыны. На занятках гуртка, сябрамі якога састаіць каля половы ўсіх сяброў зямляцтва, ставяцца пытаньні ў вышэйазначаным напрамку.

Праца зямляцтва стаіць на правільным шляху, добра кіруецца ЦБПС пры ЦСПСБ, а загэтым з кожным момантам будзе пашырацца і мацнець.

---

# КРЫТЫКА І БІБЛІОГРАФІЯ.

Зьм. Сьнежка.

## Толькі па „сутнасьці“.

*(Адказ Дукору. Гл. „Профрух“ № 10).*

Разьмеры журнальнай рэцэнзіі не дазволілі мне больш падрабязкова спыніцца на творчасьці літстудыі імя „Профінтэрну“ (расійскае філіі „Маладняка“). Ды гэтых мэтаў я сабе і ня ставіў, калі пісаў рэцэнзію на часопісь „Профрух“. Было-б вельмі сьмешна, каб у рэцэнзіі на часопісь давалася крытыка і разгляд творчасьці літстудыі (а гэтага, відаць, вельмі хоча тав. Дукор) у той час, калі „Літаратурная старонка“ займае ўсяго $^1/_{32}$ частку ўсяго зьместу часопісі.

Аб творчасьці расійскае філіі „Маладняка“ пагаворым у другі раз, а цяпер—аб некалькіх недарэчнасьцях і „некомпетентностях“.

Тав. Дукор адкрэшчваецца абедзьвюма рукамі і ад „Леф‘а“ і ад Ясеніна. „Паровоз“—гэта ня „Леф“ і г. д; а скажэце, калі ласка, тав. Дукор, ваш верш „Литстудийцам“ ці ня „Леф“? а некаторыя вершы Пілітовіча? а апошняе

„...Я сам+завод+Гастев=
под‘ему+корпусов овации...“

зусім як „...$\sqrt{\text{РКП}}$ и+и—“...у Маякоўскага.

„На літстудыі відзён уплыў Ясеніна і Маякоўскага“—ад гэтага ніяк не адхрысьцісься. Вось што пішуць самі літстудыйцы: „Из русских поэтов люблю *больше* всех Маяковского и Есенина“ (Пілітовіч), а потым: „Начал писать под влиянием Маяковского... любимыми остаются В. Маяковский, Н. Асеев и С. Есенин“ (Гольдштэйн).

Гэтак-жа піша Садоўскі, гэтак-жа адкажуць амаль-што ўсе, бо яны ўсе вырасьлі на творчасьці Маякоўскага і Ясеніна. „Маладняк“—гэта сіла, якой сёньня яшчэ дзевятнаццаць год! (у 24 годзе было 18—„Комсамольская Нота“). Вось чаму і *„вершы слабыя, але з новымі сваімі настроямі, з сваім асабістым жыцьцёвым пульсам“*. „Гарланяць“, бо яшчэ толькі пачынаюць складацца. І „Паровоз“, і „Май—Москва“, і „Токарка“—гэта толькі яшчэ шуканьне свайго, сваіх зьместу, формы. Гэта ня творы ўжо склаўшыхся пісьменьнікаў, якім прад‘яўляюць зусім іншыя патрабаваньні.

Літстудыя клюбу імя „Профінтэрну“—гэта маладняк, які яшчэ толькі ўчора ўзышоў на літаратурны шлях. Ужо цяпер у гэтага маладняка ёсьць дасягненьні, ужо літстудыя выгадавала сваіх здольных пісьменьнікаў. Цьвёрда, сямімільнымі крокам гэты маладняк ідзе наперад; за ім—будучына! І „Паровоз„, і „Мима“,іі „Кожанка“—усё гэта шлях да яе.

**Т. Сапуноў.**

**А. М. Большаков и Н. А. Рожков.** „Хрестоматия по истории хозяйства России“. Вып. I, 248 стар., вып. II 289 стар. Ленінград, ДВ, 1925 г.

У наш час, калі агульна-пэдагогічныя колы ўпарта імкнуцца знайсьці тую ці іншую магчымасьць перабудовы нашае школы ў напрамку прыстасаваньня яе да патрабаваньняў сучаснасьці, пытаньне аб мэтодах выкладаньня ў школе зьяўляецца пытаньнем першараднай важнасьці. Знайсьці мэтоды выкладаньня ў школе з мэтай падняць актыўнасьць і творчую самадзейнасьць вучняў—вось тая проблема, якая ў сучасны момант цікавіць запраўднага пэдагога. У выніку доўгае, цяжкае, маруднае і, часам, пакутнае працы пэдагогічная думка ўсё больш і больш пачынае схіляцца к Дальтон-пляну, дасьледчаму, экскурсыйнаму мэтодам і інш., так неабходным пры правядзеньні комплекснай альбо корэляцыйнай сыстэмы.

Пры такой пастаноўцы пытаньня нельга не адзначыць, што вырашэньне толькі што пастаўленай задачы шмат і шмат залежыць ад таго матар'ялу выкладаньня, які маецца ў школе. Калі ў школе маецца добрая кніга, то творчая дзейнасьць пэдагога палягчаецца і робіцца больш карыснай. У якасьці аднае з гэтакіх кніжак можа быць хрэстаматыя па гісторыі гаспадаркі Расіі А. М. Бальшакова і Н. А. Ражкова.

Гэта хрэстаматыя складаецца з двух выпускаў звычайнага кніжнага формату і па аб'ему даволі вялікая, калі будзем мець на ўвазе вучняў рабфакаў, школ II стопені і старэйшых груп сямёхгодак. Першы выпуск хрэстаматыі заключае ў сабе 248 стар. з дадаткам шасьцёх гістарычных картаў і абхватвае тры пэрыоды гісторыі гаспадаркі Расіі: першы пэрыод—сямейна-родавая і пляменная гаспадарка з VI па X стагодзьдзе ўключна; другі пэрыод—з XI па XV стаг. ўключна—пэрыод пераходу к фэодальнай гаспадарцы і поўнага панаваньня гэтае фэодальнае гаспадаркі і, у канцы, трэці пэрыод—XVI і XVII стаг. стаг. гэта—пачатак пераходу к гандлёваму капіталізму.

Другі выпуск па аб'ёму крыху шырэй першага. У ім 289 стар. з дадаткам пяцёх гістарычных картаў. Ён абхватвае два пэрыоды: пэрыод гандлёвага капіталізму—XVIII і першую палову XIX стаг. і пэрыод вытворчага (сельска-гаспадарчага і прамысловага) капіталізму—другую палову XIX стаг. (з часоў сялянскае рэформы 19/II—1861 г.) і першыя гады XX стаг. да 1905 году.

Хрэстаматыя зложана пераважна па першакрыніцам. У яе ўвайшлі адрыўкі: з расійскіх летапісаў (1-ае стаг.), з апавяданьняў чужаземцаў-падарожнікаў, якія былі ў Расіі і, у канцы, з навукова-дасьледчых артыкулаў апісваючага характару (апошнія дзьве групы адрыўкаў пераважна II стаг.).

Да кожнага выпуску аўторы дадалі па некалькі ўводных артыкулаў. Да першага: а) уводныя ўвагі, б) Расія і Усходняя галіна славян у далёкім мінулым і в) фізыка-географічнае асяродзьдзе. У гэтым артыкуле асабліва яскрава й выдатна выяўлена залежнасьць народна-гаспадарчага жыцьця ад географічнага фактору. Да другога выпуску аўторы дадалі толькі адзін уводны артыкул—„уводныя ўвагі“. У канцы „уводных увагаў“ як першага выпуску, так і другога, паказана галоўная літаратура па гісторыі гаспадаркі Расіі.

Пытаньне, дзеля каго рыхтавалі аўторы хрэстаматыю па гісторыі гаспадаркі Расіі. „Выдаваемая хрэстаматыя,—кажуць яны ў разьдзеле ад

складальнікаў,—рыхтавалася дзеля вучняў другое стопені Адзінай Працоўнай Школы, дзеля рабфакаў, часткова дзеля студэнтаў ВНУ, калі яны пачынаюць свае заняткі па экономічнай гісторыі Расіі і, у канцы, дзеля самаадукацыі". З гэтым прызначэньнем хрэстаматыі цалкам можна згодзіцца, але к гэтаму можна яшчэ дадаць, што для Беларусі і Украіны, дзе ў сыстэме народнае асьветы замест школаў II стопені маюцца сямёхгодкі, хрэстаматыя Бальшакова і Ражкова можа быць скарыстана ў старэйшых групах сямёхгодак.

Аб ужываньні хрэстаматы ў ВНУ я ня буду спыняцца. Што-ж датычыцца рабфакаў, школаў II ст. і, асабліва, старэйшых групаў сямёхгодак, то тут трэба адзначыць, што хрэстаматыя, дзякуючы яе даволі значнаму аб'ёму, ня можа быць уся поўнасьцю прапрацована ў школе і дзеля гэтага мэтазгоднае скарыстаньне яе ў школе будзе залежаць ад самога настаўніка, выкладчыка. Выходзячы з гэтакіх меркаваньняў, будзе ня лішнім тут адзначыць, што кожны выкладчык раней, чым прыступіць к прапрацоўцы матар'ялу, павінен сам даволі асноўна азнаёміцца з кнігай і потым ужо, устанавіўшы галоўныя аддзелы і адрыўкі ў кожным аддзеле, неабходныя дзеля праходжаньня ў школе, прыступіць да працы.

Хрэстаматыя можа быць вельмі добра скарыстана ў клясах-лябораторыях. Калі матар'ял будзе прапрацован вучнямі згодна патрабаваньням Дальтон-пляну, г. зн. пры поўнай актыўнасьці і творчай самадзейнасьці самых вучняў, то вынікі працы будуць самыя станоўчыя.

Недахопаў у хрэстаматыі вельмі мала, але ўсё такі. як мне здаецца, яны ёсьць. Як на недахоп, я пакажу на наступнае. Ва ўводных увагах II выпуску даецца вельмі мала вестак з політэкономіі, у якасьці неабходных прадпасылак к прапрацоўцы матар'ялу. Уводныя ўвагі першага выпуску зусім здавальняюць гэтаму патрабаваньню. Там ставіцца цэлы шэраг пытаньняў, сутнасьць якіх вельмі добра выяўлена, і вучням лягчэй усяго будзе орыентавацца ў сырым матар'яле хрэстаматыі. Аўторы і самі, зьмяшчаючы ў I выпуску „ўводныя ўвагі", мелі гэта на ўвазе. „Неабходна, звярачаючыся да крыніц,—пішуць яны на 5 стар. артыкулу ўводных увагаў,—дабыць з іх адказы на шэраг пытаньняў, якія ўваходзяць у зьмест гаспадарчае гісторыі. Спынімся больш падрабязкова на гэтых аддзельных пытаньнях". Ї далей ідзе цэлы шэраг пытаньняў гаспадарчае дзейнасьці чалавека.

Між тым, ва „ўводных увагах" II выпуску такіх вестак даецца не здавальняючая колькасьць, а гэта трэба было-б зрабіць. Тут ня лішнімі былі-б больш падрабязковыя весткі аб рэнце, крызісу, концэнтрацыі капіталу і г. д. яшчэ і дзеля таго, што кніга таксама прызначалася й дзеля самаадукацыі.

Наадварот, другі ўводны артыкул—„Расія і Ўсходняя галіна славян у далёкім мінулым"—можна было-б скараціць, бо яна, думаецца мне, вельмі вялікая і за яе месца пашырыць „уводныя ўвагі" II выпуску.

Ї, у канцы, у якасьці яшчэ аднаго недахопу, пакажу на наступнае. Аўторы стараюцца ўва ўсіх сваіх уводных артыкулах да хрэстаматыі даць тлумачэньні незразумелым словам, але гэта ня было давэдзена да канца. Так, не дадзена ніякіх тлумачэньняў такім чужаземным словам, як орнамэнт, інкрустацыя, саркофаг, дамба і інш. Некаторыя могуць быць зразумелы па сэнсу, але некаторыя патрабуюць асобнага тлумачэньня.

Д. С.

**Э. Дрезен**. „В поисках всеобщего языка“. Изд. „Земля и Фабрика“. Москва. 1925. 124 стар. Цана 80 кап. З прадмовай т. Неўскага.

Сучаснае жыцьцё высоўвае пытаньне аб неабходнасьці міжнароднае мовы. Ня так даўно ў СССР даведваліся дэлегацыі рабочых розных краін. ВЦСПС паслаў сваю дэлегацыю ў Кітай. Па шляху пералёту Масква—Токіо расьсеяліся японцы.

Такіх фактаў шмат і патрэбнасьць у мове вялікая. Ня прымусіш рабочага вывучыць некалькі моваў. А перакладчыкі не заўсёды бываюць добрыя (гл. арт. Калініна „В Средней Азии“ „Изв. ЦИК СССР“ ад 7/III—25 г. № 55).

Вось і кніжка Э. Дрэзена ахвярована гэтаму пытаньню. Кніжка складаецца з двух частак. У першай матарыялістычна абасноўваецца пытаньне аб міжнароднай мове, у другой даецца кароткі нарыс спроб утварэньня міжнароднае мовы.

Як жа тав. Дрэзен падыходзіць да гэтага пытаньня? Мова, як кажа Дрэзен, „гэта комбінацыя гукаў і іх злучэньняў, выгуканых да жыцьця колектыўнай працоўнай абстаноўкай; гэта азначаная тэхнічная прылада дзеля дасягненьня некаторых колектыўных вытворчых мэтаў... досьлед колективу азначае мову, як нейкае організацыйнае прыстасаваньне да гэтых умоў“. Разьвіваецца мова па традыцыі, традыцыя і зьяўляецца рэгулятарам мовы. У сучасны момант налічваецца да 800 розных моваў і да 5000 падмоваў. Навука кажа, што ўсе яны ўтварыліся з аднаго кораню, а значыць, нашы народы мелі продкаў, якія жылі адным працоўным бытам у аднолькавых абставінах. Утварэньне адзінай колектыўнай усясьветнай сыстэмы вядзе да адзінага быту, а значыць і да зьнішчэньня 800 моваў.

Натуральнае разьвіцьцё ў выніку дало шмат „ідыётызмаў“, няточнасьцяй у натуральных мовах.

Рэгулюецца натуральнае разьвіцьцё мовы пісьменствам, граматыкай. Гэта сьведчыць, што мова—прылада, яе можна заўсёды паляпшаць.

„Штучная мова—гэта паравоз, аўтомабіль, які абслугоўвае нашы патрабаваньні ва ўмовах, азначаемых дзеля яго намі-ж. Для паравоза і аўтамабіля гэтымі ўмовамі зьяўляюцца рэльсы, саша; для штучнае мовы тыя формы яе будовы, якія абумоўліваюцца стаячымі перад ёю заданьнямі: абслугоўваць два, тры ці большую колькасьць колектываў, альбо, быць можа, увесь сьвет“.

Патрэбнасьць у міжнароднай мове ёсьць, аб гэтым сьведчаць факты. Гэтай мовай можа быць штучна зробленая мова, бо толькі тады можна будзе прад'яўляць ёй розныя патрабаваньні: лёгкасьць, лёгічнасьць, усеабхватнасьць. Дрэзен фактамі й іх абаснаваньнем даказвае нягоднасьць натуральных моваў і мовы лацінскае да ролі міжнароднае.

У кніжцы даецца нарыс гісторыі руху за ўтварэньне штучнае мовы. Добра разгледжаны ўсе проэкты апошніх гадоў. Дадзена добрая характарыстыка лепшага з проэктаў міжнароднае мовы, які ўжо цяпер і зьяўляецца ажыцьцяўлёным—гэта мова Эспэранто. Да кніжкі прыложана табліца граматычных канчаткаў галоўных проэктаў штучных моваў.

Дрэзен—НОП-авец і да пытаньня міжнароднае мовы ён таксама падышоў з боку „часу, сыстэмы, энэргіі“.

Кніжка выдана добра, з ілюстрацыямі. Трэба пажадаць, каб яна мела значнае кола чытачоў.

**Зьм. С.**

**Сергей Есенин.** „Березовый ситец“. Дзярж. Выд., 99 стар. 1925. М.

У гэтай кніжцы Ясенін сабраў усю лірыку першага пэрыоду сваёй творчасьці. У гэтым сшытку лепшае лірычнае, але ў ім Ясенін—згублены жыцьцём, бязвольны, з журбою ў сваіх вершах. Гэтую журбу ён прынёс з вёскі і з ёю згубіўся ў горадзе.

— „Звериных стихов моих грусть
Я кормил резедой и мятой“.

Клясавая барацьба, грамадзянскія войны—усё гэта прайшло неяк паўз Ясеніна, не зачапіўшы яго лірыкі. Ён згубіў свае канцы ў вёсцы, а ў горадзе яго сустрэў „кабак“.

— „Все встречаю, все приемлю,
Рад и счастлив душу вынуть.
Я пришел на эту землю,
Что б скорей ее покинуть“.

—вось што пяяў Ясенін у той час, калі ішла барацьба, калі грымеў астатні бой працы з капіталам. Тады Ясенін „маліўся“, пяяў вельмі лірычныя прыгожыя псальмы-вершы, і ўсе вершы яго мелі „молитвенный“ настрой. „Ивы—кроткие монашки“, „схимник—ветер“, „с златой тучки глядит Саваоф“, „дождь молитвой стучит по стеклу“, „стая на крыше служит вечерню“ і г. д. і г. д., і сам ён:

— „И часто я, в вечерней мгле,
Под звон надломленной осоки
*Молюсь* дымящейся земле
О невозвратных и далеких“.

А потым—„Я молюсь на алы зори“, і сам ён—„захожий богомолец“.

Заблытаўся ў адным вобразе—„малітва“ ды пад журбова маліцьвены настрой і пачаў пісаць маліцьвеныя вершы. А потым захапіла яго віхура „хулиганства“, басяцтва, і ён з карчмы ўжо крычыць:

— „Не молиться тебе, а лаяться
Научил ты меня, господь.“

Гэтыя словы—вынік яго басяцтва.

— „Плюйся, ветер, охапками листьев;
Я такой-же, как ты, хулиган“.

„Хулиган“ новы, з журбою, з містыкай, такі, што часам сам сабе кажа:

— „Скучно мне с тобой, Сергей Есенин,
подымать глаза“.

Лірычнае басяцтва—„беспокойная дерзкая сила“, праліласяя „когда простыла этих дней кипятковая вязь“; а іначай—

„не был бы я поэтом,
то наверно был мошенник и вор!“

Ясенін „березового ситца“—ня наш Ясенін. Ён нам не патрэбен.

— „Не жалею, не зову, ня плачу,
Все пройдет, как с белых яблонь дым“...

Усё прайшло. Ясенін зьвярнуўся да нас, зьвярнуўся ўжо іншым, Ясеніным—„Страны Советской“, Ясеніным—„26-ці“.

Вось чаму толькі дзяржвыдавецтву патрабавалася выдаць, ды яшчэ ў вельмі прыгожай кніжцы маліцьвеныя псальмы містычнага поэты-басяка?

**З. Б.**

**„Красный Студент“** ежемесячный литературный, общественно-политический и научно-популярный журнал. № 5 (28). Изд-ва „Прибой“, Ленинград 1925. Май.

„Красный Студент“ першая студэнцкая часопісь у СССР, у якой маецца значная колькасьць студкораў. Часопісь можна сьмела назваць масавай, бо ў ёй студэнцкія масы відны на кожнай старонцы.

Пераходзячы да зьместу, трэба азначыць афіцыйнасьць у першым артыкульным аддзеле. Першы артыкул Яраслаўскага аб тым, „Как студенчеству изучать Ленинизм“. Тав. Яраслаўскі кажа:

> „Изучить Ленинизм это значит не только сидеть за книжкой Ленина, а это значит в тоже самое время делать то дело, которое делал Ленин.
>
> Изучение Ленинизма является вернейшим компасом в том лабиринте сложных взаимоотношений, в которых борется за коммунизм наша РКП и весь мировой пролетариат“.

Студэнцтва, як новая інтэлігенцыя, новая культурная сіла, павінна ведаць Ленінізм, і артыкул Яраслаўскага—кіруючы артыкул пры вывучэньні яго.

„Даеш чырвонага агронома“—неяк афіцыйна, суха.

Аддзел „Подведем итоги нашей работы“—гэта падрахунак гадовае працы, гэта досьлед дзеля новага году. Тут і жыцьцёвасьць лябараторнага мэтоду, і горкія вынікі студкораўскае працы і г. д.

Зусім неяк не адпавядае агульнаму напрамку часопісі частка раману (!) „Пятая любовь“—„Политсекретарь“. Займае шмат месца, а карысьці няма. Бытавыя малюнкі з яскравасьцю, з асабістым жыцьцёвым пульсам—гэта лепшае ў часопісі.

Ёсьць аддзел „НОТ“. Тут ёсьць і моцныя фразы: „нот—это звучит гордо“ і „методика Ц. И. Т. в Вуз‘е“.

Аддзел „Осиновый кол в старую школу“ высьвятляе стары быт у ВНУ і шлях к барацьбе з ім.

У „Нашей Трибуне“ тав. Чорных зачапіў вельмі цікавае пытаньне аб неабходнасьці новага закону дзеля скончыўшых ВНУ. Ён прыводзіць лічбы з якіх відно, што амаль-што 90% скончыўшых ВНУ застаецца ў горадзе. „Тварам да вёскі“—„Студэнтаў ВНУ ў вёску“—гэты закон патрэбен.

Добра высьветлена летняя практыка студэнтаў. Аб гэтым ёсьць шмат артыкулаў з розных ВНУ Ленінграду. Ёсьць і вайсковы куток, і артыкул, высьвятляючы працы працартэлі.

Слабы аддзел „за рубежом“. Яго трэба было-б паставіць шырэй, завязаўшы сувязь з студэнтамі Захаду.

Шмат месца займае справачны аддзел аб ленінградзкіх ВНУ. Гэты аддзел выдадзены спэцыяльна дзеля паступаючых у ВНУ. Там жа артыкул аб тым, дзе атрымаць працу.

Выданьне добрае. Друк ясны. Форма да зьместу вельмі падыходзіць.

**З. Сьнежка.**

**„Прафэсыянальны Рух“** орган ЦСПСБ. №№ 6—15, Менск 1925.

Ужо 15 нумароў, але вельмі цяжка сказаць, па якому шляху пайшоў „Прафрух“. Ня відно зусім, чым кончылася анкета, якая праводзілася рэдакцыяй, якія вынікі яна мела для часопісі. Праўда, зьмест крыху па-

лепшаў, зьмяніліся загалоўкі... але зноў артыкулы для профактыву, а корэспондэнцыі з месц для профмас. Гэта зачараванае кола, з якога яшчэ невядома, калі выдзе часопісь.

Усё яшчэ ня відно жыцьця нашых провінцыяльных мястэчак. Колькасьць рабкораў расьце. Амаль што ў кожным нумары прымае ўдзел 40—50 рабкораў. Гэта значныя посьпехі часопісі.

Разьмеркаваньня на сталыя аддзелы няма. У кожным нумары гэтае разьмеркаваньне робіцца па свойму. Але гэта робіць часопісь больш каштоўнай для чытачоў.

Добра пастаўлены аддзелы „Культпраца" і Пытаньні оргпрацы".

Аддзелы „На барацьбу з беспрацоўем", „Ахова здароўя і працы рабочых",—„Тарыфна-экономічная праца" і іншыя ўсё яшчэ малыя дый уся часопісь неяк малая для профсаюзаў Беларусі„

Высьвятляецца і жыцьцё навуковых працаўнікоў.

Аддзелы: „Сярод жанчын", „Нам пішуць", „Тварам да вёскі" яшчэ слабыя, іх не ўва ўсякім нумары знойдзеш.

Літаратурная старонка паляпшаецца. Відно, як шпарка расьце „Маладняк". Іншыя ўжо перагібаюць палку, даходзяць да „заумничания", (Пілітовіч), а то зусім пішуць вершы не для рабочых („Мозги с сиренью пополам"). Ёсьць і вельмі добрыя, як „Прокламация" Дукора, „Москва" Гольдштэйна і інш. Невядома толькі, чаму шмат месца займаюць кускі поэмы „1905-ый год". У апошніх нумарох вершы слабей.

Гутаркі па вывучэньню беларускае мовы не дасягаюць мэты. Расьцягнуліся вельмі, а за гэтым іх ніхто ня чытае. Лепей было-б выдаць іх разам з слоўнікам для профпрацаўніка дадаткам да часопісі, гэта дало-б больш карысьці.

Жывыя і насьценныя газэты ў № 15—дзе зьмешчаны абгляды насьценных газэт клюбу мэдпрацаўнік, белдзяржгандлю і інш, вельмі патрэбен і жыцьцёвы, бо ўжо ажываюць нашыя насьценныя газэты пасьля лета.

Увядзеньне новага аддзелу „Міжнародная старонка" з лістамі з іншых краін—гэта вельмі патрэбны пачатак. Гэта будзе даваць рабочым малюнкі жыцьця замежных братоў

Вось офіцыйны аддзел крыху сухі. Яго трэба было-б зьмяшчаць як мага радчэй і то толькі з такімі абежнікамі, як „Больш увагі да лістоў рабкораў".

Трэба яшчэ адзначыць, што часопісь на 98% выходзіць на расійскай мове. Трэба больш прыблізіць яе да мас, зьмяшчаючы больш артыкулаў на нацыянальных мовах.

„Прафрух" яшчэ на ростані. Свайго шляху ня мае.

Выгляд і выданьне вельмі добрыя. Шмат фотокартак, добры друк.

**С. Д.**

**„Малады Араты"**—часопісь сялянскае моладзі, орган ЦК ЛКСМБ, № 8—11.

„Маладых Араты"—часопісь вясковае моладзі, часопісь для вясковае моладзі. Але „тварам да вёскі" „Маладых Араты" ўсё яшчэ не зьвярнуўся. Вясковай моладзі яшчэ ня відно ў часопісі. Беларусь у большай сваёй частцы сялянская, вясковая, а ў „Маладым Аратым" усяго па паўтары старонкі ў кожным нумары занята пад корэспондэнцыі з месц, з вёскі. Быту зусім ня відно. Няма артыкулаў, якія кіравалі-б самаадукацыяй вясковай моладзі.

Добры зьмест мае літаратурны аддзел. Ён у большай сваёй частцы запаўняецца сябрамі „Маладняка". Вершы... лепшых ня трэба, але гэта—ня вёска, няма хаця й слабых, але вершаў жыцьця маладых аратаяў з вёскі, ад плуга.

Вельмі да месца „Вясёлая старонка" з сьпевамі для вясковай моладзі, бо пытаньне аб тым, што сьпяваць вёсцы—вельмі хворае пытаньне. „Малады Араты" дае вёсцы вельмі добрыя песьні.

Не да месца доўгія: п'еса Міх. Каленты—„Уцёк з турмы" і апавяданьне М. Нікановіча—„У хвалях жыцьця" (яшчэ канца няма). Займаюць шмат месца і ад гэтага губіцца і каштоўнасьць аддзельнага нумару, і каштоўнасць усяе часопісі, якой патрэбны кароткія і жыцьцёвыя апавяданьні, як, напрыклад, М. Араб'я—„Сідарчук".

„За новую вёску"—вельмі неабходны аддзел. Апрача гутарак трэба ўцягнуць у супрацоўніцтва ў гэтым аддзеле вясковых чытачоў.

Да месца „Гутаркі агронома", бо трэба з маладых аратаяў зрабіць добрых гаспадароў.

У аддзеле „Што чытаць"—апрача сельска-гаспадарчых кніжак, трэба было-б паказваць і кніжкі па політыцы і самаадукацыі.

З тэхнічнага боку выданьне вельмі добрае. Наша пажаданьне—павялічыць лік сваіх карэспандэнтаў з вёскі і зьвярнуцца яшчэ больш тварам да вясковай моладзі, каб зрабіцца кіраўніком яе—яшчэ пакуль-што застаецца пажаданьнем для „Маладога Аратага".

# ХРОНІКА.

## ПА БССР.

**О Да юбілею 400-годзьдзя друку на Беларусі.**—Скарынінскія юбілейныя дні адбудуцца ў лістападзе, альбо сьнежні г./г. Ва ўрачыстасьці прымуць шырокі ўдзел усе культурныя ўстановы БССР. Да гэтага часу выйдуць з друку: навуковы Скарынінскі зборнік з артыкуламі, напісанымі цэлым шэрагам гісторыкаў БССР і СССР і навукова-популярны нарыс проф. У. Пічэты—„Францішак Скарына і яго час“. Каб адзначыць першага беларускага друкара Ф. Скарыну, яму ў Полацку, на Замкавай гары, будзе пастаўлен помнік. У дні юбілею будзе толькі закладка помніка, а фактычнае адчыненьне адбудзецца вясною 1926 году. Распрацоўка мастацкага боку помніка ўскладзена на Віцебскі мастацкі тэхнікум.

**О У Галоўпрофасьветы.**—У бягучым навучальным годзе ў ВНУ, рабфакі і тэхнікумы БССР прынята 1639 асоб. З гэтага ліку ў 4 ВНУ—568, на 3 рабфакі—371 і ў 12 тэхнікумаў—700. Прынятыя падзяляюцца: па социяльнаму становішчу: сялян—952 (58,09%), рабочых—299 (18,25%), іншых—уключаючы служачых і працоўную інтэлігенцыю—388 (23,66%); па партыйнасьці: сяброў і кандыдатаў КПБ і ЛКСМБ—542 (23,7%).

— Цэнтральнай Прыймовай Камісіяй пры Галоўпрофасьветы вастаноўлена ў правох студэнтаў з ліку выключаных у 1924 г. па акадэмічнай праверцы—110 асоб.

**О У ЦБ пролетстудэнцтва Беларусі.**—Пры ЦБ створаны камісіі: акадэмічная, культасьветная і эканомічная, якія ўжо прыступілі да працы. Камісіі будуць распрацоўваць розныя матар'ялы і падрыхтоўваць пытаньні па ўсім галінам студэнцкага жыцьця.

— Прэзыдыум ЦБ падрыхтоўвае матар'ялы па ўключэньню ў беларускае аб'яднаньне пролетстудэнцтва ўсіх тэхнікумаў як пэдагогічнага, так і сельска-гаспадарчага тыпу. Запрошаны ад студорганізацый тэхнікумаў неабходныя весткі.

— На 15-ае лістапада склікаецца пленум ЦБ пролетстудэнцтва.

**О Па навучальным установам.**—Пры БДУ ў гэтым годзе адчынен факультэт права і мясцовае гаспадаркі, які мае толькі першы курс. На факультэт залічана 145 асоб.

— 9 кастрычніка адбылася конфэрэнцыя профсэкцый студэнцтва БДУ, на якой абрана новае Выканбюро з 7 сяброў і 3 кандыдатаў і рэвізыйная камісія з 3 сяброў і 2 канд.

— СНКБ адпусьціў Выканбюро БДУ на абсталяваньне агульных памяшканьняў дзеля студэнтаў 20.000 р.

— Агульны сход студэнтаў Рагачоўскага Белпэдтэхнікуму пастанавіў выпісаць „Чырвоны Сьцяг“ па 1 экз. на 5 асоб.

**О У Інбелкульце.**—Рабоча-сялянская ўлада Беларусі даручыла Інбелкульту склікаць Усясьветны Конгрэс беларусаведаў. На конгрэс запрошаны вучоныя ўсіх частак сьвету. На конгрэсе будуць зроблены даклады аб экономіцы і гаспадарцы, этнолёгіі, мове, літаратуры, мастацтве, гісторыі, краязнаўстве Беларусі і г. д.

У час конгрэсу будзе організавана выстаўка як з сучаснага жыцьця, так і з мінулага Беларусі. Матар'ялы будуць узяты з розных архіваў і музэяў. Выстаўка будзе мець аддзелы:

гісторыка-археолёгічны, этнографіі, прыроды, мастацтва, старадрукаваных кніг і старасьветных рукапісаў, гаспадаркі і экономікі і шмат іншых.

Да конгрэсу будзе выдана шмат розных зборнікаў, якія будуць сьведчыць аб дасягненьнях культуры і гаспадаркі БССР.

— ЦК краязнаўства пры ІБК здало ў друк першы нумар свае часопісі „Наш край“, якая мае хутка высьці з друку.

**О У „Маладняку“.** Вышлі з друку чарговыя нумары маладнякоўскае кніжніцы: № 8 -С. Хурсік „Першы паўстанак“, апавяданьні; № 9—М. Зарэцкі „Пела вясна“, апавяданьні; № 10—А. Якімовіч, Вершы.

— Здадзены ў друк: К. Чорны—„Срэбра жыцьця“, апавяданьні; А. Дудар— „Сонечнымі сьцежкамі“, вершы; П. Трус, вершы.

**О Рознае.** У Менск на сталую працу ў БДУ пераехалі проф. М. В. Доўнар-Запольскі і археограф Д. І. Даўгяла.

— Проф.-зоолёг Фядзюшын закончыў экспэдыцыйны досьлед гэтага году па вывучэньню фаўны Беларусі. З прывезенага ім зоолёгічнага матар'ялу асабліва багата прадстаўлена птаства (звыш. 1.000 экз.).

## ПА СССР.

**О Масква.** Інстытут імя У. І. Леніна вядзе надзвычайна інтэнсыўна сваю працу па разборцы і сыстэматызацыі багатага архіву Леніна і матар'ялаў, якія датычацца яго. Па скончэньні гэтае працы можна будзе падыйсьці да навукова-акадэмічнага выданьня поўнага збору твораў У. І. Леніна. Інстытутам ужо падрыхтаваны і значна дапоўнены тры першыя томы (1893--99 г. г.), якія і здадзены ў друк. Агульную рэдакцыю трымае. Л. Каменеў. Таксама падрыхтаваны і здадзены ў друк 4, 5 і 6 томы так званых „Ленінскіх зборнікаў“, у якія ўвайшлі матар'ялы „Іскры“ за 1902--5 г. г, па рэволюцыі 1905 году і дванцацёхаркушовая праца-рукапіс Леніна па яго ўвагах пры вывучэньні Гэгэля і Фэйербаха. Рыхтуецца другі зборнік успамінаў пра Леніна—Н. Крупскай і М. Ульлянавай.

## ЗА МЕЖАМІ.

**О Польшча.** Віленскі акруговы суд прысудзіў рэдактара беларускае віленскае газэты Антона Войціка за „зьневажаньне ўлады“ да 6-ці месяцаў турмы.

— Па загаду камісара ўраду Вільні, сконфіскаваны № 2 (3) часопісі віленскіх студэнтаў беларусаў—„Студэнская думка“.

— Меўшая адбыцца ў Вільні вечарына Беларускага Студэнцкага Саюзу з праграмай: „Шчасьлівы муж“, Аляхновіча і концэртнай часткай, не адбылася, бо камісар ураду Вільні ня даў дазволы быццам таму, што ў праграму быў уключаны беларускі гымн „Ад веку мы спалі“.

— У Вільні сконфіскаваны беларускі каляндар на 1926 год быццам за тое, што ён мае супроцьдзяржаўны зьмест.

**О Чэха-Славаччына.** Маюцца весткі, што ў Праве Украінскі Пэдагогічны Інстытут, які абслугоўвае і беларускае студэнцтва, пастанавіў стварыць катэдру беларусазнаўства.

**О Нямеччына.** Тэорыя адноснасьці Энштэйна выклікае новыя і новыя крытычныя працы. Так, вышла кніжка Г. Фарскага, якая крытыкуе тэорыю з філёзофскага боку. Гуронскі выдаў невялічкую працу з фізычна-навуковаю крытыкаю тэорыі проф. Энштэйна.

---

**Пры ЦБ Пролетарскага Студэнцтва організуецца студэнцкі гурток „прыхільнікаў часопісі „Чырвоны Сьцяг“, які будзе мецъ дзьве сэкцыі: літаратурную і навуковую. Кіраваць літаратурнай сэкцыяй будзе т. Ад. Бабарэка („Маладняк“), а навуковаю—профэсары БДУ. У сэкцыю запрашаюцца ўсе, хто жадае прыняць удзел у „Чырвоным Сьцягу“.**

## Адказы аўторам.

**Сушкевічу:** Верш слабы. Вам трэба было-б папрацаваць у маладнякоўскіх арганізацыях.

**Жучко:** Вершы на расійскай мове перададзены ў „Профрух“, а на беларускай—слабыя. Ня пойдуць.

**Пралеску:** „Лепш за агранома“—перададзена ў „Малады Араты“.

**Ключановічу:** Ня пойдзе. Кепска напісана. Ня дадзена здавальняючага адказу на пастаўленае пытаньне: „Якою павінна быць грамадзянская праца студэнта“. „Справаздача студэнта-нопаўпа аб летняй працы“—бяз зьместу і кепска напісана. Таксама ня пойдзе.

**Б. Цітаву:** Ваш верш „Упярод за сёсьцер і братоў“ ня пойдзе. Вы пішаце:

„Ідзі ўпярод к заре пазнаньня;
Змагайся з хмараю начной
Штоб сьвету яркая сіяньня
Бляснула ярка над зямлёй!“

Як раз, як у Надсана:

„Иди вперед к заре познанья,
Борясь в глубокой тьме ночной,
Что-б света яркое сиянье
Блеснуло снова над землей!“

Сьпісана, але зусім няўдала. Пасьля гэтага плагіяцтва вы яшчэ кажаце, што „Исправленьня дапушчаю“. Гэтых „исправленьняў“, ведаеце, і не патрэбна, працаваць над імі ня варта. Затым вы кажаце, што „многа в моіх работах русіфікацый... прашу рэдакцыю помясьціць мой сьціхатвареньні, так буду ящэ пісаць“.

Не, ня трэба! бязглузная праца! Ня раім Вам ёю займацца. Ня ведаем, ці шмат у Вашых працах русіфікацый, бо акрамя маючыхся ў рэдакцыі двух вершаў, нягодных ня толькі для агульна-студэнцкай часопісі, але нават і для насьценнае газэты, нічога з вашых прац ня маем.

Раім Вам больш вершаў ня пісаць.

**Кіені:** Пойдзе ў наступным нумары.


Рэдакцыя: *А. Крыніцкі. А. Кахановіч. С. Кацэнбоген. М. Ляўкоў. Мік. Шапавалаў.*

Адказны сэкратар **Мік. Шапавалаў.**

# ЗЬМЕСТ.



## ЛЕНІНІЗМ.



## НАВУКОВЫ АДДЗЕЛ.



## ЛІТАРАТУРА.



## ПЫТАНЬНІ ВЫШЭЙШАЙ ШКОЛЫ.



## НА ВАКАЦЫЯХ.



## ЗА РУБЯЖОМ.

## ПА ВНУ, РАБФАКАХ І ТЭХНІКУМАХ.



## КРЫТЫКА І БІБЛІОГРАФІЯ.